№5 (980) 1 мая 2018 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

16+

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду



# «Бо будзе, як у Арменіі»

## Саргсяна скінула вуліца. Статысячныя дэманстрацыі было немагчыма ні разагнаць, ні замаўчаць



Сустрэча Нікола Пашыняна (справа) і Сержа Саргсяна 22 красавіка доўжылася ўсяго 3 хвіліны. Саргсян сышоў з залы пасля першай жа заявы Пашыняна, які запатрабаваў ад яго сысці ў адстаўку. На наступны дзень Саргсян сыдзе яшчэ раз — ужо ў адстаўку.

Былы прэзідэнт, а пасля прэм'ер-міністр Арменіі Серж Саргсян падаў у адстаўку пад ціскам дэманстрацый і страйкаў. Навіна пра сыход нязменнага кіраўніка краіны выклікала эйфарыю ў жыхароў Ерэвана.

На цэнтральнай плошчы горада сабраўся шматтысячны мітынг. Людзі танцавалі, слухалі лідараў апазіцыі і нават смажылі шашлыкі.

Лідар апазіцыйнага руху «Елк» («Выйсце») Нікол Пашынян з трыбуны мітынгу заклікаў правесці датэрміновыя парламенцкія выбары і расказаў пра падзеі таго апошняга, вырашальнага дня, калі яго спачатку арыштавалі супрацоўнікі армянскай дзяржбяспекі, а пасля да яго ў турму прыбылі высокапастаўленыя асобы з кіраўніцтва краіны на перамовы.

Пашынян падкрэсліў, што ў армянскай аксамітнай, бяскроўнай рэвалюцыі няма ніякага геапалітычнага кантэксту.

Арменія абапіраецца на Расію, будучы аточаная з трох бакоў мусульманскімі краінамі і знаходзячыся ў стане фактычнай вайны з Азербайджанам, блізкім саюзнікам Турцыі.

Апазіцыя запатрабавала прызначэння новага часовага ўрада на час да датэрміновых выбараў.

Што тычыцца датэрміновых парламенцкіх выбараў, то, згодна з Пашынянам, яны павінны быць праведзены ў «самыя кароткія лагічныя тэрміны».

ЗША заявілі пра гатоўнасць працаваць з новым урадам.

Расійскія СМІ пра падзеі ў Ерэване паведамлялі мінімальна.

У Арменіі палітычная сістэма досыць дэмакратычная, існуюць свабодныя СМІ.

## Аляксандр Лукашэнка: Я пра рэферэндум нават не думаў

«Прэзідэнт унёс поўную яснасць ва ўсе размовы — рэферэндуму ў найбліжэйшы час не будзе. І таму тыя, хто доўга спекуляваў на гэтую тэму, могуць расслабіцца», — заявіла кіраўніца Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына.

Пры гэтым яна адзначыла, што «ён, магчыма, калі-небудзь адбудзецца, калі будзе рашэнне аб змене нейкіх кардынальных палажэнняў Канстытуцыі». Аднак да гэтага, на думку кіраўніка ЦВК, павінны саспець грамадства і дзяржава, а таксама з'явіцца перадумовы.

«Так, у нас у Канстытуцыі ўжо досыць шмат састарэлых нормаў, але калі яны не з'яўляюцца ў дадзены момант гарачымі, гэта значыць, не перашкаджаюць грамадству існаваць і функцыянаваць, то стабільнасць нашмат важнейшая за мадэрнізацыю канстытуцыйных норм», — заявіла Ярмошына.

Варта адзначыць, што пра змены ў Канстытуцыю раней гаварылі Аляксандр Лукашэнка і Лідзія Ярмошына. Аднак пасля масавых пратэстаў у Арменіі, выкліканых менавіта жаданнем падоўжыць знаходжанне ва ўладзе дзейнага кіраўніка краіны, тон памяняўся. У звароце кіраўніка дзяржавы да парламента прагучала, што рэферэндум непатрэбны.

«Я ніколі не дзейнічаў несумленна ў дачыненні да нашых людзей і ніколі на гэта не пайду. Я абяцаў і ніколі не парушу сваю клятву. Бо будзе, як у Арменіі», — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў звароце да парламента і народа. «Я асабіста пра рэферэндум нават не думаў», — дадаў ён.

**Мікола Бугай**

## Хто такі Нікол Пашынян, які змяніў уладу ў Арменіі

42-гадовы Нікол Пашынян — прафесійны журналіст. Ён нарадзіўся ў невялічкім горадзе Іджэван і скончыў аддзяленне журналістыкі Ерэванскага ўніверсітэта ў 1995 годзе. Ужо ў 1999 годзе папулярны журналіст стаў рэдактарам газеты «Айкакан жаманак», якая актыўна крытыкавала ўладу прэзідэнта Роберта Качарана.

У палітыку Пашынян прыйшоў у 32 гады, у 2007 годзе, калі ўпершыню ўзяў удзел у выбарах у шэрагах блока «Імпічмент», але той альянс набраў толькі 1,29% галасоў.

У 2008 годзе Пашынян падтрымліваў кандыдата ў прэзідэнты (і экс-прэзідэнта) Лявона Тэр-Петрасяна. Тады пасвыбарчая барацьба перарасла ў перастрэлкі на вуліцах Ерэвана, улады пратэсты здушылі, а яе лідараў, у тым ліку Пашыняна, асудзілі за арганізацыю масавых беспарадкаў. Пашыняну далі 7 гадоў. Больш за год ён хаваўся, перш чым здацца паліцыі. У турме ён правёў два гады, пасля чаго выйшаў на свабоду па амністыі. І ўжо праз год, у 2012-м, стаў дэпутатам парламента па партыйным спісе Армянскага нацыянальнага кангрэсу — старой партыі, аналага нашага Народнага фронту. У 2015-м Пашынян становіцца сузаснавальнікам новай партыі, а ў 2017-м яго-ны «Елк» («Выйсце»), аказваецца адзінай апазіцыйнай палітычнай сілай, што прайшла ў парламент. Паводле звестак армянскага ЦВК, партыя набрала сціплыя 7% галасоў.

Пашынян удзельнічае і ў выбарах мэра Ерэвана: атрымлівае, паводле афіцыйных звестак, усяго 22%.

«Елк» — самая праеўрапейская палітычная сіла ў Арменіі.

І менавіта Пашынян, у камуфляжнай форме, устаў на чале пратэстаў, якія змусілі сысці нязменнага Сержа Саргсяна. Варта адзначыць, што, калі Пашыняна арыштавалі, з трыбуны пратэстоўцамі кіравала ягоная жонка.

Пратэсты ў Арменіі былі падкрэслена мірнымі і негвалтоўнымі.

**Сяргей Гезгала**



# Анатоль Лябедзька: Пасля адстаўкі я найперш сяду на ровар і рвану ў падарожжа

Сыходзіць палітык, які 18 гадоў узначальваў Аб'яднаную грамадзянскую партыю.

«Добра, што я абраў гэты шлях, нягледзячы на тое, колькі перажыў, але не стаў адным з сотні міністэрскіх чыноўнікаў, якія недзе там распусціліся.

У Вярхоўным Савеце XII склікання (1990—1995) я працаваў разам з Віктарам Кучынскім [былы памочнік кіраўніка краіны па асаблівых даручэннях] і Віктарам Шэйманам [кіраўнік спраў кіраўніка краіны]. Канешне, цяпер яны куды больш заможныя, чым Анатоль Лябедзька. Але я больш шчаслівы, і ў сям'і, і ў працы», — сказаў ён у развітальным інтэрв'ю на «Белсаце».

А чым далей Лябедзька будзе займацца?

«Ёсць некалькі задумаў. Не буду агучваць пакуль. А найперш — сяду на ровар і рвану куды-небудзь. А пасля сядзем з жонкаю на аўтамабіль і паедзем вандраваць. Як звычайны турыст, узяць фотаапарат і пайсці ў нейкія мясціны, спакойна, без гэтае гонкі».

Хто стане новым старшынёй Аб'яднанай грамадзянскай партыі, пакуль невядома.

# Арыштаваны блогер Зміцер Галко

Яго затрымалі пры ўездзе ў Беларусь і адправілі на "Валадарку".

22 красавіка Змітра Галко затрымалі на беларуска-ўкраінскай мяжы.

Аказалася, што блогер быў у вышуку ў якасці падазраванага па артыкуле 364 Крымінальнага кодэкса «Гвалт або пагроза ўжывання гвалту ў адносінах да супрацоўніка органаў унутраных справаў».

Гісторыя пачалася ў канцы мінулага лістапада, калі непаўналетні сын Змітра Ян адзначаў свой дзень нараджэння, дзе прысутнічаў і бацька. Паводле версіі міліцыі, у кватэры была гучная музыка, таму нехта выклікаў участковага. Калі ўчастковы з'явіўся, то ў яго нібыта адбылася сутычка са Змітром, у выніку якой у міліцыянта быў пабіты мабільнік.

Варта адзначыць, што на святе ў непаўналетніх быў алкаголь. А потым удзельнікаў затрымлівалі амапаўцы. Адзін з падлеткаў уцякаў, скочыў з балкона, паламаў нагу.

Сам Галко казаў, што проста ўзяў міліцыянта за рукі, ніякай бойкі не было.

Праз нейкі час пасля таго інцыдэнту Галко з сынам з'ехаў ва Украіну, у Марыупаль, дзе жыве ягоная жонка. Сын ужо вярнуўся на радзіму, цяпер спрабаваў і бацька.

Зміцер Галко — беларускі журналіст і блогер, які супрацоўнічаў з многімі выданнямі. Запомніўся серыяй рэпартажаў пра вайну ва Украіне.

**Зміцер Панкавец**

# У Мінску на маёўцы затрымалі 5 паплечнікаў Статкевіча

Адзін — з плакатам некарэктнага зместу.




У Мінску на маёўцы затрымалі 5 паплечнікаў Мікалая Статкевіча.

У некаторых з іх былі нацыянальныя сцягі і плакаты з сацыяльнымі лозунгамі — «Дайце народу свабоду і работу». А вось Сяргей Спарыш прыйшоў з плакатам некарэктнага зместу пра «вусатага пеўня».

Сярод затрыманых таксама Валянцін Троцкі, Рыгор Пагарцаў і Яўген Афнагель. «Затрыманыя знаходзяцца ў Цэнтральным РУУСе. Яны адмовіліся станавіцца тварам да сцяны», — паведаміў Мікола Статкевіч.

**Іван Задума**

# «Такіх сінглаў мы яшчэ не выпускалі»

У Navi нарадзіўся сын, яго назвалі Мацеем.



1 мая ў Ксеніі Жук і Арцёма Лук'яненкі з гурта *Naviband* нарадзілася першае дзіця.

«Сёння, 1 мая, у нас нарадзіўся сын! Гэта самае неверагоднае пачуццё на Зямлі! Новае жыццё, імя якому Мацей! Дзякуй кожнаму за падтрымку і перажыванні. Такіх сінглаў мы яшчэ не выпускалі», — напісалі спевакі ў сябе ў інстаграме.

**Сяргей Гезгала**

# 31-гадовы беларус загінуў на пляжы ў Шры-Ланцы

Трагедыя здарылася нечакана: мужчыну з-пад самага берага зацягнула ў мора разрыўной плынню. Жонка бачыла яго літаральна за пару метраў ад сябе і нічога не змагла зрабіць, піша *Onliner.by*.

На пляжы было шмат людзей, яны пашыхтаваліся ў ланцужок, трымаючыся за рукі, каб ўратаваць. Аднак не дасталі.



Са слоў жонкі, яны былі цвярозыя, а ратавальнікаў на гарадскім пляжы не было. Тэлефонаў у пары з сабой, трэба разумець, таксама не было.

Пара адпачывала на Шры-Ланцы актыўна: займалася каньёнінгам і рафтынгам.

У пары засталася дзевяцімесячная дачка.

Разрыўная, або зваротная, адбойная плынь (анг. *rip current*) — падступная плынь, што моцна нясе ад берага менавіта на паверхні.

Калі ў яе трапляеш, трэба плысці не супраць плыні, а ўбок. І не панікаваць — плынь тая не працяглая. Калі яна аслабне, трэба вырвацца з яе ўбок і тады ўжо кіравацца да берага.

**Мікола Бугай**




# Хто такі Арцём Чайка, які ўдзельнічаў у адкрыцці мотасезона разам з Віктарам Лукашэнкам

У Мінску 29 красавіка прайшло адкрыццё байкерскага сезона *H.O.G. Spring Challenge 2018*. Да Кургана Славы прыехалі сын Аляксандра Лукашэнкі Віктар з сям'ёй, міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч і начальнік ДАІ Дзмітрый Карзюк.

Усяго сабралася каля 6000 чалавек, у тым ліку госці з Расіі і Еўрасаюза.

Сярод ганаровых гасцей быў Арцём Чайка (**на фота злева**). Гэта сын генпракурора Расіі і чалавек неадназначнай рэпутацыі. Яму было прысвечанае спецыяльнае расследаванне расійскага антыкарупцыйнага блогера Аляксея Навальнага.

Расследаванне выявіла ў Чайкі дарагую нерухомасць у краінах Заходняй Еўропы. Акрамя таго, ён кантралюе шматлікія прадпрыемствы ў Расіі — часта яны аказваліся ў яго руках у выніку непразрыстых апэрацый.

Віктар Лукашэнка з жонкай не першы год бяруць удзел у мотапрабегах. Здаецца, матацыкл — такое ж «палітычнае» хобі для сына, як у Аляксандра Лукашэнкі — хакей.

Мотапрабегі Віктар выкарыстоўвае ў тым ліку для выбудовы кантактаў з Расіяй. Акрамя таго, беларускія мотапрабегі сталі свайго роду заменнікам для актыўнасці чыста расійскіх мотаклубаў у Беларусі. У прыватнасці, раней на Беларусь былі спрабавалі распаўсюдзіць сваю актыўнасць «Начныя ваўкі», актывісты якіх адыгралі пэўную ролю ў захопе Крыма і Данбаса.

**СГ**

## Сцісла

**Моладзь правяла талаку на «барысаўскіх Курапатах»**

Група юнакоў выйшла на прыборку барысаўскіх «Батарэй», дзе ў 30-я гады Саветы расстрэльвалі людзей. Моладзь сабрала смецце і планує дамовіцца з мясцовымі ўладамі, каб на «Батарэях» паставілі крыжы памяці і мемарыяльны знак. «Трэба, каб быў помнік», – кажа Аляксей Руды. «Батарэі для Барысава — тое самае, што Курапаты для сталіцы», — тлумачыць Дзяніс Мандзік.

**Знайшлі матацыкліста, праз якога загінуў даішнік у Гомелі**

У Гомелі ў нядзелю даішнікі сталі лавіць матацыкл «Хонда CBR» без нумара, які не спыніўся на іх патрабаванне і паскорыў рух. У выніку міліцыянт на матацыкле сутыкнуўся з аўтамабілем «Нісан Кашкай». 29-гадовы інспектар загінуў. А кіроўцу-ўцекача хутка ідэнтыфікавалі і знайшлі. Ім аказаўся 20-гадовы жыхар Рэчыцы без правоў. Заведзеная крымінальная справа.

## Падзякі

Дзякуем чытачам-фундатарам «Нашай Нівы» А.Небераву, Д.Каладзе, Сяргею Ш., Аляксандру Т., D.K., Васільеву, Юліі, Ю.Ю., Аляксею, А.Герасіменку, Алене, Вадзіму Ж., Аляксандру Т., Т.Тамілаву, Я.Б., Я.З., Андрэю Н., Лаўдансу, Богдану, В.Жыдовічу, Н.Паклонскай, Міхаілу Т., Додзю, Вашкевічу, Максімовічу, І.Іванову, Я.Чыгіру, М.Крупко, Саковічу, а асабліва Раману Х., Віталю Броўку, Андрэю К. і чалавеку, які падпісаўся «За выкрыццё цэмры».

## Прыватныя абвесткі



## Самае чытанае на nn.by за красавік

1. Беларусы ў Польшчы выкідалі смецце з вокнаў машыны. Рэакцыя іншага кіроўцы была для іх нечаканаю
2. На вучэннях пад Мінскам загінуў 20-гадовы салдат. Трапіла куля з танкавага кулямёта
3. 11-гадовая дзяўчынка ў эфіры расійскага ТБ папраўляла Максіма Галкіна: «Я з Беларусі, а не Белоруссии»
4. Аўстрыйскі стандарт: 12 дробязяў з жыцця Вены, якія варта пераняць Мінску, каб стаць яшчэ лепшым
5. «Людзі, апамятайцеся!» Нягледзячы на ўгаворы выканкама, суседзі не дазваляюць паставіць у пад'ездзе пад'ёмнік для інваліда
6. Легендарная гімнастка Вольга Корбут: Мяне згвалтаваў трэнер перад Алімпіядай. Кныш: Корбут — дура дурай
7. Ад готыкі да мадэрну: інтэлектуальны гайд па Вене для самых культурных падарожнікаў ад Віктара Марціновіча
8. Дык колькі ж каштуе лятаць з Мінска, Вільні, Варшавы і Кіева?
9. У Фінляндыі прадукты з апошнім днём тэрміну прыдатнасці «прадаюць» бясплатна
10. Конкурс сэлфі Samsung: «Мая Алачка была такая прыгажуня, што ніякая Гурчанка з ёй параўнацца не магла!» — гісторыя сям'і пасляхаваных інжынераў

# «Людзі, апамятайцеся!»

**Нягледзячы на ўгаворы выканкама, суседзі не дазваляюць паставіць у пад'ездзе пад'ёмнік для інваліда. Піша Алена Германовіч, Naviny.by.**



26 красавіка ў гомельскай школе № 60 праходзіў сход жыхароў дома №18 на вуліцы Народнага Апалчэння. Пытанне на парадку дня было адно: дазволіць інваліду-вазочніку Андрэю Антоненку паставіць у пад'ездзе пад'ёмнік або не. Забягаючы наперад, скажам, што пытанне так і не вырашылася. Хоць улада — яна якраз на баку Андрэя. Супраць — суседзі.

27-гадовы Андрэй Антоненка з нараджэння мае фізічныя абмежаванні. Ён перасоўваецца на калясцы. Трапіць на вуліцу яму не так проста. У ліфт яшчэ можна так-сяк заехаць. Але на пляцоўцы першага паверха вазочніка чакаюць сем прыступак, па якіх трэба з'ехаць.

Сям'я Андрэя доўгі час хадзіла па інстанцыях, каб паставіць у пад'ездзе пад'ёмнік, але пытанне не вырашалася. Першапачаткова мясцовыя ўлады ў адказах спасылаліся на тое, што інвалід-калясачнік у дадзенай кватэры не зарэгістраваны, і менавіта таму нельга паставіць пад'ёмнік.

Але ўжо ў маі хлопец стане ўласнікам дадзеных «квадратаў». Аднак пад'ёмнік для яго ўсё роўна застаецца толькі марай. І перашкода гэтаму — суседзі. Яны супраць.

Старшыня ЖБВК у сакавіку правяла апытанне жыхароў дома, сабрала подпісы — усяго 106, — і ўсе супраць пад'ёмніка.

Аднак пра выпадак напісалі ў інтэрнэце, і пасля грамадскага рэзанансу ў справу ўмяшаўся старшыня Гомельскага гарвыканкама Пятро Кірычэнка.

### «Дзякуй мэру, ён прыстойны і адказны чалавек!»

«Там была ў гарвыканкаме цэлая нарада па нашым пытанні. І старшыня гарвыканкама па-людску паставіўся да нас, гэта вельмі прыстойны чалавек, і хачу выказаць яму вялізную падзяку», — расказваў, хвалюючыся, Андрэй.

На сустрэчу з жыхарамі прыйшлі прадстаўнікі мясцовай улады, камунальных службаў, МНС. Яны казалі, што пад'ёмнік не парушыць іх спакой, што ён адпавядае ўсім нарматывам і не зойме шмат месца.

Выступілі прадстаўнікі выканаўчай і «народнай» улады — намесніца кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёна Надзея Куніцкая і дэпутат Уладзіслаў Фясенка. Заклікалі да спагады, міласэрнасці. Але твары ў зале былі панурыя.

### «Вам нічога плаціць не трэба!»

Намесніца кіраўніка адміністрацыі патлумачыла, што пад'ёмнік паставяць за кошт спонсарскіх сродкаў. Абсталяванне ж будзе перададзена сям'і Антоненкі. І менавіта яны будуць аплачваць тэхнічнае абслугоўванне і электраэнергію.

«Выдаткі будуць мізэрныя як па электраэнергіі, так і за абслугоўванне», — запэўнівала Куніцкая.

«Мы ўсе — людзі, якія павінны суперажываць, разумець, дараваць. І любы чалавек, любы грамадзянін павінен карыстацца ўсімі выгодамі, якія ёсць у вас, ёсць у нас. Таму і Андрэй Уладзіміравіч таксама як чалавек, як грамадзянін нашай рэспублікі хоча мець зносіны з людзьмі, сябраваць, ён хоча дыхаць свежым паветрам! І вас папрашу ад імя адміністрацыі раёна, ад сябе асабіста, проста ад чалавека — давайце падтрымаем устаноўку пад'ёмніка! Тым больш, я хачу яшчэ раз падкрэсліць: фінансавых выдаткаў вы не будзеце несці! Сёння адміністрацыя ўзяла на сябе такую адказнасць — за кошт спонсарскіх сродкаў дапамогуць нашы прадпрыемствы і арганізацыі», — заклікала жыхароў дома Надзея Куніцкая.

Выступіла і маці Андрэя. Тамара Антоненка не чакала, калі паўстала пытанне пад'ёмніка, што будзе такое негатыўнае стаўленне з боку суседзяў.

«Мы былі шакаваныя. Вы ўсе супраць нас настроіліся. Мы сталі ізгоямі. Нам было вельмі страшна гэта перажыць. Таму мы сталі абараняцца — звярнуліся ў розныя органы. Дзякуй уладзе, што нас падтрымала. Звярнуліся ў суд, бо вы выдатна ведаеце, што ёсць закон аб стварэнні перашкод для безбар'ернага асяроддзя для інвалідаў. Мы гэта не ўтойваем. Але як пайшоў рэзананс, мы адклікалі пазоў, мы згодныя ісці на прымірэнне, хоць мы з вамі ніколі не сварыліся. І спадзяемся — апошняе слова за вамі, што вы скажаце», — выступіла Тамара Іванаўна.

Слова далі і самому Андрэю.

«З большасцю з тых, хто тут прысутнічае, я нават не знаёмы, таму было б няправільна з вашага боку ставіцца да мяне якім-небудзь чынам негатыўна, бо асабіста вам, кожнаму і ў цэлым, я нічога дрэннага не зрабіў. Таму з чалавечага пункту гледжання, не па-хрысціянску адчуваць да мяне негатыў тады, калі вы мяне нават не ведаеце. Давайце вырашаць пытанне мірным шляхам, ніхто ж не імкнецца да абвастрэння канфлікту. Я хацеў атрымаць ад вас разуменне і падтрымку і заадно пазнаёміцца з вамі», — сказаў Андрэй.

Пасыпаліся пытанні з залы. Першае, якое хвалявала суседзяў: чаму Андрэй не жыве ў кватэры ў мікрараёне Беліца, якую раней атрымала сям'я?

Тамара Іванаўна патлумачыла, што кватэру яна не атрымала, а будавала сама, і што там умовы для інваліда не лепшыя, чым тут, і што з мая Андрэй становіцца ўласнікам кватэры на вуліцы Народнага Апалчэння.



**Чыноўнікі расстроіліся амаль да слёз, але ўгаварыць людзей не змаглі.**

«Чаму вам так не дае спакою мая кватэра? У вас ёсць хоць часцінка душы, міласэрнасць? Людзі, апамятайцеся!» — разгублена пыталася маці інваліда.

Пачуўся крык з залы: «А як нам жыць?! Як мэблю насіць?»

Прадстаўнікі ўлады, камунальных службаў, МНС падрабязна і скрупулёзна патлумачылі: механізм не парушыць спакойны побыт жыхароў, не з'есць іх метры, не будзе замінаць хадзіць туды-сюды.

Спецыялісты палічылі, калі Андрэй будзе кожны дзень адзін раз карыстацца механізмам для спуску і адзін раз для ўздыму, то за месяц прыйдзецца заплаціць за электраэнергію 13 капеек. Калі жыхары хочуць — для Антоненкі паставяць асобны лічыльнік.

Зноў абураныя крыкі з залы: «А колькі ён месца займае? А што, калі ён загарыцца, а калі хтосьці запалку кіне ці нейкі бензін разальюць?!»

Прадстаўнік МНС запэўніваў: пад'ёмнік бяспечны. Але, мяркуючы па незадаволеных тварах у зале, гэтыя запэўніванні суседзяў Андрэя не пераканалі.

Старшыня кааператыва хвалявалася: «Дом у нас і так халодны. А калі вы пры ўстаноўцы пад'ёмніка будзеце рабіць рэканструкцыю тамбура або дзверы прыберацe?» — «Вашы дзверы, ваш тамбур будуць захаваны!» — запэўніваў прадстаўнік камунальнікаў.

Прадстаўнік мясцовай улады нават пайшоў па шэрагах і ўсім ахвотным паказаў на экране свайго смартфона, як выглядае пад'ёмнік і як ён працуе.

Але ў зале знайшлі новы аргумент: «А шум?! Ён жа шуміць будзе!»

### «І хай кожны жыве са сваім «супраць»

Выступіў і дэпутат Уладзіслаў Фясенка. Ён толькі нядаўна даведаўся аб праблеме, і яна для яго незразумелая.

«Мы сутыкнуліся з сітуацыяй, што чалавек з абмежаванымі магчымасцямі мае патрэбу ў нашай падтрымцы. Ён не просіць жа нейкіх грошай, ніхто не патрабуе ад вас нейкага там удзелу — проста скажыце «так». Ну скажыце, як часта вы купляеце і ўносіце ў пад'езд мэблю? Вы кажаце пра нейкі шум, а па факце ў кожнага бываюць то вечарынкі, то яшчэ нешта. Пад'ёмнік — гэта як машынка для стрыжкі: пагудзе дзве хвіліны — і ўсё! Я прашу падтрымаць гэты праект», — пераконваў прысутных дэпутат.

Пачалося галасаванне. Насупленыя людзі не спяшаліся цягнуць рукі. Адна рука, дзве ... тры... З амаль сарака чалавек у зале.

### Намесніца кіраўніка адміністрацыі не вытрымала

Намесніца кіраўніка адміністрацыі не вытрымала: «Трэба ж падтрымаць чалавека! Ён такі ж, як і мы! І мы ні ад чаго не застрахаваны. Ад турмы і сумы не заракайся.

«Трэба даць магчымасць чалавеку дыхаць свежым паветрам! Я не жыхар вашага дома, але дазвольце мне падняць руку! Паважаныя жыхары, паважаныя людзі, давайце прагаласуем», — прасіла Надзея Куніцкая.

Але людзі адказалі не паднятымі рукамі, а чарговай порцыяй гневу, накіраванага на гэты раз супраць фатографа.

«Хто яму даў права здымаць, мы не дазвалялі! Навошта нас здымаць? Каб потым нас выкінуць у інтэрнэт і зганьбіць?!» — крычалі людзі і патрабавалі «прыбраць прэсу», а журналістаў папракалі, што яны так «грошы зарабляюць на гэтым».

«Супраць — значыць, супраць. Так і будзем усе з гэтым жыць, з гэтым «супраць» ... Сітуацыя парадаксальная, я дзіву даюся. Я жыву трыццаць гадоў на вуліцы Царыкава, у нас чалавек з абмежаванымі магчымасцямі, мы проста ўсе скінуліся і паставілі адкідныя рэйкі — такога пад'ёмніка раней проста не было. Мы гэта зрабілі. Я не разумею вас, тут трэба абязлічваць сітуацыю, забыцца нейкія крыўды... Няўжо гэта прычына, каб галасаваць супраць?!» —не разумеў пазіцыю жыхароў дома Уладзіслаў Фясенка.

### «Ці вы настолькі злыя?»

Андрэй Антоненка спрабаваў растлумачыць сваім суседзям, чаму звярнуўся да журналістаў — не толькі, каб вырашыць уласную праблему, але і каб сваім прыкладам дапамагчы тым, хто апынуўся ў падобнай сітуацыі.

Але зала яго не слухала, перабіваючы на дзясяткі галасоў.

«Дайце мне сказаць, дайце мне сказаць! — Андрэй амаль плакаў. — Ці вы настолькі злыя, што не жадаеце дапамагчы камусьці яшчэ?»

«Вялікі вам чалавечы дзякуй... Вам з гэтым жыць да канца свайго жыцця...» — сумна падвяла вынік сходу Надзея Куніцкая.

З 38 прысутных на сходзе жыхароў дома з горам папалам на ўстаноўку пад'ёмніка пагадзіліся 22 чалавекі, але гэтага недастаткова. Старшыня кааператыва пайшла па кватэрах. Мясцовыя ўлады прасілі Тамару Антоненка таксама зрабіць з Андрэем пакватэрны абход, пагаварыць яшчэ раз з жыхарамі...

**Каментар псіхолага**

«Сустрэча з любой «іншасцю» заўсёды выклікае шмат пачуццяў, прычым падзел на «яны» і «мы» можа праходзіць па любой прыкмеце: ад асаблівасцяў апорна-рухальнай сістэмы да колькасці жылых метраў ва ўласнасці. І тады першае пытанне жыхароў: «Чаму Андрэй не жыве ў кватэры ў іншым раёне?» — можа тлумачыцца і жаданнем не сустракацца асабіста з доказам уласнай цялеснай уразлівасці перад жыццём і абставінамі, якія ляжаць па-за сферай нашага кантролю, так і нейкай «класавай нянавісцю», якая часам прымае цалкам пачварныя формы, калі кажуць пра празмерныя льготы і дапамогі для інвалідаў, шматдзетных сем'яў ды іншае», — сказала «Нашай Ніве» псіхолаг Ганна Бобрыкава.

У сям'і інваліда ёсць яшчэ адна кватэра, дзе жыве ягоная сястра — для многіх людзей на гомельскіх ускраінах другая кватэра — гэта недасяжнае багацце.

# Святлана Алексіевіч: Я гляджу на Макея як на трагічную фігуру. Невядома, чым скончыцца яго жаданне іншай Беларусі

У якім выпадку Святлана Алексіевіч пайшла б на кампраміс з уладай, для чаго ёй сустрэча з Лукашэнкам, якая роля Макея ў Беларусі і ў чым яна не згодна з шэф-рэдактарам «Нашай Нівы» — гэтыя і многія іншыя пытанні нобелеўская лаўрэатка абмеркавала ў інтэрв'ю *Tut.by*. Прыводзім самыя цікавыя цытаты спадарыні Алексіевіч.



У самым пачатку інтэрв'ю Алексіевіч прызналася, што назірала за Днём Волі з балкона свайго дома.

Нобелеўская лаўрэатка адзначыла важнасць беларускіх перакладаў кніг:

— Калі мы хочам быць самастойнай краінай, культурай, асобнай ад рускай, то павінны мець на беларускай мове і еўрапейскую класіку, і тое, што пішуць нашы рускамоўныя пісьменнікі. Гэта пашырае культурны кругагляд.

На думку Алексіевіч, беларусы пакуль што не жывуць у 21 стагоддзі:

— Мы ўсё яшчэ пры сацыялізме. У нас сацыялістычная вытворчасць, кіраванне, мысленне. З чаго вы ўзялі, што ўсё іншае? Калі мне кажуць, што гэта гісторыя, я не згаджаюся. На жаль, мае кнігі ніяк не могуць стаць гісторыяй.

Таксама яна адзначыла важнасць сумленных выбараў для будучыні Беларусі:

— У нас павінны з'явіцца сапраўдныя выбары — лідары, якіх мы выбіраем, а не спадчынныя прынцы, якіх на нашых вачах гадуюць. Мы думаем, што яно само па сабе ўладкуецца. Можа, і ўладкуецца, таму што ёсць эфект травы. Усё адно назапашваюцца новыя людзі, пакаленні. І хоча ўлада, не хоча, але ўсё будзе мяняцца. Іншая справа — як хутка? І з крывёй альбо без? Я б хацела, каб без крыві, таму што я не прыхільнік рэвалюцыі.

Спынілася нобелеўская лаўрэатка таксама на пытанні кампрамісаў з уладай і асобе Уладзіміра Макея:

— Так, я чытала артыкулы [Віктара] Марціновіча, інтэрв'ю [Уладзіміра] Макея, рэакцыю на гэта ў фэйсбуку, паколькі тэма мяне сапраўды цікавіць. Але я не веру нашай уладзе. Макей, можа быць, і кажа шчыра. Ен хацеў бы так. Але, думаю, ён таксама не вельмі трывала сябе адчувае. Хутчэй, я гляджу на Макея як на трагічную фігуру. Невядома, чым скончыцца яго жаданне іншай Беларусі.

Напэўна, не без яго дапамогі дасягаецца гэты пакрокавы кампраміс. Ён адзін з тых людзей ва ўладзе, якія думаюць, але ў нас усё вырашае адзін чалавек. Наколькі ён змяніўся за гэтыя 20 гадоў? Ці не рушыў нікуды? Таму што, калі я чую «пойдзеш у кайданках», мне здаецца, што 20 гадоў таму мы з гэтага і пачыналі.

Святлана Алексіевіч пра магчымасць сустрэчы з Лукашэнкам:

— Я б пайшла да яго на сустрэчу. Ён, кажуць, пакрыўдзіўся, што я адмовілася. Але мяне, уласна, ніхто не запрашаў. Паша Якубовіч казаў, што Лукашэнка хацеў сустрэцца. Але хто такі Паша Якубовіч? Гэта ж не Ананіч. Я б пайшла з цікавасці, так.

Таксама яна расказала пра будучыню свайго Інтэлектуальнага клуба:

— Я яшчэ вырашаю для сябе пытанне, ці варта працягваць. Гэта вельмі прыкра, калі той жа Андрэй Дынько ці Валодзя Някляеў кажуць: «Святлана, а чаго ты інвестуеш у рускую інтэлігенцыю? Такі вялікі ганарар даеш — дзве тысячы даляраў».

Я адказваю: «Я думала, што інвестую у беларускую інтэлігенцыю». Як быццам інвестыцыі — гэта толькі ганарар, а не ідэі, думкі, вобразы, асобы. Але яны па-сялянску разважаюць: «Грошы». Вядома, гэта вялікая прыкрасць.

Алексіевіч спынілася на пытанні, каго яшчэ, акрамя яе расійскіх сяброў, можна было б запрасіць у Інтэлектуальны клуб:

— Многія папракалі, што нікога з беларусаў няма. «А каго?» — пытаюся я. І цішыня ...

Вось цяпер, пачытаўшы Бахарэвіча, хацела б запрасіць яго ў клуб. Ён інтэлектуальна нябанальны. Калі хто-небудзь з нашых агульных знаёмых — беларускіх пісьменнікаў — пачынае гаварыць, так і ведай, што ён скажа далей. Тут — не. Яго цікава слухаць. Ён і Марціновіч — два найбольш цікавыя пісьменнікі з маладняка сёння. Можа быць, абмяркуем збліжэнне дзвюх культур — апазіцыйнай і культуры ўлады.

Таксама нобелеўская лаўрэатка сказала, што трэба спакойна рабіць сваю справу:

— Нядаўна я сустракалася з будысцкім прапаведнікам, які казаў: «Усё будзе ў свой час. Усё пройдзе». Трэба спакойна рабіць сваю справу, не думаючы: «Ах, застанusя я ў гісторыі ці не?» Гэта праблема Лукашэнкі: застацца ў гісторыі, сына да яе прыгатаваць. Але не мая.

## Давыдзьку і Гайдукевіча ў эфіры расійскага ТБ прымушалі адказаць, чый Крым

Беларуская дэлегацыя ўзяла ўдзел у ток-шоу «Права голасу» на тэлеканале ТВЦэнтр. У яе склад увайшлі член Савета Рэспублікі, старшыня «Белай Русі» Генадзь Давыдзька, намеснік старшыні ЛДПБ Алег Гайдукевіч, а таксама палітолагі Юрый Шаўцоў і Пятро Пятроўскі.

Расійскія апаненты задалі беларусам канкрэтнае пытанне: чый Крым?

«Вы лічыце Расію суверэннай дзяржавай, як і Беларусь? Так? Тады ў мяне наступнае пытанне: ці вы лічыце Крым часткай нашай Саюзнай дзяржавы?» — прагучала правакатыўнае пытанне.

«Да таго часу, пакуль у Беларусі знаходзіцца пляцоўка [перамоваў] «Мінск-2» — і зараз гэту перадачу будуць глядзець усе ўкраінцы, якія шукаюць хоць якую нагоду сарваць перамовы ў Мінску; і ён [Давыдзька] сенатар, а я прадстаўляю парламенцкую партыю, якая ўваходзіць у міжнародную камісію, што арганізавала перамовы, — я не адказваю на гэтае пытанне. Не павінна ліцца кроў ва Украіне!» — заявіў Гайдукевіч.

«Для мяне на пытанне пра крымскую прыналежнасць адказала бабуля ў восемдзесят нейкім годзе. Я адпачываў у Крыме, мне надакучыла садавіна і гародніна, я вырашыў купіць сала. Я прыйшоў на рынак, сядзіць бабуля, прадае сала. Я кажу: «Бабуля, гэта мясцовае сала?» І яна мне адказвае вось што: «Не, гэта з Украіны!» — іншасказальна адказаў Давыдзька.

Яго вырашылі дацiснуць: «Гэта бабуля, а вы як адкажаце?»

«Я адкажу на гэта пытанне, як Гайдукевіч», — падсумаваў Давыдзька.

БЮ




пошта рэдакцыі

## У шыльдзе на Трафімавай крыніцы зрабілі аж пяць памылак

«Добры дзень, паважаная рэдакцыя, — напісаў у «Нашу Ніву» наш чытач Міхась. — Па БТ пабачыў перадачу пра Трафімаву крыніцу. Лукашэнка з сынамі на суботніку паставілі памятны знак з гісторыяй крыніцы. Справа добрая, але адразу кінулася ў вочы, што надпісу па-беларуску няма, толькі па-руску. А ў ім — дзікія граматычныя памылкі.

«Родник был освещен» — а трэба «освящен», бо «освещен» па-руску значыць «асветлены», напрыклад, пражэктарам, а не «асвячаны».

«Непросто кристально» — тут трэба пісаць «не просто» асобна, бо ёсць проціпастаўленне.

Прыслоўе «поистине» па-руску пішацца разам.

Па-руску кажуць не «обрядный», а «обрядовый».

Нарэшце, у другім сказе (які проста карава, непісьменна пабудаваны) або прапушчана нейкае слова, або не стаіць коска.

На такім узроўні столькі непісьменных людзей, проста жах», — абураецца чытач.

Даслаў чытач Міхась



# Сотні берасцейцаў выйшлі на мітынг супраць акумулятарнага завода




29 красавіка ў Брэсце ў парку воінаў-інтэрнацыяналістаў прайшоў санкцыянаваны мітынг супраць пабудовы акумулятарнага завода «АйПаўэр».

На мітынгу, паводле арганізатараў, было 1500—2000 людзей. Міліцыя сваіх ацэнак не назвала.

Вялі мітынг блогеры Сяргей Пятрухін і Аляксандар Кабанаў.

Мітынг завяршыўся прыняццем рэзалюцыі з патрабаваннем не дапусціць будоўлі і прыцягнуць да адказнасці чыноўнікаў, якія дапусцілі будаўніцтва завода і звоз свінцовых адкідаў да пасёлка Зялёны Бор.

Берасцейцаў таксама заклікалі працягваць актыўныя дзеянні супраць завода і далей выходзіць на акцыі па «кармленні галубоў» на цэнтральнай плошчы Берасця, паведамляе радыё «Свабода».

Будаваць акумулятарны завод пад Берасцем у канцы 2017 года пачала кампанія «АйПаўэр». Падрадчыкам выступае Аньхойская замежнаэканамічная будаўнічая карпарацыя (Кітай).

Завод будуецца каля вёсак Хабы, Шэбрын і Тэльмы-2. Афіцыйная экалагічная экспертыза прагназуе, што ўздзеянне завода на асяроддзе і чалавека будзе нязначнае.

**Сяргей Гезгала**

## Стала вядома пра яшчэ аднаго беларуса, які загінуў за Украіну

Блізнюку было ўсяго толькі 26 гадоў. Ягоныя бацькі — Алена Беляванцава і Уладзімір Блізнюк — родам з Беларусі, паведамляе сайт «Суспільный кореспондент». Маці — артыстка размоўнага жанру. Бацька — былы вайсковец, падпалкоўнік, адзначаны ўзнагародамі ААН за міратворчую дзейнасць. Бацька скончыў Чарнігаўскае лётнае вучылішча, што і абумовіла пераезд ва Украіну.

«Украіна стала нашай другой Бацькаўшчынай», — кажа Алена Беляванцава.

На ўкраінскіх сайтах, дзе збіраецца інфармацыя пра ўсіх, хто загінуў падчас вайны, нацыянальнасць Уладзіміра Блізнюка пазначаецца як «беларус».

Мама расказвае, што сын захапляўся вывучэннем моваў, выдатна размаўляў па-англійску. Служыў у арміі ў Харкаве, захапляўся ігрой на гітары, займаўся рукапашным боем. Вучыўся на завочным аддзяленні юрыдычнага факультэта, які так і не скончыў, бо з шостага курса ўніверсітэта накіраваўся проста на перадавую.

Калі пачалася вайна, то яны з бацькам прыйшлі запісвацца добраахвотнікамі. Але бацьку не ўзялі праз век. Уладзімір служыў у 13-м тэрытарыяльным батальёне.

Загінуў хлопец 6 верасня 2014 года ў Станіцы-Луганскай, калі будынак, дзе ён знаходзіўся, абстралялі з мінамётаў. Блізнюк памёр ад страты крыві. Гэта было ўжо ў час спынення агню.

«Валодзя быў сапраўдным патрыётам Украіны і не ўяўляў сабе іншага выбару», — кажа маці.

У сям'і ёсць малодшы сын Аляксей, якому цяпер 15 гадоў, ён вучыцца ў той самай гімназіі, дзе каліісьці Уладзімір.

Адметна, што падчас наведвання Чарнігава з Аленай Беляванцавай сустракаўся пасол Беларусі ва Украіне Ігар Сокал, які выказаў жанчыне спачуванні, а таксама падарыў беларускі нацыянальны касцюм.

У 2016 годзе Уладзіміра Блізнюка пасмяротна ўзнагародзілі ордэнам «За мужнасць» III ступені.

**Зміцер Панкавец**

# «Сяржант і яфрэйтар удвух збілі пяцярых салдат». У Гродне чарговы суд за дзядуху

Яшчэ адзін судовы працэс над старaслужачымі ідзе ў судзе Гродзенскага раёна.

На лаве падсудных — двое хлопцаў: сяржант Уладзіслаў Ялец і яфрэйтар Максім Малышка з 6-й асобнай механізаванай брыгады, якая месціцца ў Гродне. Хлопцам пагражае ад 3 да 10 гадоў пазбаўлення волі.

Фармулёўка стандартная: 20-гадовага сяржанта Яльца вінавацяць у перавышэнні службовых паўнамоцтваў з ужываннем гвалту, 24-гадовы Малышка праходзіць як саўдзельнік. Следства мяркуе, што яшчэ ўлетку 2017 года на палявым выхадзе яны ўдвух збілі пяцярых салдат — нібыта пакаралі за тое, што ў вайсковым намёце ночу згасла буржуйка.

Гэтая справа, як і справа сяржанта, якога судзяць у Барысаве, закруцілася ў лістападзе 2017 года. Гэта чарговы вынік шматлікіх праверак, якія прайшлі ў войску пасля смерці радавога Аляксандра Коржыча ў Пячах.

Ялец і Малышка знаходзяцца на волі, працягваюць службу. Іх толькі перавялі ў іншую частку. Абодва хлопцы служаць з восені 2016 года. Да дэмбелю ім застаецца менш за месяц. Праўда, пакуль невядома, куды паедуць сяржант і яфрэйтар: дахаты ці ў калонію.



**Максім Малышка (злева). Фота з сацыяльных сетак.**

«Наша Ніва» звязалася з адным абвінавачваным, Максімам Малышкам, і даведалася яго пункт гледжання на сітуацыю.

«Я адмаўляюся даваць паказанні на судзе. Віну таксама не прызнаю. Яна не даказаная, і невядома, ці дакажуць яе. Таму што паказанні ў пацярпелых бралі чатыры разы — і ўсе чатыры разы паказанні былі розныя», — сцвярджае Максім.

Па яго словах, Ялец таксама адмовіўся прызнаць віну і даваць паказанні.

«Пацярпелыя сцвярджаюць, што калісьці летась, у адзін з дзён жніўня, на палявым выхадзе яны тапілі печ. Пасля іх нібыта паднялі, пастроілі і пабілі. Але ж сінякоў у іх не было, скаргаў не было, камандзір праводзіў агляд, і ўсё было нармальна. Яны ні да каго не звярталіся, нікому не скардзіліся. Я не ведаю, чаму яны раптам штосьці такое пачалі казаць у лістападзе. Але, магчыма, гэта не іх словы, — разважае Максім. — Там жа пацярпелымі праходзяць не толькі салдаты з малодшага перыяду, але і майго прызыву, з якімі я служыў год».

«Пасля таго, як на мяне завялі справу, я атрымаў пастанову, чаму завялі. Там указваецца дакладная колькасць удараў, як я кагосьці нібыта біў, як ставіў... Гэта проста трызненне! — абураецца ён. — Але ж я пасля падышоў да аднаго з пацярпелых і спытаў: маўляў, колькі разоў цябе ўдарылі? Ён стаіць і плячыма паціскае, не ведае».

Малышка тлумачыць гэта наступным чынам: «Гэта салдаты. Гэта робаты. Ім сказалі, як і што зрабіць, яны так і зробяць, каб не мець праблем.

Гэта вельмі мутная гісторыя! На судзе мой адвакат пытаўся ў кожнага пацярпелага: «Гэта вы звярнуліся кудысьці наконт збіцця?» Усе адмаўляюць, ніхто з пяцярых нікуды не звяртаўся. Тады адкуль сама сітуацыя? Плюс у судзе адзін з пацярпелых сам распавёў, што следчы запісваў яго словы так, як лічыў патрэбным. Суддзя пытаўся ў салдата, чаму не супадаюць паказанні — то іх білі, то пасля ён казаў, што не білі, — а пацярпелы не мог адказаць. Адно паўтараў, што не можа патлумачыць.

А я магу патлумачыць. Таму што яны самі не ведаюць свае паказанні. Іх завялі ў кабінет, сказалі падпісаць — і ўсё. Не ведаю, хто і навошта.

І цяпер атрымліваецца так, што ёсць пяцёра пацярпелых, яны ж і сведкі. Больш сведкаў няма. Сінякоў няма. Скаргаў няма».

Таксама, кажа Максім, яго вінавацяць у тым, што ён быў п'яны ў тую ноч.

«І тыя пацярпелыя спачатку падпісалі, маўляў, так, ён быў напалітку. А цяпер на судзе кажуць: ну адкуль мы ведаем, быў ён п'яны ці не.

У іх ва ўсіх розныя паказанні і версіі. Адзін кажа, што збівалі 40 хвілін, другі — што пяць ці сем. Адзін кажа, што прачнуўся і падыходзіў камандзір, другі кажа, што камандзір спаў, трэці — што камандзір прачнуўся, але крыкам паклікаў іх да сябе ў намёт...» — сцвярджае Малышка.

Акрамя таго, кажа Малышка, падчас следства яго вінавацілі ў саўдзельніцтве Яльцу, але пасля выставілі абвінавачванне ў нестатутных узаемаадносінах (па гэтым артыкуле меншае пакаранне). Але, сцвярджае Малышка, калі справу перадалі ў пракуратуру, то адтуль справу вярнулі следчым. І абвінавачванне ў саўдзельніцтве вярнулі.

«Наша Ніва» звязалася з пракурорам Артурам Валентукевічам, які выступае на працэсе дзяржаўным абвінаваўцам, каб справдзіць гэты момант, але ён адмовіўся ад каментароў.

Пацярпелыя служаць у войску, таму атрымаць іх каментары пакуль не ўдалося.

**Улад Швядовіч**

# Памяркоўна ці з пазіцыі моцнага? Досвед бацькоў, як выхоўваць дзяцей па-беларуску

Памятаеце той матэрыял, у якім былі сабраныя сведчанні бацькоў пра стан беларускамоўнай адукацыі ў краіне?

Шмат тады нараканняў і крыўдаў было агучана, але мы вырашылі падысці да праблемы з іншага боку, паказаць і ўдалы досвед, каб бацькі не апускалі рук, не думалі, што прасцей будзе насамрэч зрабіць «как все» — менавіта гэтыя словы найчасцей гучаць ва ўпраўленнях адукацыі.

Мы апыталі тры сям'і: Вітушкаў, Харланчукоў і Дынькоў. Нашы суразмоўцы, якія выгадавалі ці гадуюць дзяцей па-беларуску, стаяць на розных пазіцыях: нехта ўпэўнены, што гаварыць можна толькі з пазіцыі моцнага, перамагаючы сістэму ў лоб, нехта ж кажа, што дасягаць мэтаў можна і памяркоўным шляхам, а нехта стварыў для дзяцей альтэрнатыўную сістэму адукацыі.


Крысціна, Андрэй і Мірон Вітушкі. Мірон займаецца тайскім боксам і грае на гітары

### Выпадак 1. «Я асабіста выстаўляла рабочых, якія гаварылі па-руску»

У сям'і эксперта па бізнэс-адміністраванні Крысціны Вітушка і доктара, кандыдата медыцынскіх навук Андрэя Вітушкі расце 14-гадовы Мірон.

Мірон неаднаразова выйграваў рэспубліканскія алімпіяды па англійскай мове, па інфарматыцы. Таксама ён паспяховы тайскі баксёр.

Вітушкі лічаць, што пры сутыкненні з праблемамі трэба не плакаць у фэйсбуку, а вырашаць іх. І вырашаць не з пазіцыі дыскрымінаванага, а з пазіцыі моцнага.

«Да нараджэння дзіцяці трэба рыхтавацца, і я тут маю на ўвазе не толькі набыццё рэчаў: калі вы хочаце, каб у свет прыйшоў беларус, то трэба рыхтаваць сям'ю да прыняцця беларуса, — расказвае пра выхаванне сына Крысціна. — Дзіцё вашае. Ніхто, апроч вас, не вырашыць, у якую ўстанову яму ісці, з якімі людзьмі камунікаваць. Калі вы вырашаеце выхоўваць дзіцё не дома, падбіраеце садок, то глядзіце на рэчы цвяроза — не думайце, што свет зменіцца дзеля вас. Збірайце групу аднагодак, аднадумцаў.

Я памятаю, як гэта рабіла я: яшчэ да нараджэння дзіцяці я даведалася, дзе існуюць якія беларускія групы. Таму скажу, што шыльда не значыць нічога — пад назвай беларускіх могуць існаваць садкі, дзе слова ніхто не ўцяміць, а можа быць і наадварот. У свой час мы з аднадумцамі абралі занядбаны садок у не самым прэстыжным раёне. Нічога не было там — нават пяску ў пясочніцы, кніжак не было. Мы самі там усё дабудоўвалі і дафарбоўвалі, актыўна дапамагалі выхавацелям, казалі, што яны могуць разлічваць на любую дапамогу — каб не было адмазкі, што нам нечага не хапала і таму мы зрабілі па-руску.

Настойвалі, каб людзі, якія займаюцца музыкай, фізкультурай, нават кухары — усе гаварылі пабеларуску — дапамагалі ім з лексікай. Усё гэта кантралявалася вельмі жорстка. Важна стварыць для дзіцяці цалкам беларускую атмасферу. Я асабіста выстаўляла з групы прадстаўнікоў санстанцыі за тое, што яны нешта гучна абмяркоўвалі па-руску.

Канечне, бацькі тых дзяцей, якія трапілі ў садок па прапісцы, былі ў шоку пару гадоў. Але потым пайшлі разам з намі ў беларускія гімназіі. Я мяркую, што ў XXI стагоддзі не можа быць адмазкай тое, што найбліжэйшы да вас беларускі садок знаходзіцца на іншым раёне — калі вы не можаце праехаць пару прыпынкаў, то так яно вам трэба. Мяняйце кватэру, калі трэба».

Крысціна Вітушка ўпэўненая, што нельга мірыцца з парушэннем моўнага рэжыму ў садках.

«Трэба — сварыцеся. Іначай вы даяце прыклад свайму дзіцяці: маўляў, вось тут правілы парушаюцца, а бацькі маўчаць, значыць, гэта нармальна, значыць, гэта проста такая гульня. Потым гэта можа адбіцца ў падлеткавым узросце, калі дзеці ставяць пад сумнеў каштоўнасці бацькоў», — кажа яна.

«Калі казаць пра наведванне паліклінік, нейкіх спецыялістаў... Ведаеце, вывучэнне беларускай мовы ў Беларусі абавязковае. Калі вы не можаце праверыць кваліфікацыю спецыяліста, то ўзровень яго агульнай эрудыцыі праверыць можаце. Калі чалавек не здольны падтрымаць размову пабеларуску з дзіцём (!), то памылкай будзе думаць, што ён можа быць прафесіяналам у сваёй спецыяльнасці. Ён не засвоіў базавыя веды і перасікочыў на нешта высокае? Такога не бывае. Бяжыце ад такога спецыяліста — ён не нараіць вам нічога карыснага, для яго няма апраўдання. Ідзіце да загадчыка і патрабуйце кампетэнтнага доктара. І гэта я кажу не тэарэтычна — гэта ўсё праходзілася не раз. Вы тут не канфліктуеце, а забяспечваеце тое, што належыць дзіцяці па законе.

Ёсць і кампрамісныя варыянты — вы, да візіту да доктара, самі да яго прыходзіце, даяце яму слоўнік паняццяў, прагаворваеце пытанні, каб ён мог задаць іх дзіцяці».

У Крысціны Вітушкі цвёрдая пазіцыя і да людзей з вуліцы, якія могуць палічыць патрэбным даць параду.

«Што датычыць хворых людзей, якія могуць дачапіцца ў транспарце, што яны могуць да чаго заўгодна прычапіцца: да колеру вачэй ці валасоў таксама. І што, калекцыянаваць гэтыя гісторыі? Казаць, што дзіця не гаворыць па-беларуску, бо цётка ў трамваі нешта сказала? Гэта абсурд. Патлумачце дзіцяці, што гэты чалавек хворы.

А наконт сяброў, то сёння сітуацыя такая: дзеці ў асноўным камунікуюць у інтэрнэце з аднадумцамі, знаходзяць сяброў у гуртках. Вы самі здольныя стварыць дзіцяці такі асяродак. Калі ж у вас саміх праблемы з сацыялізацыяй і вашае дзіцё боўтаецца ў двары, то я вам спачуваю».

Як праходзяць трэніроўкі сына на тайскім боксе?

«Трэнер у нас не беларускамоўны, але ставіцца з павагай — запісвае яго ў пратаколах па-беларуску, форму яму такую шыюць. У гэтым спорце прынята паважаць беларусаў, бо яны шмат чаго дасягнулі. Падкрэслю — беларускамоўных беларусаў, — кажа Вітушка. — З алімпіядамі па вучэбных прадметах гісторыя тая ж самая — калі сын удзельнічае, то пад яго робяць заданні па-беларуску, гэта патрабавалася першы час, цяпер ведаюць самі. Так што беларускамоўнасць не замінае, а, хутчэй, стымулюе развіццё, стварае падмурак для поспеху ў іншых сферах. У сына няма страху размаўляць з чужымі людзьмі, страху публічных выступаў», — падсумоўвае яна.

Як Крысціна выхоўвала сына першыя гады, калі ў Беларусі бракавала дзіцячай літаратуры?

«Так, 14 год таму з дзіцячымі выданнямі былі праблемы. Мы сцягвалі размалёўкі з інтэрнэту і давалі сыну размалёўваць. Куплялі кніжкі ва Украіне, Расіі, Польшчы. Заклейвалі тэкст раздрукаванымі перакладамі па-беларуску, прывучалі візуальна, нават калі ён яшчэ не ўмеў чытаць. А сёння і мастакоў, і беларускіх дзіцячых аўтараў хапае».

### Выпадак 2. «У сад мы проста не хадзілі»

Таксама мы звярнуліся да зорнай акцёрскай пары Харланчукоў, якія выхоўваюць пяцярых дзяцей! Старэйшаму, Піліпу, 15 год, малодшай, Паўліне, 3 гадкі. Двое з дзяцей — прыёмныя.

Ганна Харланчук-Южакова расказала пра свой досвед. Яна кажа, што ніколі не сутыкалася з праблемамі ў дзіцячым садку, бо дзецей туды проста не вадзілі.

«Наша з мужам пазіцыя была такая, што дзяцей мусяць выхоўваць бацькі. Таму ў садок мы не хадзілі, у школу таксама не хадзілі — да шостага класа сын вучыўся дома. Сацыялізацыя адбывалася ў розных гуртках — чым ён толькі не займаўся, нават картынгам! А потым мы разам з аднадумцамі вырашылі стварыць такую бацькоўскую кааперацыю, назвалі гэта культурна-адукацыйнай прасторай «Горад сяброў». Гэта такая дастаткова вялікая арганізацыя, падобная да школы. Дзеці там вучацца кожны дзень, па ўсіх прадметах.

Я там выкладаю, у тым ліку. Адукацыя — па-беларуску, арганізацыя дня — як у школе плюс гурткі. Тэатр у нас там ёсць, напрыклад. Гэта такая асобная гісторыя, бо ў Беларусі няма дыстанцыйнага навучання, таму мы дэ-юрэ прыпісаныя да расійскай школы, дзе двойчы на год дзеці праходзяць атэстацыю ведаў. Можна было б прыпісацца да ўкраінскай школы, але ў іх там абавязковая ўмова — вывучэнне ўкраінскай, таму мы заключылі пагадненне з расіянамі. Альтэрнатыўныя школы ў Беларусі існуюць такім чынам», — расказала Ганна.

«Бабулі і дзядулі ў нас рускамоўныя, самі з Расіі. Таму дзеці часта сутыкаюцца з рускай мовай, яны білінгвы. Асаблівых праблем у ка-



Шматдзетная сям'я Харланчукоў-Южаковых.

мунікацыі з іншымі не было: лагапед, напрыклад, пачуўшы беларускую мову, перайшоў на яе таксама. А старэйшы сын, бывае, гаворыць па-руску з сябрамі. Я не настойваю, што ён павінен гаварыць толькі па-беларуску. Але ведаеце, сваіх сяброў ён беларусізуе. Неяк ягоны сябра сказаў мне: «Цёця Ганна, дзякуй, я перастаў баяцца гаварыць па-беларуску», — вось так.

А што датычыць малодшых дзяцей, то вельмі цяжкая сітуацыя з мульцікамі — у перакладзе іх вельмі мала, глядзім і па-англійску. А літаратуры дзіцячай, хаця і хацелася б больш, але ўжо хапае», — сказала яна.

### Выпадак 3. «З негатыўнай рэакцыяй не сутыкаліся ні разу»

У рэдактара «Нашай Нівы» Андрэя Дынько трое дзяцей. Старэйшы сёлета паступае ва ўніверсітэт, сярэдняя сканчае 9-ы клас і хоча перайсці з гімназіі ў ліцэй, а малодшаму — тры месяцы. «Мы ўсюды і ў любых сітуацыях з дзецьмі гаварылі і гаворым па-беларуску. І ні разу за ўсё жыццё не сутыкаліся з негатыўнай рэакцыяй на мову. Здзіўленне — так, бывала.

Помню, на станцыі Анусіна адзін стары чалавек заплакаў ад замілавання: малыя, а па-беларуску гавораць, на мове майго маленства, божа ж мой!

Але каб варожасць — такога не было. Быў адзін камічны выпадак, гадоў 12 таму. Мы гулялі каля дэпутацкага дома, на Казарменным завулку, дзе была вельмі сучасная дзіцячая пляцоўка на беразе Свіслачы. І там дэпутат Касцян з унукам гуляў, дзеяч Славянскага камітэта. Як пачуў, што мае дзеці па-беларуску гавораць, ён за ўнука — і ўцякаць. Ну але малыя дзеці такога не заўважаюць. Уцёк дзядзя і ўцёк. Бяжы, дзядзя».

«Не ўсе любяць, калі нехта звяртае ўвагу на тваю мову. Але гэта рэальнасць: звяртаць увагу будуць. Але гэта пазітыўная ўвага», — кажа Дынько.

«Мяне заўсёды дзівіць, калі кажуць пра варожасць да беларускай мовы, бо я з такім не сутыкаюся. Маю дзве парады: стаўцеся да людзей прыязна і тактоўна. І другое: некаторыя людзі, перайшоўшы выключна на беларускую мову, стараюцца быць пурыстамі і ўжываць такія рэдкія словы, якія людзям незразумелыя. Ну, не сустракаецца слова «гарбата» ў школьным курсе і ў бальшасці гаворак. Ну то прасіце чай, не ўпірайцеся ў гарбату».

«Я чалавек бесканфліктны па натуры, таму і канфлікты мяне абыходзяць бокам, у тым ліку на моўнай глебе», — кажа рэдактар «Нашай Нівы» Андрэй Дынько.

Менск прыязны да мовы, лічыць Дынько. «Праблема ў іншым: што ніякай дапамогі ад дзяржавы няма, ніякай. Мультфільмы і камп'ютарныя гульні на беларускую мову не перакладаліся, развіваючых матэрыялаў — таксама няма. Усё гэта існуе адзінкава — калісьці электравенік Франак Вячорка «Шрэка» арганізаваў, мае дзеці яго глядзелі-пераглядзелі. Дзяржава ж дае на беларускамоўную прадукцыю капейкі: ёсць трохі спектакляў на мове ў тэатрах, кніжачкі выдаюцца, «Вясёлка» — але ва ўсім гэтым шмат несучаснага. Дзеці хочуць мульцікаў, камп'ютарнага кантэнту — а яго няма. Хочуць, напрыклад, фэнтэзі — а дзяржава ніякіх такіх перакладаў не фінансуе. Шэін выдаў раскошную кнігу «Сем камянёў», якая рэальна падабаецца дзецям — дзяржава хоць капейкай паспрыяла таму, каб гэтая кніга разышлася, трапіла ў кожную школу?»

Што рабіў Дынько, каб кампенсаваць гэты дэфіцыт? «Ну мне то, як трохі філолагу, проста: пакуль яны былі малыя, я браў кніжкі на расейскай, украінскай, польскай, англійскай мовах і чытаў дзецям іх па-беларуску. А вось калі падраслі, то не было рады. Проста імкнуліся ўраўнаважыць расейскамоўнае, якое ўсюды, іншымі мовамі. Прывозілі ўсё цікавае на ўкраінскай мове — выданні «Аба-ба-га-ла-ма-гі» выклікалі ў іх фурор, а блісткамі з укладкі ва ўкраінскую кнігу пра піратаў яны ўсю кватэру засыпалі. Стараліся ўключаць мульцікі па-польску, па-англійску. Калі ты беларускамоўны, твае дзеці растуць шматмоўнымі воленс-ноленс. Я ўпэўнены, што гэта дасць ім козыры ў дарослым жыцці».

«Каб дзеці любілі мову, трэба, каб яны любілі сваё жыццё, сваю сям'ю і сваю краіну, — адзначае Дынько. — Дзеці шмат часу праводзілі ў бабаў і дзедаў у родавых мясцінах. А яшчэ мы шмат падарожнічалі па Беларусі. Прычым не толькі па «паштовачных мясцінах». Памятаю, колькі шчасця было дзецям у заапарку ў Віцебску. Ну а Свіцязь у нас штогод была абавязковым пунктам летняй праграмы».

«Досвед навучання ў беларускамоўных садках, гімназіі і ліцэі быў розны, — кажа Дынько. — Мая выснова такая: каб беларуская мова дамінавала ў групе ці класе, патрэбныя 1) адданасць педагога, 2) крытычная маса, каб бальшасць дзяцей была з беларускамоўных сямей. Дзве гэтыя ўмовы супадаюць рэдка. Першаму замінае фінансавае забеспячэнне адукацыі, цякучка кадраў жудасная, моцныя педагогі ў нас на вачах разбягаліся.

Не толькі ў белмоўных школах частка настаўнікаў прафнепрыдатная — тое самае і ў рускамоўных. Мой швагер спачатку быў у шоку, калі ў 3-м класе настаўніца ягонаму сыну выправіла «вецер» на «вецяр». Так, такі цяпер узровень сярэдняй школы.

Рыхтуйцеся займацца з дзецьмі самі, калі хочаце даць ім веды, гэта новая рэальнасць.

Цяпер пра крытычную масу. Кожны з нас таксама бачыць рэальнасць. Многія людзі прынцыпова і свядома возяць дзяцей у беларускамоўныя ўстановы здалёк, гадзіну трацяць на дарогу, і пры гэтым у сям'і яны гавораць па-руску. Людзі хочуць, каб хоць дзеці пачалі гаварыць па-беларуску. Але часта бальшасць у класе — прабеларуская, але рускамоўная, а дзеці па азначэнні гавораць на «мове бальшасці».

**«Калі ты беларускамоўны, твае дзеці растуць шматмоўнымі воленс-ноленс. Я ўпэўнены, што гэта дасць ім козыры ў дарослым жыцці».**

Мой сябар смяяўся, што яго дзяцей беларускамоўная гімназія русіфікавала: дома яны гаварылі па-беларуску, а ў гімназіі перайшлі на «опшчапанятны». Тым не менш, з беларускамоўных школ дзеці выходзяць з лепшымі ведамі мовы, чым з рускамоўных, і свая суполнасць у іх там складаецца. Галоўны плюс белмоўных устаноў — падбор дзяцей там. Я з жахам слухаў гісторыі знаёмых і сваякоў пра рускамоўныя школы: там і спайсы, там і цкаванне, і мегаканфармізм. Нічога такога ў нашым досведзе не было. Інтэлігентная бальшасць робіць сваё».

Што да педагогаў, асабліва старэйшых класаў, то, на думку Дынько, якасць беларускамоўнай адукацыі вырасла б, калі б дырэктары белмоўных устаноў узялі курс на павелічэнне колькасці пазаштатнікаў, пагадзіннікаў. «Многія сімпатыкі беларускай мовы гатовыя выкладаць дзеля прынцыпу. Уяўляеце, наколькі палепшылі б прывабнасць школы прафесійны праграміст як выкладчык інфарматыкі, прафесійны перакладчык як выкладчык замежнай мовы і так далей. Для такога падыходу трэба палітычная воля. Але пры ім белмоўная гімназіі можна было б зрабіць перадавымі, так мне здаецца», — кажа Дынько.

### «Мае дзеці, дзеці кадэбістаў і ўнукі Тозіка хадзілі ў адну школу»

Дынько таксама адзначае, што наконт таго, хто адпраўляе дзяцей у беларускамоўныя ўстановы, ёсць шмат стэрэатыпаў. «Там зрэз грамадства: у класах і групах, куды мае дзеці хадзілі, было дзіця з сям'і вайскоўцаў, дзіця кадэбіста, дзеці эмэнэснікаў, некалькі дактароў — мы нават лячыцца сталі ў «сваіх», інжынеры вазілі дзіця з Лошыцы ў 23-ю гімназію на Якуба Коласа, галоўны хірург вобласці — са Слабады, якая каля Кургана Славы, праграміст працаваў на мяжой, а жонка ягоная дзіця вадзіла ў белмоўны клас. Унукі Тозіка [кіраўніка Камітэта дзяржаўнага кантролю, пасля віцэ-прэм'ера] хадзілі ў адну гімназію з намі — такі вісус унук у яго. Аднойчы пры мне пабіўся з аднакласнікам маёй дачкі, той яму ўваліў, гэты храснуўся галавой аб падлогу — пацаны, што зробіш.

Навукоўцаў з Акадэміі навук была сям'я — пасля яны, праўда, у Швецыю пераехалі працаваць. Там не выпадковы падбор дзяцей. Але трыманне беларускасці — адзнака людзей добрых, аднаназначна. Мне было камфортна на бацькоўскіх сходах».

Яшчэ адзін важны момант, падкавае Дынько, «улічыце, што беларускамоўных устаноў няшмат, і вам, найхутчэй, спатрэбіцца машына, каб камфортней давозіць дзяцей. Мы селі за руль, каб вазіць дзяцей у школу».

«Што мяне раздражняла — гэта арыентацыя на «экспарт дзяцей» у замежныя ўніверсітэты ў некаторых школьных калектывах, — дадае Дынько. — Мы перавялі дзіця ў іншую ўстанову ў выніку». Чаму? «Бо там не было культу ведаў, кар'еры, самарэалізацыі. Галоўнае — вырвацца за мяжу, прабіцца туды хоць як, толькі таму, што там сёння вышэйшыя стандарты спажывання. Такі дух — ён разбуральны».

Дынько высока ацэньвае тое, што робяць для паляпшэння беларускамоўнай адукацыі, асяроддзя актывісты: «У пакаленні маіх старэйшых дзяцей гэта былі Крысціна Вітушка, Аліна Стэфановіч. Сёння падтрымліваю тое, чаго дабіваюцца Аляксандра Баярына, Павел Колас, *svaje.by*.

Галоўнае — дабіцца, каб кожную сям'ю органы адукацыі ставілі перад выбарам, давалі магчымасць выбару — вучыць па-беларуску ці па-руску. І каб фінансавае забеспячэнне беларускамоўных садкоў і школ было нармальнае».

«Пабачу, што памянялася з магчымасцямі для беларускамоўных дзяцей за апошнія 15 гадоў, калі малодшы пойдзе ў садок. Здаецца мне, што не шмат памянялася.

Вы самі мусіце ствараць для дзіцяці асяроддзе. Дзяржава вам не перашкодзіць, нават усміхнецца, але і не дапаможа. «Мы самі, мы самі, мы самі па сабе», — так у песні спявалася. У прынцыпе, я люблю такі падыход да жыцця. Як мая баба гаварыла: «Лепш кланяцца сваёй дупе, чым чужой галаве», — кажа Дынько.

Арцём Гарбацэвіч



«Мы стараліся шмат падарожнічаць па Беларусі», — кажа Андрэй Дынько. На фота: сэлфі на гары над Дзвіной у Віцебску.

# З 1 мая падвышаюцца працоўныя пенсіі



Працоўныя пенсіі ў Беларусі з 1 мая ў выніку пераразліку павялічацца ў сярэднім на 5,4%. Гэта прадугледжана ўказам №142 «Аб падвышэнні пенсій», які Аляксандр Лукашэнка падпісаў 26 красавіка, паведамілі ў прэсслужбе беларускага лідара.

**БелТА; фота Сяргея Гудзіліна**

# Вясковец прыбіў на двары 110 тысяч коркаў

Праграма «Вяскоўцы» адкрывае свету новых каларытных людзей з невялічкіх беларускіх селішчаў. Гэтым разам вядоўца праграмы Віктар Шукеловіч гасцяваў у вёсцы Брылькі пад Валожынам у гаспадароў, якія ўпрыгожылі сваю сядзібу, выкарыстаўшы ажно 110 тыс. пластыкавых коркаў.

Вядоўца высвятляў, як з'явілася ідэя ўпрыгожыць коркамі хату ды як пачалося яе ажыццяўленне; што кажуць іншыя вяскоўцы пра арыгінальнае ўпрыгожанне і ці самі не хочуць гэтак жа аздобіць свае сялібы; ці лёгка было сабраць столькі коркаў?

Гаспадар дому — спадар Уладзімір — распавёў таксама, што ягоныя продкі паходзяць з Украіны, таму ён вельмі пераймаецца, што на Данбасе дагэтуль трывае вайна. Вясковец зрабіў на сцяне сваёй хаты адмысловы надпіс, звярнуўшыся да ўдзельнікаў канфлікту: «Займайцеся каханнем, а не вайной».

Вядоўца Віктар Шукеловіч не толькі сам прыбіваў коркі да сцен, але і вывучаў новыя словы з Брылькоў, гатаваў мачанку і грыбную поліўку, а таксама рабіў разам з гаспадыняй — спадарыняй Аленай — вясковае печыва ў выглядзе грыбоў, якое раней пяклі на вяселлі.

Не абышлося таксама без пачастункаў і душэўных размоваў, калі героі распавялі пра свае лёсы і падзяліліся найбольш яркімі ўспамінамі з дзяцінства.

**Belsat.eu**



# У ЖКГ распавялі, на колькі вырастуць жыроўкі дармаедаў і як з іх будуць спаганяць поўную аплату

У ЖКГ распавялі, на колькі вырастуць жыроўкі незанятых у эканоміцы, як з іх будуць спаганяць поўную аплату і чаму не ўсе ўтрыманцы будуць разлічвацца за ЖКП па эканамічна абгрунтаваным тарыфе.

Спаганяць поўную аплату за ЖКП, як патлумачыла начальніца аддзела ўпраўлення эканомікі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Жанна Папучэева, будуць з незанятых у эканоміцы, якія з'яўляюцца ўласнікамі жылля. Калі ва ўтрыманца няма ва ўласнасці нерухомасці, то і спаганяць камуналку па поўных тарыфах з яго не будуць.

Спецыяліст ЖКГ на прыкладзе тыпавой двухпакаёвай кватэры ў 48 квадратных метраў, дзе прапісаныя 3 чалавекі, прыводзіць разлікі па кожнай з жыллёва-камунальных паслуг, за якія будуць па поўных тарыфах разлічвацца незанятыя ў эканоміцы.

Так, калі ўласнікам гэтай двухпакаёўкі з'яўляецца дармаед, то ён аплачвае па эканамічна абгрунтаваных тарыфах траціну за ацяпленне, падагрэў вады і газазабеспячэнне. Астатнія дзве траціны камуналкі за зарэгістраваных недармаедаў у кватэры будуць аплачваць па субсідаваных тарыфах.

У такім выпадку плацеж за гарачую ваду, калі не будуць перавышаныя ліміты, для гэтай кватэры вырасце на 5–6 рублёў, падлічылі ў ЖКГ. Важны момант: калі зарэгістраваны ў гэтай кватэры дармаед не з'яўляецца ўласнікам жылля, то ён будзе аплачваць ЖКП па субсідаваных тарыфах.

За ацяпленне плацяжы для гэтай кватэры вырастуць больш адчувальна — на 15 рублёў, калі адзін з трох зарэгістраваных трапіў у лік гультаёў. Сваю частку за ацяпленне ён аплаціць па поўных тарыфах, а астатнія жыхары — па льготных. Але зноў жа прынцыповы момант — дармаед павінен быць уласнікам жылля. Калі ён зарэгістраваны, але жыллё не яго, то ўсе ў гэтай кватэры будуць плаціць па субсідаваных тарыфах.

Калі ж у двушцы на 48 квадратаў будзе пражываць толькі адзін дармаед, які адначасова з'яўляецца ўласнікам жылля, то плацеж за ацяпленне вырасце прыкладна на 60 рублёў, палічылі ў ЖКГ.

За газазабеспячэнне ў гэтай жа кватэры, у якой усталяваны прыборы індывідуальнага ўліку расходу газу і зарэгістравана 3 чалавекі і ўласнік-дармаед, пры спажыванні ў 150 кубічных метраў газу плацяжы вырастуць на 15–16 рублёў. Калі ж у кватэры прапісаны толькі адзін уласнікдармаед, то ён заплаціць на 40 рублёў больш пры такім жа спажыванні газу.

**Finance.tut.by**

# Жыхары Брэста сабралі актывісту 2000 рублёў на аплату штрафаў за суды

Брэсцкі блогер Сяргей Пятрухін, які актыўна асвятляе на сваім канале ў *YouTube* дзейнасць працінікаў будаўніцтва пад Брэстам акумулятарнага завода, аплаціў штрафы за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі і парушэнне парадку арганізацыі масавага мерапрыемства.

Усяго ў банк блогер аднёс 2327 рублёў. Па словах Сяргея Пятрухіна, грошы на штрафы яму дапамаглі сабраць падпісчыкі з усёй Беларусі.

«Людзі самі адгукнуліся, пералічвалі грошы. Так і сабраў», — распавёў *TUT.BY* Сяргей Пятрухін і падзякаваў усім за дапамогу і салідарнасць.

Пасля пачатку пратэстаў у сувязі з будаўніцтвам пад Брэстам акумулятарнага завода Сяргея Пятрухіна штрафавалі тройчы.

12 сакавіка суд Пінскага раёна і горада Пінска прызнаў яго вінаватым у незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ (ч. 2 арт. 22.9 КоАП) і аштрафаваў на 40 базавых велічыняў (980 рублёў). Рашэнне Сяргей Пятрухін паспяхова абскардзіў у абласным судзе, і гэты штраф яму адмянілі.

Напярэдадні Дня Волі Сяргея Пятрухіна затрымалі супрацоўнікі міліцыі. 29 сакавіка суд прызнаў яго вінаватым у непадпарадкаванні




супрацоўніку органаў унутраных спраў і прызначыў 45 базавых велічынь (1102,5 рубля) штрафу.

У канцы лютага блогера аштрафавалі на 50 базавых (1 225 рублёў) за парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў.

**Tut.by**

# У Беларусі плануецца ўвесці паняцце «адзінокі бацька»

У Беларусі плануецца ўнесці ў Працоўны кодэкс паняцце «адзінокі бацька», паведаміла начальніца галоўнага юрыдычнага ўпраўлення Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Валянціна Маслоўская ў інтэрв'ю газеце «Рэспубліка».

У цяперашні час пад такую класіфікацыю падпадае маці, якая не знаходзіцца ў шлюбе і выхоўвае непаўналетнія дзіця, звесткі пра бацьку якога ўнесены ў запіс акта аб нараджэнні дзіцяці са слоў маці. Новае паняцце закране вялікую катэгорыю асоб — маці, бацьку, усынавіцеляў і ўдачарыцеляў, а яшчэ тых, чый муж або жонка пазбаўленыя бацькоўскіх правоў, прызнаныя недзеяздольнымі, абвешчаныя памерлымі, прызнаныя без вестак адсутнымі.

**БелТА**

# «Нас падманулі». Пучдэмон шкадуе, што не абвясціў незалежнасць Каталоніі

Былы лідар Каталоніі Карлес Пучдэмон выказаў шкадаванне, што не абвясціў пра незалежнасць рэгіёна адразу пасля правядзення рэферэндуму 1 кастрычніка. Пра гэта ён заявіў у інтэрв'ю газеце *The Times*.

«У мяне была прамая інфармацыя, што акно для палітычнага дыялогу будзе адкрыта, калі мы не будзем прымаць якіх-небудзь незваротных рашэнняў. Я заўсёды аддаю перавагу дыялогу пры вырашэнні спраў, і менавіта таму я прамарудзіў, але гэта была памылка. Якога-небудзь дыялогу ніколі не планавалася, а праз тыдзень мы апынуліся ў найгоршым становішчы. Гэта было сапраўдным безадказным падманам іспанскага ўрада», — адзначыў ён.




Пучдэмон, адказваючы на пытанне, ці гатовы ён вярнуцца ў Іспанію, сказаў: «Не, бо ў турме я стаў бы закладнікам без свабоды слова, без свабоды перамяшчэння». «У выгнанні мы можам дзейнічаць, аказваць ціск. Калі б усе члены ўрада былі ў турме, то ніхто пра нас не гаварыў бы», — падкрэсліў былы лідар Каталоніі.

«Самы рэалістычны варыянт — гэта не мець плана на будучыню. У горшым выпадку мяне экстрадуюць у Іспанію. Гэта азначае, што мая будучыня будзе відавочнай: дзесяцігоддзі ў турме. Калі гэтага не адбудзецца, то, імаверна, я праведу шмат гадоў у выгнанні», — падзяліўся ён.

# Польскага святара, які будуе касцёл у Гатаве, высылаюць з Беларусі

За апошні год ён тройчы перавысіў хуткасць на дарозе, што прывяло да адмовы ў падаўжэнні дазволу на служэнне.

Ксёндз Кшыштаф Пасвята CSMA нясе служэнне ў мястэчку Гатава пад Мінскам, дзе будуе новы касцёл. Але скончыць распачатую будоўлю не паспее — да 30 красавіка ён мусіў выехаць з Беларусі.

27 красавіка мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч правёў сустрэчу з упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леанідам Гулякам, падчас якой вырашалася. Але пазітыўных навін сустрэча не прынесла.

Згодна з Пастановай аб прыбыванні замежных грамадзян і асобаў без грамадзянства, прынятай у Беларусі ў 2008 годзе, два і больш адміністратыўныя парушэнні могуць прывесці да адмовы ў прыбыванні.

Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч звярнуў увагу на наступны момант: «Закон аб прававым становішчы замежных грамадзян і асобаў без грамадзянства, прыняты ў Беларусі ў 2010 годзе, гаворыць, што замежнік можа не атрымаць візу, калі мае пяць і больш адміністратыўных праваапарушэнняў.

Гаворка ідзе пра пяціразовае парушэнне, а не двух- ці трохразовае. Выходзіць, замежнікаў дзеляць на два гатункі: просты чалавек і святар. Гэта сапраўдная дыскрымінацыя замежных святароў.

Ніхто не ставіць пад сумнеў, што беларускія законы павінны захоўвацца, але гэты юрыдычны аспект варта ўлічваць».

Упершыню ў Беларусь кс. Кшыштаф прыехаў у 1992 годзе яшчэ дыяканам. Тады яго вельмі кранула вера беларусаў і іх гасціннасць. Праз 20 гадоў ён вырашыў прыехаць сюды ўжо на душпастырскую працу.

Сёння святар-міхаліт — пробашч парафіі Св. Міхала Арханёла ў Гатаве. Дзякуючы яго намаганням тут быў узведзены пастарскі цэнтр для дзяцей і моладзі з капліцай і араторыем. А цяпер ідзе будаўніцтва касцёла.

«Касцёл разлічваем пабудаваць за пяць гадоў, гэта будзе першая каталіцкая святыня ў Гатаве», — адзначае святар.

«Так, я паляк, але святую Імшу я заўсёды служыў па-беларуску», — падкрэслівае святар.

**Паводле catholic.by**




# Дзяржустановы ў Баварыі абавяжуць вывешваць на ўваходзе крыжы

Прэм'ер-міністр нямецкай федэральнай зямлі Баварыя Маркус Зёдэр абвясціў, што ўва ўсіх дзяржаўных установах рэгіёна на ўваходзе павінны вісець хрысціянскія крыжы, піша *Tagesschau.de.*

«Крыж сімвалізуе баварскую ідэнтычнасць. Гэта не столькі рэлігійны атрыбут, колькі сімвал культурнай ідэнтычнасці краіны», — сказаў палітык.

Адпаведны ўказ павінен уступіць у сілу 1 чэрвеня. Пры гэтым, як адзначае *Spiegel*, усім муніцыпалітэтам і раёнам федэральнай зямлі «рэкамендуецца дзейнічаць адпаведным чынам».

Ініцыятыву ўладаў падтрымалі таксама рэлігійныя дзеячы, перадаваў *Dlf 24.*

«Крыж — гэта сімвал яднання, прымірэння і згоды», — сказаў арцыбіскуп каталіцкай царквы горада Бамберг Людвіг Шык.

У той жа час рашэнне баварскіх палітыкаў раскрытыкавалі лібералы са Свабоднай дэмакратычнай партыі Германіі. Іх лідар Крысціян Лінднер напісаў у сваім *Twitter*, што аналагічным чынам рэлігію да



Маркус Зёдэр.

палітыкі партыі спрабуе прывязаць прэзідэнт Турцыі Рэджэп Таіп Эрдаган.

Больш за палову насельніцтва Баварыі — практыкуючыя каталікі.

**Lenta.ru**

# Трамп змахнуў перхаць з Макрона падчас сустрэчы ў Белым доме

Падчас сустрэчы ў Белым доме з прэзідэнтам Францыі Эманюэлем Макронам Дональд Трамп змахнуў з яго касцюма перхаць.

«Усе кажуць, якія ў нас выдатныя адносіны, і гэта праўда. Гэта не фэйкавыя навіны. Сапраўды, гэта не фэйкавыя навіны. Гэта вялікі гонар, што ты тут. Я змахну гэты невялікі кавалачак перхаці, гэты маленькі кавалачак», — сказаў Трамп, пасмейваючыся.

Цікавы быў выраз твару лідара Францыі ў гэты момант.



## Украіна апярэдзіла ЗША і стала лідарам па экспарце яек у ЕС

Украіна на пачатку года была найбуйнейшым экспарцёрам яек у ЕС з доляй 38%. Акрамя таго, украінскія пастаўкі перавысілі нават імпарт са Злучаных Штатаў Амерыкі, піша Польскае Радыё.

Так, паводле дадзеных Еўрапейскай камісіі, толькі сёлета ў студзені краіны ЕС закупілі ва Украіне 874 тоны яек і яечных прадуктаў, што ў некалькі разоў больш, чым у студзені мінулага года.

## Ісландская авіякампанія адкрыла вакансію падарожніка з заробкам $4 тысячы

Ісландская авіякампанія *Wow Air* адкрыла вакансію падарожніка з заробкам $4 тысячы ў месяц. Будучаму супрацоўніку прыйдзецца цягам трох месяцаў падарожнічаць па свеце і дакументаваць свае паездкі. Усяго ў праграме запланавана 12 падарожжаў: 4 — па Ісландыі і яшчэ 8 — па іншых краінах, паведамляе *birdinflight.com*

Прэтэндаваць на вакансію могуць тыя, каму больш за 18 гадоў. Ахвотным неабходна запісаць ролік з расповедам пра свой родны горад, загрузіць відэа на *YouTube* і прымацаваць да заяўкі, якую можна пакінуць на сайце *Wow Air*. Апошні тэрмін падачы заявак — 14 мая. Імя пераможцы стане вядома 18 мая.

Акрамя прызёра «працу мары» атрымае і яго сябар. Ён будзе падарожнічаць па свеце разам з пераможцам конкурсу і таксама будзе атрымліваць за гэта грошы. Усе выдаткі — ад аплаты квіткоў да арэнды жылля — *Wow Air* бярэ на сябе.

# Бутэлькай па галаве: у Польшчы збілі семярых беларусаў за тое, што яны гаварылі між сабой па-руску

Польскія СМІ масава паведамляюць пра здарэнне ў горадзе Голдап. Паводле версіі пракуратуры, 8 красавіка трое мясцовых жыхароў з прымяненнем слезацечнага газу накінуліся на семярых беларусаў, якія прыехалі ў горад на заробкі.

«У грамадзян Беларусі распылілі газ, потым пачалі біць рукамі, адзін з нападнікаў біў бутэлькай па галаве», — паведамляюць польскія СМІ.

Трох злачынцаў затрымалі амаль адразу ж пасля здарэння, яны прызналі сваю віну і патлумачылі, што білі за тое, што тыя ў чужой кампаніі «гаварылі па-руску».

Цяпер тром затрыманым пагражае па 7,5 года зняволення, але яны адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

Польскія медыя нагадваюць, што ў горадзе Голдап жыве і працуе каля 200 беларусаў.

# У Расіі звольнілі сцюардэсу, якая назвала Калінінград Кёнігсбергам

Кампанія «Аэрафлот» звольніла бортправадніцу, якая назвала Калінінград Кёнігсбергам. Пра гэта кампанія заявіла ў *Twitter*.

Гэта здарылася пасля таго, як журналіст Віталь Траццякоў напісаў у *Twitter*, што ў самалёт «Масква-Калінінград» сцюардэса на англійскай мове абвясціла рэйс: Масква-Кёнігсберг. Пры гэтым па-руску было абвешчана, што самалёт выконвае рэйс Масква-Калінінград. «Чуў гэта на ўласныя вушы ў палёце 25 красавіка. Хіба «Аэрафлот» можа называць гарады Расіі так, як хоча?» — напісаў Траццякоў.

Неўзабаве ў «Аэрафлоце» адказалі Траццякову ў *Twitter*: «Правялі праверку, інфармацыя пацвердзілася. Бортправадніца будзе звольненая. Дзякуем Вам за сігнал».

# Зянон Пазняк выпусціў новую кнігу

22 красавіка ў саборы Святога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку адбылася прэзэнтацыя кнігі перакладаў паэзіі Зянона Пазняка *Vox Angelica*.

Кніга складаецца з дзвюх частак — «Асновы» (каля 200 вершаў Зянона па-беларуску) і «Пераклады» гэтых вершаў на 32 мовы свету (у тым ліку на лаціну).

«Беларуская культура, якая перажывае цяпер свае не найлепшыя часы, як толькі атрымае штуршок свабоды, пачне развівацца паскораным тэмпам і хутка дасягне ўзроўню развітых краінаў, што адаб'ецца і на літаратуры», — сказаў Зянон Пазняк у сваім выступе.

Крыніцамі свайго натхнення Пазняк назваў такіх паэтаў, як Максім Багдановіч, Ван Вэй і Басё, паведаміў «Нашай Ніве» наш чытач

**Віктар Дудараў з Нью-Ёрка**



# Максім Багдановіч з беларускамоўнай гімназіі паступіў у Гарвард

Вучань мінскай беларускамоўнай гімназіі №4 Максім Багдановіч паступіў у прэстыжны амерыканскі ўніверсітэт.

Максім заканчвае 11-ы клас гімназіі. Сам хлопец пацвердзіў, што атрымаў запрашэнне на вучобу, але адмовіўся ад больш падрабязных каментароў. Кажа, не прывык да ўвагі.

Нягледзячы на славутае імя, сам Максім вершаў не піша, але, кажа, былі думкі. «Трэба ж трымаць узровень», — жартуе ён.

Максім падаў дакументы ў Гарвард праз платформу *the Common Application*, якую выкарыстоўвае большасць амерыканскіх ВНУ. І атрымаў станоўчы адказ.

Таксама хлопец атрымаў поўную стыпендыю, якая пакрые ўсе выдаткі на навучанне і пражыванне.

**Улад Швядовіч**

# На выданне беларускамоўнага збору твораў Алексіевіч сабралі 230 тысяч рублёў. 65% ад гэтай сумы даў Белгазпрамбанк

На партале *Ulej.by* 20 красавіка завяршыўся збор сродкаў на перавыданне «Галасоў Утопіі» — пяці кніг лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі па літаратуры Святланы Алексіевіч на беларускай мове і без цэнзурных правак, піша «Радыё Свабода».

Да краўдфандынгу далучыліся 660 чалавек, якія агулам ахвяравалі 231 942 рублі, гэта 580% ад неабходнай сумы. Першапачаткова арганізатары кампаніі планавалі сабраць 40 000 рублёў.

Збор грошай на «Галасы Утопіі» пабіў беларускі рэкорд краўдфандынгу: раней найбольшай сабранай сумай было 83 577 даляраў — на *Kickstarter* для беларускай відэагульні «Легенды Айзенвальда» (яшчэ 12 782 даляры сабралі на працяг «Айзенвальда» — відэагульню «Кроў лістапада»). Па курсе на 20 красавіка на беларускамоўнае выданне кніг Алексіевіч ахвяравалі 115 526 даляраў.

Большую частку грошай — 150 тысяч — ахвяравалі Белгазпрамбанк і цэнтр «Новая культурная ініцыятыва». Яшчэ па 6,14 тысячы рублёў далі крамы *Symbal.by* і *Biblio.by*, яны замовілі па 100 камплектаў. Яшчэ 8,85 тысячы і 11,12 тысячы далі «Акадэмкніга» і ананімны ахвяравальнік, яны замовілі буйнейшыя аптовыя партыі. Нават калі адняць усё гэта, «народных» грошай прыйшло 46,69 тысячы рублёў.

**Радыё Свабода**

# Стартуе конкурс на стварэнне арт-прыпынку на радзіме Алеся Адамовіча



Вёска Глуша пад Бабруйскам неразрыўна звязаная з імем славутага беларускага пісьменніка Алеся Адамовіча. Тут прайшло ягонае дзяцінства. Тут бяруць пачатак сюжэты шмат якіх ягоных твораў.

У Глушы захаваўся будынак аптэкі, у якой працавала маці Алеся Адамовіча. Ужо не адно дзесяцігоддзе вядуцца размовы пра стварэнне ў будынку музея.

Пакуль музея няма, мы, ініцыятыва па стварэнні турыстычнага пункта «Прыпынак Адамовіча», шукаем іншыя шляхі, каб ушанаваць памяць нашага вялікага земляка, а таксама каб прывабіць людзей у ягоныя родныя мясціны.

Мы хочам прысвяціць Алесю Адамовічу аўтобусны прыпынак у Глушы, ператварыўшы яго ў арт-аб'ект. Мы лічым, што так мы зможам прыцягнуць увагу як жыхароў вёскі, так і гасцей і тых, хто проста едзе міма па трасе, да асобы Алеся Адамовіча, да пакінутай ім спадчыны.

Аўтобусны прыпынак знаходзіцца каля ажыўленай трасы Бабруйск — Глуск — Слуцк. Яркі прывабны арт-аб'ект будзе добра бачны тым, хто будзе праязджаць праз Глушу. Нехта абавязкова затрымаецца і даведаецца, што тут жыў Алесь Адамовіч.

2018 год — Год малой радзімы у Беларусі. Мы хочам паспрыяць развіццю малой радзімы Алеся Адамовіча.

Каб нашая ідэя рэалізавалася, нам патрэбны цікавы праект ператварэння звычайнага аўтобуснага прыпынку ў арт-аб'ект, прысвечаны пісьменніку. Таму мы сумесна з аддзелам па ідэалагічнай рабоце, культуры і справах моладзі Бабруйскага райвыканкама абвяшчаем конкурс такіх праектаў.

Да ўдзелу запрашаем усіх зацікаўленых, але найперш — навучэнцаў мастацкіх навучальных установаў, дызайнераў, архітэктараў, творчых людзей.

Конкурс распачынаецца 23 красавіка. Дасылаць працы нам можна да 23 траўня ўключна.

Задача для ўдзельнікаў конкурсу — распрацаваць эскізны праект прыпыначнага пункта «Прыпынак Адамовіча» (далей — п.п.), з абавязковай архітэктурнай прывязкай да прапанаванага месца размяшчэння, што ўключае:

- распрацоўку канструкцыі прыпыначнага пункта (у выпадку, калі мяркуецца будаўніцтва п.п. ці яго значная перабудова), з пералікам будаўнічых матэрыялаў, з якіх будзе стварацца п.п. і якімі будзе аздабляцца (фарбы, дэкаратыўныя элементы і г. д.);
- вызначэнне памеру п.п. (у выпадку, калі мяркуецца будаўніцтва ці значная мадэрнізацыя);
- стварэнне эскіза;
- вызначэнне прыкладнага коштарысу на будаўніцтва ці аздабленне п.п.

Праект прыпынку павінен суправаджацца дэманстрацыйнымі матэрыяламі: візуальным эскізам і тэкставым апісаннем.

Для ўдзелу ў конкурсе неабходна даслаць заяўку (ідэю, праект) на адрас *adamovich.konkurs@gmail.com* да 23 траўня 2018 года.

Разгляд заявак і вызначэнне пераможцаў — да 31 траўня.

Тэлефон: +375291238873, Андрусь Архіпенка.

Таксама ўся інфармацыя пра конкурс на сайце адамовіч.бел, а таксама ў сацсетках — «Фэйсбук», «Укантакце».

# Цяжка захварэла Лілета Юстыновіч, вядомая мінчукам як «спадарыня Лета»

З Сібіры вярнулася яна ў Беларусь. Гэтую мініяцюрную мінчанку ў вышываным адзенні і карункавай палярыне ў твар ведаюць тысячы людзей. Хоць яна не з тых, каго паказваюць па тэлебачанні.

Сумныя весткі: у Лілеты Юстыновіч інфаркт, яе стан цяжкі. Пры яе ложку дзяжураць па чарзе ўнукі і дачка.

Спадарыня Лета, як яна сама сябе называла, нарадзілася ў Менску ў 1939 годзе. Інжынер, яна доўгі час працавала ў Сібіры, пасля вярнулася на радзіму.



ЮЛІЯ ДАРАШКЕВІЧ

**Сяргей Гезгала**

проза

# Радыёхваля

Ён пісаў ёй так шмат, што ажно надакучыў. Не доўга думаючы, яна ператварыла яго ў радыёпрымач. Цяпер, калі ён назаляў сваімі «бу-бу-бу», яна магла яго проста выключыць ці лёгкім рухам рукі знайсці прыемную музыку і далей займацца сваімі справамі. Ён вельмі любіў усё, звязанае з радыё, і таму спачатку новая роля яму спадабалася, але вельмі хутка абрыдла. Чысты дуб, храмаваныя рэзістары гуку і тэмбру — у святле транзістарных лямпаў ён выглядаў настальгічна прыгожа. Кінуў усё, ператварыў сябе ў радыёхвалю і пайшоў гуляць па частотах.

Ш-ш-шш

645LW — *Radio Clarin*, далёкая Аргенціна, бяскрайнія пампы, стэйк, дыктар чытае Картасара: «Так, Парыж — метафара. Што за малюнак на гэтым дыване? Ах, скрадзенае дзяцінства, а што ж яшчэ, што ж яшчэ! Я дваццаць разоў бываў у гэтым пакоі і цалкам не здольны ўзгадаць малюнак на гэтым дыване».

Ш-ш-шшш

1532LM — *Radio Helderberg*, Паўднёвая Афрыка, праблемы міграцыі птушак, апартэід, добры чырвоны «Шыраз» 1975 года.

Ш-ш-ш

708AM — *PacifaBeat*, начны эфір аўстралійскага радыё.

Хутка ён ведаў усе мовы свету, скачучы праз кантыненты без візаў і нагляду ў аэрапортах — яго ноч уступала ў неразборлівыя сувязі з днём.

Яна не ведала, што ён перастаў быць радыёпрымачом. Раніцой, днём, увечары, пад чужыя размовы і добрую музыку яна любіла танчыць побач з драўляною скрыняй і выціраць пыл — спакойнай, што побач быў ён. Каб мог, ён бы паведаміў, толькі больш не пісаў. З вандровак дасылаў прыгожыя песні ёй на FM і вяртаўся назад на сярэднія і доўгія хвалі назіраць, як там знічкамі адна за адной змаўкаюць у шуме эфіру апошнія аналагавыя радыёстанцыі.

Ш-ш-шшш

745AM — *California Radio*: «З гэтага моманту слухайце нас у інтэрнэце».

Ён ведаў, што нарэшце застанецца адзін у гэтым шуме. Будзе самотна плыць у бездані космасу былых галасоў і чакаць, калі яна заўважыць яго непрысутнасць. У шуме, што вечны, як космас, як вечны пыл на радыёпрымачы.

**Андрэй Дзмітранок**

# Як школьнік адпомсціў настаўніку за аднакласніц

Сацыяльны педагог адной са школ Мінскай вобласці паведаміў бацькам некалькіх старшакласніц, што іх дочкі кураць. Хутка аб гэтай гісторыі ўсе забыліся, але адзін са школьнікаў вырашыў правучыць педагога і «адпомсціць» за аднакласніц, хоць тыя яго аб гэтым нават і не прасілі.

Падрабязнасці гісторыі распавяла міліцыя Мінскай вобласці.

Хлопец вырашыў узламаць старонку настаўніка ў сацсетках. Але для гэтага трэба, каб ахвяра сама ўсталявала на камп'ютары адпаведную праграму.

Тады школьнік пад выглядам дзяўчыны стварыў фэйкавую старонку ў сацсетках. Каб пазбегнуць адказнасці на выпадак, калі «нешта пойдзе не так» ці ахвяра звернецца ў міліцыю, зламыснік выкарыстаў усе самыя сучасныя сістэмы ананімнасці. Затым з гэтай старонкі «пазнаёміўся» з аб'ектам шантажу.

Пасля некаторай перапіскі выявілася, што ў новых знаёмых ёсць агульныя музычныя інтарэсы. «Дзяўчына» пахвалілася, што карыстаецца праграмай-плэерам, якая вельмі якасна прайграе любую музыку, і нават пагадзілася падзяліцца спасылкай на праграму са сваім новым сябрам. Да таго ж, па яе словах, праграма падключана да вялікага бясплатнага архіву класнай музыкі, з якога лёгка спампоўваць упадабаныя кампазіцыі. Малады педагог з радасцю скарыстаўся такой магчымасцю, але праз некаторы час адпісаўся, што плэер «усталяваўся, але музыку чамусьці не знаходзіць і не прайграе».

На што «дзяўчына» здзівілася і выказала здагадку, што ў яго няправільныя сеткавыя настройкі, і скінула яму «правільныя», і нават падказала, як іх замяніць. Настаўнік зрабіў усё па інструкцыі «знаёмай», і школьнік атрымаў доступ да яго старонкі. З таго ж «дзявочага» акаўнта ён пачаў пагражаць, што апублікуе прыватную перапіску настаўніка, калі той не выбачыцца перад школьніцамі.

Але педагог пайшоў у міліцыю. І «дзяўчыну» хутка знайшлі.

Цяпер на вучня завялі крымінальную справу. Яму пагражае да 2 гадоў пазбаўлення волі.

УШ




## Мінскі гопнік стаў героем інтэрнэту: праехаў па газоне, пабіўся з відавочцам і атрымаў у вочы балончыкам. А ў выніку зняў штаны

Канфлікт двух кіроўцаў на вуліцы Голубева ў Мінску стаў нагодай для артыкула на партале *Onliner.by*.

Чытач сайта зняў на відэа, як кіроўца «Фальксвагена» паехаў проста па траве. А калі гаспадар машыны палез біцца, пырснуў яму ў вочы з газавага балончыка.

Наступныя некалькі хвілін роліка — нецэнзурнае высвятленне адносінаў.

У рэшце рэшт кіроўца «Фальксвагена» зняў штаны, каб прадэманстраваць свой азадак.

Матэрыялы накіраваныя ў ДАІ. У міліцыю напісаў і кіроўца «Фальксвагена» — наракае, што ў яго можа сапсавацца зрок ад газавага балончыка.

БЮ

## Памёр пасажыр легкавіка, які падчас «пясчанай буры» на М1 урэзаўся ў фуру



21 красавіка трасу М1 накрыла пясчаная бура. У часе яе легкавік «Вольва» ўрэзаўся ў фуру. У выніку 26-гадовы пасажыр Volvo атрымаў цяжкія траўмы, трапіў у рэанімацыю і пазней памёр.

## Пад Рагачовам на мужчыну напаў шалёны кот

Жыхар Старога Доўска адправіўся да калодзежа па ваду. Раптам ён адчуў, як нехта кусае яго за галёнку. Мужчына закрычаў, да яго на дапамогу падаспеў тавурыш. Аказалася, што мужчыну ўкусіў кот, паведамляе *slova.by*. Вяскоўцы здагадаліся, што незвычайныя паводзіны жывёлы — прыкмета шаленства, забілі ката віламі і патэлефанавалі знаёмаму ветэрынару.

Спецыяліст распавёў, як трэба паступіць з мёртвай жывёлай. Мужчыны, не дакранаючыся да кацінага цела, паклалі яго спачатку ў адзін поліэтыленавы мяшок, потым у другі, спакавалі ў скрынку і адвезлі ў ветэрынарную лабараторыю. Экспертыза пацвердзіла шаленства. А пацярпелы тэрмінова звярнуўся па медыцынскую дапамогу.

Дарэчы, гаспадар ката не знойдзены, хутчэй за ўсё, жывёла была бяздомнай.

У ЗЦГіЭ нагадалі: калі не ўдалося пазбегнуць укусу — прамыйце рану вадой з мылам, апрацуйце яе сродкамі дэзынфекцыі (ёдам, спіртавым растворам) і звярніцеся ў любую ўстанову аховы здароўя па кваліфікаваную медыцынскую дапамогу.

## Жыхарка Польшчы кінулася ў Буг ратаваць сабаку — і трапіла ў Беларусь

20 красавіка брэсцкім памежнікам ад польскіх калег паступіла інфармацыя аб тым, што на беларускую тэрыторыю выпадкова трапіла грамадзянка Польшчы.

Жыхарка Польшчы кінулася ў Буг, спрабуючы выцягнуць свайго сабаку. Аднак моцная плынь панесла гаспадыню на беларускі бок.

Брэсцкія памежнікі падабралі польку і надалі ёй неабходную дапамогу, паведамляе Дзяржпагранкамітэт.

У сувязі з парушэннем рэжыму мяжы і правіл знаходжання ў дачыненні да грамадзянкі Польшчы складзены адпаведны пратакол. Пасля завяршэння ўсіх фармальнасцей яе адправілі дадому.

# Міліцыя затрымала «сматрачага» за Віцебскам

У Віцебску затрымалі двух прадстаўнікоў крыміналітэту рэгіёна, паведаміў карэспандэнту БелТА начальнік аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю 7-га ўпраўлення (па Віцебскай вобласці) ГУБАЗіК МУС Руслан Баязітаў. Затрыманні праводзіліся 5 і 9 красавіка пры сілавой падтрымцы АМАПу.

Так, 5 красавіка быў затрыманы неаднаразова судзімы жыхар абласнога цэнтра 1965 года нараджэння, які ў крымінальным асяроддзі пазіцыянаваў сябе як «сматрачы за Віцебскам». Вядома, што ў дзень затрымання ён падбухтораў двух грамадзян да дачы хабару службовым асобам пракуратуры і суда Віцебска. Сума ў $4,5 тыс. і BR600 павінна была дапамагчы вырашыць пытанне па змене меры стрымання і прызначэнні пакарання, не звязанага з пазбаўленнем волі, у дачыненні да абвінавачанага, які знаходзіцца ў СІЗА Віцебска. Затрыманаму ўдалося завалодаць часткай гэтых грошай.

6 красавіка ў дачыненні да віцебчука заведзена дзве крымінальныя справы: па ч.5 арт.16, ч.2 арт. 431 КК (падбухторванне да дачы хабару ў буйным памеры) і ч.1 арт.14, ч.3 арт.209 КК (махлярства ў буйным памеры). Санкцыі названых артыкулаў прадугледжваюць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да 7 гадоў з канфіскацыяй маёмасці. Абвінавачаны звызвалены і змешчаны ў СІЗА Віцебска.



Фота УУС Віцебскага аблвыканкама

Па наяўнай інфармацыі, гэта не адзінкавы выпадак падбухторвання да дачы хабараў і махлярстваў з яго боку. Руслан Баязітаў растлумачыў, што затрыманы з'яўляецца прадстаўніком крыміналітэту старой фармацыі, мае шырокія сувязі сярод крымінальных аўтарытэтаў на постсавецкай прасторы.

Другі затрыманы (на фота) — беспрацоўны раней судзімы віцебчук 1976 года нараджэння. Ён з 2016 па снежань 2017 года праз махлярства завалодаў буйной сумай грошай мясцовага жыхара. Абвінавачаны падахвоціўся «аказаць садзейнічанне» ў вяртанні грошай даўжніка, выкарыстоўваючы свой ўяўны аўтарытэт у крымінальных колах. Грашовыя сродкі даўжнік стаў вяртаць, але да крэдытора яны так і не дайшлі. У выніку даўжнік вымушаны быў звярнуцца ва ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Акрамя таго, шляхам вымагальніцтва пад пагрозай прымянення гвалту і з прымяненнем гвалту прымушаў пацярпелага аплачваць крэдыт у памеры больш за Br2 тыс., аформлены на іншую асобу. Грошы пералічваліся на банкаўскую картку падазраванага, былі і наяўныя плацяжы — штомесяц ён атрымліваў ад ахвяры $150, у тым ліку за так званае крымінальнае заступніцтва.

Віцебскім ГАСК 9 і 11 красавіка ў дачыненні да затрыманага распачаты крымінальныя справы па ч.3 арт.209 (махлярства ў буйным памеры), ч.2 арт. 208 КК (вымагальніцтва з пагрозай прымянення гвалту і ўжываннем гвалту). Санкцыі названых артыкулаў прадугледжваюць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці. Абвінавачаны арыштаваны і змешчаны ў СІЗА Віцебска. Праваахоўнікі правяраюць інфармацыю аб здзяйсненні ім аналагічных злачынстваў раней. Грамадзяне, пацярпелыя ад супрацьпраўнай дзейнасці мужчыны, могуць паведаміць інфармацыю па тэлефонах 8 (029) 714 44 25, 8 (0212) 66 50 44, 67 48 76 або 8 (033) 399 80 44.

# Ганна Севярынец пра дзве сям'і, кошт прозвішча і пераход з бізнэсу ў школу


Маленькая Ганначка з бацькамі, Таццянай і Кастусём Севярынцамі. 1976 год. Фота Наталлі Адамовіч.


«Свет у сям'і мусіць быць дарослацэнтрычным, а не дзіцячацэнтрычным», — упэўненая Ганна.

Ганна з сынам Ільёй.

Мне даўно хацелася зрабіць гэтае інтэрв'ю. Апошнім часам мы так часта і так проста ганім міністраў, дырэктараў, настаўнікаў, вучняў ды ўсю нашу сістэму, што пачынае здавацца, нібыта беларуская школа ўжо памерла і нічога яе не выратуе. Але гэта не зусім так.

У нашай размове Ганна скажа, што «настаўнік — магутны чалавек». Бо калі кожны навучыць хаця б 150 сваіх вучняў глядзець углыб, у сутнасць рэчаў, працэсаў, навучыць думаць, аналізаваць, не баяцца — краіна робіцца лепшай.

Ганна Севярынец — настаўніца рускай мовы і літаратуры ў Смалявіцкай гімназіі. І пры гэтым — даследчыца беларускай літаратуры. Яна — настаўніца, якая любіць сваіх вучняў і любіць вучыць, і ў яе гэта атрымліваецца. Ганна магла б быць моцным запатрабаваным рэпетытарам, але ёй гэта нецікава — занадта нудна. Задавальненне, якое яна атрымлівае ад выбудоўвання настаўніцкага сусвету ў класе, — непараўнальна большае.

Ганна запрашае да сябе ў Смалявічы. Ад Мінска блізка — паўгадзіны на маршрутцы. Можа, таму ў гэтым горадзе нічога няма: ні прыстойнага парку, ні прыгожай алеі, ні нейкага маляўнічага цэнтра, ні вялікай добрай крамы, ні хоць якога-кольвек музея.

Будаваліся тут, бо трэба было сваё жыллё, а ў Смалявічах з гэтым нашмат прасцей і хутчэй, чым у сталіцы. Так і перабраліся. Хоць уласную кватэру Ганна любіць. Калі выйсці на балкон, перад вачамі паўстаюць вольныя прасторы, чыгунка з цягнікамі (можна лічыць вагоны), дахі дамоў ды палі — дзейнічае медытатыўна.

### Пра дзве сям'і

У сям'і паэта і журналіста Канстанціна Севярынца і настаўніцы Таццяны Севярынец Ганна нарадзілася першай. Другім з'явіўся на свет Павел, сёння вядомы палітык. Трэцяй — Дар'я, цяпер кандыдат тэхнічных навук.

**«Ніна»: Распавядзіце пра сваю сям'ю.**

**Ганна Севярынец:** Я даўно выйшла замуж, маю дзяцей, але калі мяне пасярод ночы паторгаць і сказаць: «Аня, хутка: чатыры чалавекі з тваёй сям'і», — то я назаву маму, тату, брата і сястру. Я не ведаю, добра гэта ці дрэнна, але гэта так.

Я пакуль не здолела пабудаваць такую сям'ю, у якой жыла сама.

У маёй цяперашняй сям'і — муж і дзеці — у мяне адной прозвішча Севярынец. Дзеці носяць бацькоўскае. Гэта было рашэнне, з аднаго боку, маё, а з другога — мужа. Ён сказаў: «Калі не хочаш, можаш прозвішча не мяняць, гэта будзе мой жэст павагі да твайго бацькі». І я засталася са сваім, хоць пасля было шмат сітуацый, у якіх было б прасцей яго змяніць.

Бацька для мяне вельмі важны чалавек, ад нараджэння і па сёння — па тым уплыве, які ён рабіў і робіць на мяне, на тыя шляхі, якія я для сябе абіраю, і творчыя, і жыццёвыя. Хоць я і гляджу на яго сёння дарослымі вачыма, ведаю ўсе яго слабыя бакі, для мяне няма, напэўна, больш камфортнага ў зносінах чалавека, чым ён.

**«Ніна»: Што ў бацьку вас захапляе?**

**ГС:** Ён добры, разумны і таленавіты — адкажу, як адказала б у дзяцінстве. Яшчэ ён вельмі дэмакратычны, кожнаму дазваляе мець свой погляд. Колькі я сябе памятаю, ён заўсёды ставіўся да мяне як да роўнай. Я ніколі не чула ад яго ні абраз, ні крыўднага «сюсюкання». Бо ў дзяцінстве я заўсёды шкадавала, што малая. Мне хацелася быць дарослай, самой прымаць рашэнні. З бацькам мы маглі спрачацца, дыскутаваць, але ён ніколі не «душыў» — гэта была гутарка на роўных.

Ён паэт, журналіст, увесь час пісаў. Памятаю, мне нешта не падабалася ў яго стылістыцы, я прыйшла і расклала яму ўсё па палічках. Ён выслухаў, з некаторых момантаў пасмяяўся, а некаторыя — улічыў.

**«Ніна»: Гэта колькі год вам тады было?**

**ГС:** Ці то 13, ці то 14. Але я ўжо глядзела на тэкст як на структуру.

Калі мы з Паўлам і Дашай пачалі пісаць, то пасля прыносілі тату зірнуць. Ён заўсёды чытаў вельмі ўважліва, нешта падкрэсліваў, крышачку хваліў, але такога захаплення — маўляў, «ах, як дзіцятка напісала!» — не было. Для нас ён быў жорсткім і суровым крытыкам. Было бачна, што ён сур'ёзна да гэтага ставіцца, не як да глупства. І лічыць, што мы вартыя ўвагі, вартыя заўваг, крытыкі.

Бацька чытаў шмат сучасных твораў, у нас з ім часта былі літаратурныя гутаркі. А вось тое, што я ведаю пра класічную рускую літаратуру, найперш перадала мама. Яна ў нас настаўніца, і вельмі добрая, лепшых я не сустракала, таму школьную праграму ведала «ад і да». Калі нам трэба было класціся спаць, яна сядала і расказвала «Слова пра паход Ігараў», «Мёртвыя душы», «Капітанскую дачку»...

**«Ніна»: А як было з бытам?**

**ГС:** У матэрыяльным сэнсе — няпроста. Бацька — журналіст, маці — настаўніца. Якія там заробкі... І пры гэтым яны ніколі не шкадавалі грошай на нашы захапленні. Кніжкі мы мелі любыя, ноты, піяніна купілі адразу ж, як яно спатрэбілася, гітару — я на ёй некалі няблага грала. Калі Павел зацікавіўся геалогіяй і яму былі патрэбныя грошы на паездкі, яму іх адразу ж давалі. Нічога не шкадавалі нам на справы, хоць мы даволі сціпла жылі.

Дысцыпліну, стрыжань у сям'і трымала мама. У яе вельмі выразнае разуменне дабра і зла — гэта надзвычай важна ў выхаванні. У гэтых межах, канечне, бывала не вельмі ўтульна, асабліва ў падлеткавым узросце, але ў дзяцінстве гэта вельмі важна адчуць. Сама я больш у бацьку — чалавек кампрамісу.


Першы курс філфака. 1993 год.

**«Ніна»: Не было праз гэтыя межы скандалаў, крыўдаў?**

**ГС:** Ніколі — бо ў мяне вельмі мудрая мама, і яна будавала вакол нас справядлівы сусвет. Нашто з такога сыходзіць? У ім усё вырашальна.

У мамы быў такі прынцып: што тычыцца сямейнай дысцыпліны — паесці, памыць за сабой посуд, заправіць ложак, прыйсці ў 21:00, калі сказана, а калі прыходзіш у 22:00, то папярэдзіць пра гэта, — з гэтым было вельмі жорстка. А што тычыцца поглядаў — што чытаць, з кім сябраваць, як думаць, як разважаць, — тут поўная свабода.

Нашай маці нават дасылалі на перавыхаванне бацькавага малодшага брата, ён старэйшы за мяне ўсяго на дзесяць год. Бо Коля быў такі гарэза! Сёння ён кажа, што наша маці зрабіла з яго чалавека.

Кожнае лета нас на месяц адпраўлялі да бацькавай маці — вось там быў санаторый! Нам можна было ўсё! «Бабуля, мы хочам згушчонкі!» Бабуля адразу падскочыла і пабегла ў краму. І калі дома нам дазвалялася толькі па лыжачцы ў дзень, то тут — бляшанка, дзве, тры! «Бабуля, мы так любім тархун!» — «Тархун? Трымайце скрыню тархуну!» — «Бабуля, мы будзем ляпіць з пластыліну!» — «Вось вам 20 пачак пластыліну!»

Бацькава маці, наша баба Маруся, прышчапіла нам уменне абсалютна і безумоўна любіць. Зямлю, сваякоў, лес, працу — проста любіць усё навокал і сябе ў гэтым наваколлі. У яе, дарэчы, тры сыны, і ўсе вельмі выхаваныя. Яны заўсёды звярталіся да яе на «вы», у хаце ніколі не было чутно мату. Калі ўжо лаяцца, дык толькі за каліткай — гэта чужым. Сваім — нідзе нельга. Такое вясковае шляхецтва, такі высокі парадак. Муж яе, мой дзед, Павел Пятровіч (у яго гонар мой брат атрымаў сваё імя), прыйшоў з вайны без нагі, таму па гаспадарцы працаваў толькі напалову. Дык бабуля цягнула на сабе столькі — немагчыма ўявіць.

А другая наша бабуля, маміна маці, Галіна Міхайлаўна, ужо сапраўды шляхетнага роду. Яна была дырэктаркай Лунінецкай бібліятэкі, а дзядуля, Яўгеній Іванавіч, — чыгуначнікам, прытым патомным чыгуначнікам, тагачаснай інжынернай элітай. Прабабуля Наста вучылася ў Віленскім універсітэце, пасля выкладала матэматыку. А муж яе, наш прадзед, Міхась Будзько, пахаваны ў Варшаве пры храме, ён быў вядомым праваслаўным святаром.

Дзядуля заўсёды быў вельмі маўклівы: ад яго за дзень можна было не пачуць аніводнага слова. Затое ў яго быў матацыкл, і ён вазіў нас на Прыпяць. Малыя Павел з Даркай — у калясцы, а я — за дзедам. І мы дзве гадзіны туды, дзве гадзіны назад, дзень там — уражанняў поўна галава! Гэта ж Палессе — неймаверна маляўнічыя мясціны.

Усяго хапала ў дзяцінстве, не было адчування, што мы малыя ці там дурныя, нейкі другі сорт у параўнанні з дарослымі. Дзе б мы ні былі, мы заўсёды разумелі, што роўныя тым людзям, якія побач з намі. Да нас усе ставіліся з павагай.

**«Ніна»: Вы сказалі, што такую ж сям'ю, як ваша, пакуль не змаглі збудаваць. Што не ўдалося перанесці з той мадэлі, у якой вы раслі?**

**ГС:** У мяне няма мамінай строгасці, і гэта вялікая праблема. Муж таксама вельмі мяккі чалавек, таму дзеці нас часам «перамагаюць», хоць так не павінна быць.

Свет у сям'і мусіць быць дарослацэнтрычным, а не дзіцячацэнтрычным.

На жаль, тут у нас крыху перакос.

Нам з мужам стала няпроста, калі мы ўсвядомілі, што ў нашай сям'і дзяцей больш, чым дарослых (ста-

рэйшай дачцэ Жэні цяпер 17 год, сярэдняй Любе — 14, а малодшаму сыну Ілью — 6). Калі з'явіўся трэці малы, мы рэальна адчулі пэўную небяспеку.

Дзеці розныя, і я культывую гэтую рознасць. Раблю ўсё, каб яны разумелі, што які ты ёсць, такі ты і правільны. Але ж калі тры чалавекі, і ты да кожнага ставішся з такой павагай, то ты хаця б паспрабуй нагатаваць на іх. Бо адзін не есць рыс, другі — грэчку, трэці — яшчэ нешта.

Ну і мама мая ўбыце вельмі акуратны чалавек, у яе заўсёды парадак. А я ўсё гэта не люблю — парадак і ягонае навядзенне. А паколькі я гэта не люблю і за гэтым не сачу, то і дзеці не сочаць. А што такое падлетак, якога не прывучылі да парадку? Гэта суцэльны жах. Але гэта я так, бурчу. Наогул, дзеці ў нас удаліся дабрэнныя, я іх вельмі люблю і мне з імі заўсёды цікава.

## Пра філфак і студэнцкія вольнасці

У Ганны дзве вышэйшыя адукацыі. Першая — філалагічная (БДУ), другая — эканамічная (БДЭУ, колішні «Наргас»). У жыцці ў розныя перыяды прыдалася і адна, і другая.

**«Ніна»: На філфак пайшлі, бо…**

**ГС:** Я вагалася паміж гістфакам і філфакам, але дакладна ведала, што потым пайду ў школу. Дык вось тата быў супраць філфаку, а мама — супраць школы. Яны вельмі прасілі, каб я падумала і выбрала нейкі іншы кірунак.

**«Ніна»: А чаго вы так хацелі ў школу? Што вам у ёй падабалася?**

**ГС:** Мне заўсёды і ўсё падабаецца, у мяне нейкі дэфект з падабаннем па жыцці. Я тры разы нараджала і ніводнага разу не сустракала хамскіх дактароў. Дрэнных настаўнікаў я таксама не бачыла. Бачыла сумных, нецікавых, неталенавітых, але злых — не.

Мяне ніхто не біў галавой аб дошку, як некаторыя расказваюць, ніхто не абражаў і не крыўдзіў.

У мяне з дзяцінства быў такі сшытачак, куды я запісвала свае разважанні пра настаўнікаў і пра школу, бо заўсёды, колькі сябе памятаю, ведала, што ў школу і пайду працаваць.

З аднакласнікамі мы не асабліва сябравалі, але ў мяне ў школьныя часы было такое інтэнсіўнае унутранае жыццё, што нейкія праблемы звонку абсалютна не хвалявалі. Яно і сёння так.

Муж пытаецца: «Табе ўключыць тэлевізар?» А я адказваю: «Юра, у мяне ўнутры такі тэлевізар!»

Мне не бывае сумна, не бывае, што няма чаго рабіць ці няма з кім пагутарыць. Хаця я разумею, што гэта шлях да шызафрэніі. Тут трэба быць асцярожным, каб унутраны свет не стаў вонкавым, бо гэта ўжо хвароба.

**«Ніна»: Што са студэнцтва прыгадваецца?**

**ГС:** Пра студэнцтва — як у прымаўцы: ёсць што згадаць, але няма чаго дзецям распавесці. Гэта былі 1990-я гады... Такая вольніца! Сёння такой няма і, напэўна, ужо больш не будзе.

Для мяне, кніжнай дзяўчыны, якая выйшла з такога асяроддзя, што нібыта з ясляў, бо сапраўднага жыцця мы ж ніколі не бачылі, усё было адкрыццём.

Дарэчы, я на другі дзень лекцый ледзь не забрала дакументы.

**«Ніна»: Чаму?!**

**ГС:** Ну бо я прыехала ўся з сябе «зорка». А там такіх 30. Мне страшна стала.

Потым абжылася, зразумела, што гэта і ёсць сапраўдне шчасце — калі побач людзі, мацнейшыя за цябе. Нашы выкладчыкі казалі, што такога моцнага курса, як наш, не было гадоў 20.

Саша Дынько (ну, тады яна была яшчэ не Дынько) сядзела за мной на першай лекцыі і з нейкай дзяўчынай ззаду абмяркоўвала: «Бу-бу-бу, бу-бу-бу, Франц Кафка, Франц Кафка...». А я сяджу са сваім «Маякоўскі, Гумілёў» і думаю: хоспадзе, хто такі Франц Кафка? Прыбегла ў інтэрнат і кінулася хутчэй чытаць, бо, думаю, гэта ж ганьбішча — не ведаць!

А сесія — гэта ўвогуле быў інтэлектуальны баль! Наш 803 пакой быў «цэнтральным», куды ўсе прыходзілі, прыносілі ежу і слухалі, як мы адзін аднаму расказваем адказы на пытанні.

Асабліва цікава было вучыць літаратуру. Кароткіх зместаў тады ж не было, таму той, хто прачытаў, пераказваў іншым. На пераказ «Адрынутых» Гюго, які я рабіла некалькі дзён, да нас прыходзіў нават геафак. Яны аднойчы паслухалі, ім спадабалася, дык сталі хадзіць да нас з дзявятага паверха пастаянна.

## Пра агаломшваючае каханне

**«Ніна»: Як вы з мужам сышліся?**

**ГС:** Гэта было вялікае агаломшваючае каханне — прынамсі, з майго боку. Добры, разумны, таленавіты, вершы піша — ну, ці былі ў мяне шанцы не закахацца?

Ён быў самым прыгожым хлопцам на філфаку, прыхільніц у яго было шмат. І я доўга чакала, пакуль маё шчасце да мяне прыйдзе.

З часам адносіны мадыфікуюцца. Дзеці, быт... Мы і пасварыцца можам, але ўсё гэта вонкавае. Будаваць сям'ю на адным каханні нельга, гэта безадказна. Чалавек, які побач, павінен падыходзіць у сэнсе нейкіх праграм.

Я не магу сказаць, што ў нас жыццёвыя праграмы аднолькавыя, але, напэўна, гэта адзіны чалавек, якога я змагла б вытрымаць так доўга побач з сабой. А мужу, як чалавеку мяккаму, такога будысцкага складу, магчыма, якраз патрэбны быў рухавік па жыцці, такі, як я.

А так, што тут новага сказаць? Каханне — тое, што рухае сонца і зоркі. Тое, чым жыве чалавек.

Я не ведаю, як жывуць людзі без кахання.

Калі яны не любяць тых, хто побач, тое, чым займаюцца, тое, што бачаць навокал, краіну, у якой жывуць.

## Колькі каштавала пакінутае прозвішча Севярынец

**«Ніна»: Вы казалі, што былі сітуацыі, калі было б прасцей змяніць прозвішча Севярынец. Якія сітуацыі?**

**ГС:** Я заканчвала філфак з чырвоным дыпломам і другой у рэйтынгу. Першай была мая аднагрупніца, у яе ў дыпломе не было ніводнай чацвёркі. У мяне была адна — між іншым, па беларускай мове.

Таму ў кабінет дэкана, дзе адбывалася размеркаванне, я мусіла заходзіць другой і мела права абраць любое месца працы. Але калі я зайшла, Ларыса Аляксандраўна Мурына, наш дэкан, сказала: «А што ж вы так дрэнна сачылі за братам?» І выдала мне накіраванне ў нейкую вёску ў Віцебскай вобласці, куды адзін раз на тыдзень хадзіў аўтобус. І я туды проста не паехала.

Потым, калі я рыхтавалася абараняць дысертацыю, на этапе выхаду на экспертную раду мне проста «па-чалавечаму» сказалі: «Аня, вазьмі прозвішча мужа, бо з прозвішчам Севярынец мы не будзем падпісваць дакументы, зразумей сама». А Павел тады якраз сеў. Я пайшла ў ЗАГС і кажу: «Хачу памяняць прозвішча на прозвішча мужа». Мне адказваюць: «Добра, але гэтая працэдура зойме 6 месяцаў, і вы павінны прынесці даведкі адтуль, адтуль і адтуль». Я пытаюся: «Чаму?» Яны мне тлумачаць, што гэта на выпадак, калі вы ўчынілі нейкае злачынства, набралі крэдытаў ці яшчэ што. Маўляў, павінны праверыць, што за мной ніякага крымiналу. І гэта мяне так абурыла! Я што, павінна мяняць сваё шыкоўнае прозвішча, як нейкая махлярка? І дзеля чаго? Каб проста абараніцца? Ну не.

А потым, у 2008—2009 годзе, палітычная сітуацыя была больш спрыяльная, пачалася невялікая адліга, і мне патэлефанавалі з кафедры і сказалі: «Аня, давай». Я перапісала дысертацыю, бо яна ж губляе актуальнасць, дайшла да экспертнай рады — і тут адбываецца 19 снежня 2010 года. І мне зноў кажуць: «Аня, пачакай, пакуль усё ўляжацца». А як тут уляжацца, калі Павел сядзіць, і сядзіць, і сядзіць. І я плюнула і закрыла для сябе гэтую тэму.

## Пра пагружэнне ў бізнэс і новы свет мерчандайзераў, маркетолагаў…

**«Ніна»: Навошта вам была эканамічная адукацыя?**

**ГС:** Трэба было зарабляць.

Пасля аспірантуры я выйшла замуж і нарадзіла дзіця. Мы жылі ў інтэрнаце, у вельмі сціплых умовах.

Аднойчы я зайшла ў наш пакой, убачыла, як усё адно на адно наваленае, сярод гэтага твае родныя людзі капошацца... І сказала сабе: праз пяць гадоў мы будзем жыць у сваёй кватэры.

Я зразумела, што так будзе, што я гэта зраблю. І яно неяк зрабілася.

Я тады ўладкавалася на працу ў аптовую фірму «Таір», добра зарабляла. Увесь клопат пра дзяцей лёг на мужа. З другой дачкой ён пайшоў у дэкрэт, бо я на той момант займала нядрэнную пасаду, сышла толькі нарадзіць. На працы мне далі магчымасць тры месяцы пабыць дома і далі дадатковa грошай на тое, каб я здымала кватэру і бегала раз на тры гадзіны карміць малую. У мяне ўсе дзеці — груднічкі, і ўсіх я карміла па паўтара года.

**«Ніна»: Гэта вы на той момант ужо кім працавалі?**

**ГС:** Загадчыцай рэгіянальнага аддзела «Таіра». На Паўднёвым Захадзе калісьці была вельмі вядомая крама «Таір» — першы мінскі начнік. Да яго людзі пешкі хадзілі з усяго Мінска, бо толькі там ноччу можна было набыць алкаголь і закусіць. Таму "Таір" ведалі ўсе. У кампаніі былі не толькі крамы, але і аптэкі, і вельмі вялікі аптовы склад. Прыкладам, «Таір» першым прывёз у Беларусь алiўкі і масліны.

Я туды прыйшла проста выпісваць накладныя, але паколькі я вельмі актыўны чалавек, то хутка пачала дзейнічаць. Неяк сказала: «Глядзіце, вось у вас справа стаіць так. Але калі вы паставіце інача́й, то будзе лепей». Я так пару разоў вылезла са сваіх накладных, і мне сказалі: «Калі ты такая разумная, то давай». І гэта быў яшчэ адзін шыкоўны досвед у маім жыцці. Хоць я насамрэч не бізнэс-чалавек і не ўмею прадаваць — гэта пасля было вялікай праблемай для майго кіраўніцтва.

**«Ніна»: Вось якраз хацела распытаць пра гэты досвед, бо гэта ж зусім іншае.**

**ГС:** Зноў жа, я туды прыйшла са свайго філалагічнага акружэння. А тут свет, якога я ніколі не бачыла.

Памятаю, як мяне першы раз адправілі па крамах разам з кіроўцам, каб я ўвайшла ў курс справы. Я ўпершыню тады пабачыла краму, у якую прывыкла ўваходзіць з галоўнага ўваходу, з задняга, пабачыла людзей, якія там працуюць. Не касірак і прадавачак, а тых, хто там, далей. Я вярнулася ў такім шоку! Я ніколі такога не бачыла, я не ведала, што так бывае, што бываюць такія людзі.

І вось гэты свет — кіроўцаў, людзей, якія працуюць рукамі, свет гандлёвых прадстаўнікоў, менеджараў, мерчандайзераў, свет маркетынгу — гэта ўсё адкрылася. Я амаль дзесяць гадоў адпрацавала, і ў мяне ўсё перакулілася.

**«Ніна»: Што вам далі гэтыя гады?**

**ГС:** Яны навучылі мяне дасягаць сваіх мэт, бо гуманітарныя веды мне гэтага не далі.

Калі ты кіруеш, то ад цябе, ад таго, наколькі ты будзеш хуткі, разумны, дыпламатычны, залежаць заробкі тваіх людзей. Ты павінен, з аднаго боку, прымаць пэўныя выхаваўчыя меры, а з другога — абараняць іх інтарэсы перад чалавекам, які стаіць вышэй.

У свеце бізнэсу няма вось гэтай дурной іерархіі, калі ты павінен паважаць чалавека проста за тое, што ён, напрыклад, завуч ці дырэктар. Гэта не працуе ў бізнэсе. Калі чалавек — дрэнны кіраўнік, то ён не ўтрымаецца.

Ва ўсякім разе, так было ў «Таіры».

Многаму я навучылася ў свайго непасрэднага кіраўніка, Рамана Сабалевіча. Правільна ставіць мэты, расстаўляць прыярытэты, разлічваць свой час, свае магчымасці, не баяцца вялікіх аб'ёмаў...

Памятаю, мой аддзел адгрузіў тавару на 50 мільёнаў. Я кажу Раману: «Ну вось!» А ён мне адказвае: «Аня, паглядзі на свае дасягненні, пасмейся і зразумей, што ты павінна зрабіць у дзесяць разоў болей».

Праз два гады, дарэчы, мы зрабілі адгрузку на паўмільярда. І я зразумела, што, з аднаго боку, не трэба ставіць перад сабой мізэрныя мэты. А з іншага — не трэба ставіць мэт, якія не могуць быць выкананыя. Не трэба займацца шапказакідальніцтвам. Сёння ты памылішся — і ўвесь твой аддзел паляцеў у тартарары.

Я цяпер, калі займаюся кніжкамі, архіўнай справай, разумею, што ў мяне працуюць тыя цягліцы, якія я падкачала ў бізнэсе.

Дарэчы, адтуль у мяне і манера вырашаць усе пытанні цераз галовы. Як у дзяржструктурах прынята? Вось ты сядзіш, дробная сошка, і спачатку ідзеш да завуча. Завуч ідзе да дырэктара, дырэктар — у раённы аддзел адукацыі. Раённы аддзел адукацыі — у абласны. Абласны — у міністэрства. Але хто можа перашкодзіць мне, звычайнай настаўніцы, звярнуцца наўпрост да адказнага чалавека? Я разумею, што гэта можа выглядаць па-хамску, але ўсё вырашаецца ў некалькі разоў эфектыўней.

**«Ніна»: А чаго сышлі з бізнэсу?**

**ГС:** Я выгарала да такой ступені, што мне стала проста ўсё роўна.

Апошнія два гады мяне ўжо проста трывалі праз мае колішнія заслугі. У дадатак, я стала адчуваць страшны сум па школе, бо ўжо мае дзеці пайшлі вучыцца. Я калі першы раз увайшла ў школу пасля гэтага перапынку, у мяне ўсё ажно раздзёрлася ўнутры. Я зразумела, што вось гэта маё месца.

Цяжка было кідаць, бо ты разумееш, якую вялікую будыніну ўзвёў.

Я і сёння гляджу на грузавую машыну і магу з ходу сказаць, колькі тон яна падыме. Я ведаю, колькі ў яе ўвойдзе туалетнай паперы, а колькі — агуркоў. Ведаю, колькі яна будзе ехаць да Брэста, а колькі — да Жлобіна. Усю ж Беларусь аб'ездзіла, усё перамерала.

Але ж кінула і пайшла пісаць у «Вельвет» ды выкладаць бізнэс-дысцыпліны ў прыватнай школе. А пасля мяне ўзялі выкладчыкам у Інстытут парламентарызму і прадпрымальніцтва. Так я вярнулася назад у адукацыю. Але на той момант ужо збудаваўшы кватэру за «гандлёвыя» заробкі.

## Пра сённяшніх дзяцей

**«Ніна»: Не расчароўваліся ў дзецях, з якімі даводзілася працаваць? Не заўсёды ж бывае аддача.**

**ГС:** Я ніколі не бачыла дзяцей, якія б не хацелі вучыцца. Не бывае такіх, бо гэтае жаданне закладзена прыродай: чалавек, пакуль ён малы, вымушаны вучыцца, бо нічога не ўмее.

Калі ты прыйшоў да дзіцяці сумны, калі ты яго не любіш, яно канечне не будзе хацець у цябе вучыцца. Дзеці не хочуць вучыцца ў цябе, а не наогул. Але ж хто гэта прызнае?

Я першы раз сыходзіла са школы менавіта праз гэта. Я зразумела, што мае гэтыя ўяўленні, мае гэтыя дзіцячыя сшытачкі — ружовыя акуляры. Мне ж іх здаваліся? Што «учііітель — это звучит гордо!» Але ж жыццё іншае. І настаўнік — гэта зусім іншае.

**«Ніна»: Як змянілася школа?**

**ГС:** Школа для мяне падзяляецца на дзве прасторы. Гэта клас, дзе я вяду ўрок, і тое, што па-за класам. Тое, што ў класе, не мяняецца ніколі. Толькі дзеці становяцца крыху іншымі, але прынцыпы ўзаемадзеяння з класам не мяняюцца. Ты павінен прыстасоўвацца і выбудоўваць вакол сябе той сусвет, які будзе круціцца па тваіх правілах. Не па правілах дзяцей ці асобных лідараў, а па тваіх правілах. Не жорсткіх, а проста прыстасаваных пад кожны калектыў. У мяне колькі класаў — столькі і схем. Інакш нельга, дзеці вельмі розныя.

А тое, што звонку, мяняецца ў нейкі шызафрэнічны бок. Гэта ператвараецца ў гогалеўскі сусвет. Хворае грамадства не народзіць здаровай школы. Праблема ж не толькі ў міністрах, праблема — у бацьках, у дзецях, якія

Працяг на старонцы 14.



Ганна з мужам на дачы.

# «Мерседэс», кулямёт і ніякага пафасу

Літаратурная замалёўка па некаторых гістарычных фактах. Піша **Руды Кот**.

20 лютага 1918 г. Дом губернатара на Саборнай плошчы.

У фае стаяў кулямёт. Учора прыходзілі палякі на «перамовы», патрабавалі здаць Менск. Убачылі кулямёт і моўчкі сышлі. Добрая рэч — кулямёт... асабліва калі пад сталом тры карабы набояў да яго. «Пясняр беларускай долі»...

На вуліцы холад, аж кур(в)ы чхаюць. Вецер і стрэлы ў горадзе. Палякі ганяюць бальшавікоў. Нашы ганяюць бальшавікоў. Бальшавікі ганяюць цягнікі. На ўсход. «Абаронцы» хе...авы. «Пралетарыі ўсіх старон!», «Распалім полымя рэвалюцыі!», «Мінск не сдадім!», а немец як папёр 18-га, дык аж боты гарэлі, як яны да вагонаў драпалі.

Пастрэльваюць недзе. Людзі сышліся на Саборную плошчу. Над плошчай сцяг... белы з чырванню стужкі пасярэдзіне. Убаку ад чыгункі — стужкі дыму па небе. Папяроску б задыміць...

— А каб табе добра жылося! І так лам'ём увесь паверх забіты — ну што ты іх сюды цягнеш? Нахалеры гэты матацыклет прыпёр?!

— Хай будзе, у гаспадарцы ўсё прыдасца... што мы, дарма, хіба, з яго на хаду бальшавікоў збівалі? Але ж гэтыя лярвы нават зваліцца з яго толкам не могуць, шчыток во пагнулі, каб іх чэрці гэтак гнулі, — прыхінуўшы да сцяны апарат, прамаўляў малады бялявы з зачосам назад Вінцук.

— Табака ёсць? — коратка спытаў, заходзячы за мной у дом.

— Ага, два мяхі. Сходзі ў гатэль вазьмі, у бальшавікоў «сканфіскаванай» многа было, і мне заадно прынясі.

Пайшоў. Яно і недалёка, да «Еўропы». Але басцяўся недзе больш за гадзіну па «сабачых сцежках».

* * *

Дабасцяўся. Прыбеглі ўчатырох, заносілі ў фае Яноўскага. Спіхнулі з зэдліка Костуся, які адсыпаўся пасля начных пагонь за Ландэрам, паклалі.

Яноўскі бледны, сціскаў зубы і праз іх мацюкаўся. А яшчэ настаўнік! Чалавек высокай культуры!

Заўсёды казаў па-руску (хаця неяк прызнаўся, што занятки з дзецьмі пры магчымасці «панашаму» вёў). Пэўна, калі з цябе свішча кроў, дык і культура ўжо да сракі. І, як звычайна, у шаліку — жонка звязала, як выпраўляла на фронт. Ён з ім усе гэтыя гады і не расставаўся. Гаварылі з ім раней, як хаваліся на кватэры, пасля арышту Езавітава ды Варонкі.

Паклалі і сталі, не ведаючы што рабіць.

Хутка падышоўшы да параненага, абвёў зрокам усяго. Кроў была, але, здавалася, не так шмат.

— Шыя ці плячо... — неяк задуменна працягнуў высокі, дні тры не голены баец.

Аўтаматычна пацягнуўся па нож, каб зрэзаць шалік...і на секунду завіс з «акопнікам» у руцэ над горлам. Гэта ж зараз шалік зрэжу, а ён мне потым за яго ды за памяць пра жонку...

— Рэж нахер шарфік, — прасіпеў праз зубы Яноўскі.

Ну добра. Рэжу.

— ...Ну іціт тваю бога душу маць, толькі шораху навёў!

Проста «пацалунак ад смерці»: куля прайшла па датычнай. Не так страшна. Хаця каб на сантыметр вышэй ці глыбей...


Приказъ

по Гарнизону города Минска

20 (7) Февраля 1918 года

№ 1.

§ I.

Распоряженіемъ Бѣлорусской Рады я назначенъ Начальникомъ Гарнизона и Комендантомъ города Минска.

Приглашаю населеніе сохранять полное спокойствіе и выдержку.

Наступающая нѣмецкая армія должна увидѣть спокойно протекающую мирную жизнь населенія, нежелающаго продолжать безумной войны.

Ягоны шалік быў самай чыстай анучай у гэтым фае. Разрэзаў на дзве няроўныя часткі. Меншую наклаў на рану, даўжэйшай прыціснуў зверху, прапусціў яе канцы ад шыі праз грудзі і спіну да падпахі і туга звязаў.

Калі Яноўскага знеслі ў кабінет і паслалі па фельчара, Вінцук стомлена прысеў на той жа зэдлік.

— Адкуль? Хто?

— Ля вакзала нарваліся на палякаў. Чалавек шэсць, а нас пяцёра. Камандзір — нейкі карлік з вусамі. Жыдзенькімі такімі, як папоўскае жыта. І нам з ходу: «Здавай збрую» адразу ж, во! Яноўскі ў іх і пытае па-цывільнаму: «А на каком основании разоружаете?» Гэты корч за наган, а наш Фёдар, той, высокі, за вінтоўку. Ну як за вінтоўку... схапіў за дула — і як дубінай зарадзіў гэтаму карліку прыкладам у зубы. А той... можа, і саўсім страляць не хацеў, але, падаючы, шмальнуў у паветра, і пац-эліў жа, курвіна такая. Яноўскі апаў. Мы ашалелыя, і палякі ашалелыя... я за маўзер, нашы за Яноўскага, палякі за карліка з вусамі... ну, аднаго я, здаецца, заваліў... ці параніў. Добра, што нашы на аўто пад'ехалі, закінулі мы Яноўскага, і сюды ходу.

— А на вакзал ты чаго папёрся?

— Ракевіч загадаў, сказаў: ідзі з мальцамі, забярыце, калі засталася, выбухоўку ў чыгуначнікаў нейкую.

Працяг на старонцы 23.

# Ганна Севярынец пра дзве сям'і, кошт свайго прозвішча і пераход з бізнэсу ў школу

Працяг са старонкі 13.

не разумеюць, што прыходзяць не па адзнакі, а па веды. Яны кажуць: «Ага! А сярэдні бал атэстата?» Я тлумачу: «Ты потым хочаш прыходзіць, напрыклад, да дрэннага доктара, які не ўмее лячыць? Ніхто не хоча. А ён жа таксама выбіваў з настаўнікаў адзнакі. Яму ставілі дзясяткі, і ён паступіў у «мед».

Перш чым мяняць міністраў, трэба змяніць грамадства.

Дзяцей як-ніяк 30. То бок ты выхоўваеш 30 больш-менш адэкватных адзінак, якія праз 10 год будуць вырашаць нешта на сваіх месцах. Калі ў цябе тры класы — то гэта 90. Калі пяць — 150. Настаўнік — гэта магутны чалавек!

**«Ніна»: Што адрознівае сённяшніх дзяцей?**

**ГС:** Па-першае, яны свабаднейшыя. У іх больш разняволенае мысленне. Сёння шмат настаўнікаў, якія чакаюць ад дзяцей самараскрыцця, а не шаблоннасці. Дзеці гэта бачаць і адгукаюцца.

Па-другое, у сённяшніх дзяцей няма перад дарослымі непатрэбнага піетэту. Маўляў, дарослы мае рацыю ўжо таму, што ён дарослы. Таму яны працэй рэагуюць на нейкія настаўніцкія выбрыкі. Я шмат разоў назірала сітуацыю, калі настаўнік на калідоры крычыць на дзіця, а яму ўсё роўна. Бо ён выдатна разумее, што настаўнік, які на яго крычыць, абражае толькі сябе, а не яго. Гэта вельмі карысная якасць. Люблю дзяцей, у якіх яна ёсць.

Па-трэцяе, дзеці сёння разумеюць кошт тых намаганняў, якія яны прыкладаюць. Калі ў іх ёсць мэта, яны гатовыя вельмі шмат высілкаў прыкладаць. Яны не разгубленыя, не чакаюць нейкіх указанняў.

## Пра найлепшую кнігу

**«Ніна»: Сёння шмат цікавых эрудзіраваных маладых людзей**



**не чытаюць мастацкую літаратуру. Яны глядзяць фільмы, серыялы, вандруюць, чытаюць Вікіпедыю, але кнігі не чытаюць. Можа б, вы патлумачылі, чаму на іх варта траціць час?**

**ГС:** Сказаць па праўдзе, я таксама апошнім часам мастацкую літаратуру перастала любіць. Мне мулае мастацкі вымысел, тое, што ляжыць у цэнтры мастацкай літаратуры. Мне цяпер значна цікавей нон-фікшн і архівы. Архіўная справа для мяне сёння — найлепшая кніга.

Пісьменнік, калі складае сюжэт, у любым выпадку інтэрпрэтуе свет. А жыццё, якое складваецца само, — гэта сувязь шматлікіх інтэрпрэтацый і повязь сусветаў. Там шмат пластоў, шмат герояў, цэнтрабежных момантаў. І калі гэта ўсё складаецца ў сюжэт само сабой, не таму, што гэта нехта выбудаваў, а таму, што яно так выбудавалася, вось для мяне гэта, канечне, вельмі захапляльны працэс.

Няма такой мастацкай кніжкі, якая б мне дала адчуванне гэткай самай галавакружнасці, якую мне дае архіўная справа ці любы сюжэт, выкладзены нон-фікшн.

Калі ж казаць пра мастацкую літаратуру наогул, то яе галоўная каштоўнасць у тым, што яна нам паказвае сусвет аўтара.

Калі ты чытаеш кніжку, ты сядзіш у галаве таго чалавека, які яе напісаў. Бо чалавек праз тэкст выказвае ўсяго сябе. Гэта як кропля вады, у якой ёсць хімічны склад усяго акіяна. Таму кніга — гэта найлепшы інструмент, каб спазнаваць чалавека. А цікавейшага за чалавека ў свеце нічога няма.

Найперш таму, што ён такі складаны. Таму, напрыклад, я не магу чытаць кніжку, калі не ведаю, хто яе напісаў.

**«Ніна»: Ёсць кнігі, якія вы перачытваеце?**

**ГС:** «Пошукі будучыні» Кузьмы Чорнага. Я нават ведаю, якое яно — гэтае пачуццё: трэба перачытаць «Пошукі будучыні». Гэтаксама я адрозніваю ад іншых сваіх чытацкіх памкненняў жаданне перачытаць Лукаша Калюгу. Ну і вершы Алеся Дудара — гэта проста «мой» паэт.

## Пра алею руж

**«Ніна»: У вас жа яшчэ лецішча ёсць, што вы там вырошчваеце?**

**ГС:** Я не вельмі руплівая гаспадыня, у мяне можа і пустазелле ўсё парасці. Кожны год нейкую культуру я гублю.

У мяне чамусьці не растуць перцы, нешта ім не падабаецца. Затое ў мяне штогод добры часнок. Ды што там — я проста каралева часнаку!

Мне ад папярэдняй гаспадыні дасталася алея з руж. Але калі мы набылі лецішча, я гэтай алеяй была моцна незадаволеная, бо мне хацелася нечага практычнага: агуркоў, памідораў — усяго, што можна з'есці. Я хадзіла і казала: «Ды нашто мне гэтыя ружы? Я ж не буду іх есці». І палова гэтых няшчасных руж, паслухаўшы мяне, прапала.

А потым, спатоліўшы прагу расціць кабачкі і агуркі, я натрапіла ў інтэрнэце на калекцыйныя ружы. Я імі зацікавілася, стала прасіць прабачэння ў кожнай сваёй ружы, што ў мяне яшчэ засталіся. Раслінам жа трэба, каб з імі размаўлялі. Да яблыні, бывае, падыдзеш і скажаш: «Так, яблыня! Што з табою? Чаму яблык не даеш?» І калі ты прачула з ёй пагутарыў, то яна будзе радзіць. Канечне, у спалучэнні з усімі рознымі агратэхнічнымі мерапрыемствамі.

Карацей, алею з руж я аднавіла. Нейкія — ад суседзяў, а шэсць выпісала наўпрост з англійскага гадавальніка Дэвіда Осціна.

## Прынцыпы

**«Ніна»: Што для вас важна ў людзях?**

**ГС:** Тое, што яны ёсць. Чым асоба глыбейшая, складанейшая, больш супярэчлівая — тым яна цікавейшая.

Яшчэ мне падабаюцца прыгожыя людзі. Вось ты глядзіш на чалавека — і табе проста з ім прыемна быць побач.

Пры гэтым я не лічу сябе вартай эстэтычнага захаплення, таму бяру гэта ад іншых людзей.

**«Ніна»: Якія чалавечыя якасці не пераносіце?**

**ГС:** Я не магу трываць маніпулятараў. Я разумею, што мой унутраны камфорт наўпрост залежыць ад таго, маніпулююць мной ці не, таму мне працэй проста не сутыкацца з такімі людзьмі. Тут я не шкадую, гештальт зачыняецца імгненна.

Потым я вельмі няўтульна сябе адчуваю побач з людзьмі з экстэрнальным локусам кантролю. Гэта калі чалавек думае, што ва ўсіх бедах у яго жыцці вінаваты нехта звонку. У мяне ёсць такі ўнутраны эмпатычны дэфект — слабыя людзі, хранічныя «ныцікі», якія не гаспадараць над сваім жыццём, не выклікаюць у мяне спачування.

**«Ніна»: Якія падзеі вы лічыце лёсавызначальнымі?**

**ГС:** Ёсць такое ў Пушкіна: «Вся жизнь моя была залогом свиданья верного с тобой». Калі глядзіш на жыццё сістэмна, то разумееш, што кожны момант так ці інакш абумоўлены наступны.

Я памятаю, што ў 14—15 гадоў пытанне сэнсу жыцця мяне страшна калашмаціла. І з бацькам размаўляла, і ў кніжках шукала, і думала, і рэфлексавала.

І калі я для сябе зразумела, у чым сэнс майго жыцця, яно ўсё пайшло па гэтай генеральнай лініі.

Таму я не магу сказаць пра нейкія лёсавызначальныя кропкі, бо я разумею, куды іду.

І потым, я ведаю, што дарога раскідаецца перад табой як той чароўны клубочак. Калі ты стукнуўся адзін раз галавой аб дзверы, другі раз, трэці раз не трэба. Гэта не твае дзверы. Побач паглядзі — побач адкрыта. Ідзі туды.

**Настасся Роўда,**
**фота аўтаркі**
**і з архіва гераіні**

# Гімнастка-чэмпіёнка расказала пра тое, як жанчыне кампенсаваць змены ў арганізме

Мы папрасілі бронзавую прызёрку Алімпійскіх гульняў — 2012 па мастацкай гімнастыцы, старшыню камісіі спартсменаў Міжнароднай федэрацыі гімнастыкі Любу Чаркашыну расказаць, ці плануе яна прысвяціць трэнерству ўсё жыццё і як спалучае выхаванне сваёй дачкі з заняткамі з яшчэ шасцю дзяўчатамі. А таксама папрасілі прадэманстраваць некалькі карысных фізпрактыкаванняў для падтрымання тонусу, якія можа выконваць кожны, нават калі побач малое дзіця (а ў хатніх умовах Любы — яшчэ і два мопсы).



Мы сустракаемся з Любай на базе «Дынама», дзе трэніруюцца юныя гімнасткі. Хутка яна і іншыя трэнеры разам з падапечнымі цалкам перабяруцца ў Палац мастацкай гімнастыкі. Праўда, хоць месяца там і больш, стужкі ўжо дакладна не будуць чапляцца за бэлькі, Люба загадзя сумуе па сценах, якія перайшлі ім у спадчыну ад гандбалістаў: за некалькі год зала паспела стаць сапраўды роднай.

Сёння тут праходзіць дзіцячая рэспубліканская спартакіяда. Люба назірае за выхаванкамі і час ад часу пазірае на вазок, дзе спіць дачка Вера. Дзяўчынцы тры месяцы, і Люба спакойна бярэ яе з сабой на працу. Жартуе: «Яна ў нас з радзільні пешшу магла пайсці. У сучасным свеце мы працуем да апошняга, калі дазваляюць абставіны, і таксама хутка вяртаемся ў строй».



Любоў Чаркашына бярэ трохмесячную дачку з сабой на трэніроўкі.

### Пра роды

Веры, відаць, вельмі добра жылося ў маім жываце. Яна тусавалася там, музыку слухала і вонкі не збіралася. Таму мне рабілі кесарава. Мы ад пачатку хацелі сямейную палату і атрымалі яе. Пачынаючы з другой ночы майго знаходжання ў радзільні і аж да самай выпіскі муж быў побач. Гэта мне вельмі дапамагло: адна, без падтрымкі, я б там звар'яцела.

Раней я ніколі ў жыцці не ляжала ў лякарнях, не разумела нават, што такое палаты, анестэзія. Так, у мяне былі траўмы ступняў, спіны, каленяў, пальцаў, але да аперацый справа ніколі не даходзіла, хоць і трывала я да апошняга. Можна сказаць, спартыўны бог мяне мілаваў. Ну і першапачаткова я займалася акрабатыкай і спартыўнай гімнастыкай, што дало мне неймаверны мышачны гарсэт.

### Пра тое, як хутка вярнуцца ў абойму пасля нараджэння дзіцяці

Многае залежыць ад галавы. Ад таго, як мы сябе запраграмуем. Ідучы нараджаць, я ведала, што праз два тыдні мне трэба будзе ляцець на перавыбранне старшыні камісіі спартсменаў Міжнароднай федэрацыі гімнастыкі. І я разумела, што гэтага не адбудзецца без майго ўдзелу як дзейнага старшыні. Я папярэджвала дактароў, што мне трэба хуценька выпісацца, а яны толькі смяяліся. Але зрабілі патрэбныя абязбольвальныя ўколы, я надзела бандаж і паляцела на нараду. Урэшце, менавіта рух дазваляе хутчэй адчуць сябе адэкватна.

Безумоўна, я радавалася, калі мяне зноў перавыбралі старшынёй камісіі. Не проста ж так я ляцела туды праз боль. Канечне, я і так з'яўляюся прадстаўніком нашых спартсменаў у тэхнічным камітэце па мастацкай гімнастыцы да наступных Алімпійскіх гульняў. Але мне хацелася зноў узначаліць камісію, таму што гэта адкрывае дадатковыя магчымасці.

Напрыклад, на адных міжнародных спаборніцтвах нашым гімнасткам не спадабаўся новы дыван: ён быў вельмі мяккі, ногі ў ім танулі. Ноччу яны даслалі мне фотаздымкі, а я перанакіравала матэрыял у Міжнародную федэрацыю. Цяпер усе гран-пры праходзяць на дыване, зручным для гімнастак.

### Пра змены ў арганізме

У пачатку мацярынства я вельмі напружана чакала малако, якое ўсё ніяк не прыходзіла, таму што праз кесарава працэс запавольваецца. Гэта быў цяжкі псіхалагічны перыяд. Пасля, ужо дома, здаралася, што магу без нічога ніякага заплакаць. Бедны мой Віця, які не разумеў, як мне дапамагчы!

У арганізме ідзе гармальная перабудова, і з гэтым нічога не зробіш — усе праз яе праходзяць. Я магу на кароткі час забыцца, куды іду, і не перратэлефанаваць чалавеку, хоць абяцала. Яшчэ падчас цяжарнасці ў мяне выпрацаваўся пафігізм, які не быў уласцівы раней. Такім чынам прырода сама кантралюе, каб маці не нерваваліся дарма.

У мяне добрая генетыка, і раней ніколі не было праблем з валасамі, а цяпер — пачалі выпадаць. Крэмы, якія падыходзілі раней, ужо не працуюць. Са скурай адбываецца нешта мне не падуладнае. І я разумею, што нейкія сродкі па доглядзе прыйдзецца перагледзець, абраць новыя.

А вось вітамінамі я сябе стараюся не шпігаваць. Толькі падчас цяжарнасці магній піла. А так мне хапае патрэбных мікраэлементаў з садавіны і гароднінны. І за калорыямі не сачу.

Увогуле, заўсёды дзіву даюся дысцыплінаванасці ўсялякіх фітнэс-блогераў: наколькі яны верныя сваёй лініі! Мяне такая абмежаванасць раздражняла б, я так не магу. Тым больш, вельмі смачна гатуе муж. Упльў, відаць, аказвае яго новая сфера дзейнасці: з футбаліста ён перакваліфікаваўся ў працаўніка харчпрамысловасці.

### Пра фізічную актыўнасць

Водгаласы заняткаў мастацкай гімнастыкай патрабуюць, каб я была ў суперформе. Каб не запускаць сябе, раблю розныя фізічныя практыкаванні. Напрыклад, магу прысядаць разам з Верай на руках. Так чатыры падыходы па 30 разоў. І ёй весела, і мне добра.

Раблю самамасаж. Апошні сапраўды дапамагае выглядаць лепш. Таксама я стаю ў планках і стараюся рабіць практыкаванні кожны дзень. Зразумела, што хочацца яшчэ большага, але пакуль нельга.

### Пра трэнерства, амбіцыі і #шчасцежыць

Я не ведаю, ці хачу прысвяціць усё жыццё трэнерству і стаць такой паважанай, як глыбы спорту Ірына Ляпарская ці Мікалай Казека. Я не загадваю наперад не таму, што жыву адным момантам, а таму, што проста стараюся адчуваць кожную секунду свайго існавання напоўніцу.

Жорсткім урокам стаў адыход з жыцця маці ў 2009 годзе. Апошнія часы ў нас, як на зло, было мала магчымасцяў удосталь бачыцца: у мяне вечныя трэніроўкі, а яна — у Брэсце. І я памятаю той сакавік... Вясна, маці няма, а трава зелянее, гісторыя працягваецца. Мяне тады гэта вельмі раздражняла, бо з чалавекам такое, на жаль, не пройдзе. Ён можа памерці ў любы момант — і ўсё спыніцца назаўсёды. Тады да мяне прыйшло асэнсаванне каштоўнасці жыцця, у мяне нават хэштэг з'явіўся #шчасцежыць.

Адзінае, што я ведаю пра трэнерства, — тут не можа быць эгаізму. Калі ты робіш гэта для сябе, нічога не атрымаецца. Я згадваю сябе спартсменку: перажывала за ўласныя вынікі, мала думала пра іншых. А цяпер, працуючы трэнерам, я разумею, што мяне самой як асобы тут не можа быць, усё робіцца для дзяцей. Яны — на віду, а ты — за іх спінай. І з такой пазіцыяй таксама трэба было зжыцца.

### Пра беларускі спорт агулам

Што зрабіць, каб палепшыць вынікі нашых спартсменаў? Гэта рытарычнае пытанне. Але я хачу сказаць адно: мы, тыя, хто ў гэтай сферы, не ідыёты. Мы працуем, як праклятыя, бо інакш тут не затрымаешся. Але ўнікальнасць і асаблівасць гэтай рулеткі ў тым, што сёння спартсмен можа быць гатовы на 100 працэнтаў, а заўтра, на старце, адчуе сябе крыху горш — і ўсё, ён нікога не перакане ў тым, што быў «на кані».

### Пра скандалы, звязаныя з сэксуальнымі дамаганнямі ў спорце

У сённяшнім свеце шмат шалёнага. Як старшыня камісіі «Жанчыны і спорт» Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі, я, само сабой, абмяркоўвала гэтыя рэчы. І вось праблема ў тым, што цяжка прадумаць сістэму, якая б абараняла не толькі ахвяр, але і тых, каго могуць абвінаваціць без прычыны, проста таму што гэта камусьці выгадна на хвалі. Як зрабіць так, каб не зламаць лёс такіх людзей? Асабіста я мяркую, што 50 працэнтаў з тых гісторый, што гучаць цяпер, праз гады, надуманыя.

### Пра будучыню для дачкі

Мы, канечне, разважаем пра тое, кім стане Вера. Крута было б, каб у нас атрымалася дынастыя спартсменаў і яна вырасла ў гімнастку. Але як прыйдзе час, мы прадэманструем ёй разнастайнасць гэтага свету, дамо выбар. А калі ўжо яна пасталее — хай сама вызначае, чым хочацца займацца ёй.

Многія мае сябры, у якіх ёсць дзеці, тэлефануюць і пытаюцца, ці можна прывесці дзяўчынак у секцыю па мастацкай гімнастыцы ў тры гады. Яно, канечне, не забаронена. Але я ўсім бацькам раю пачакаць са спортам хаця б год. Па-першае, дзеці будуць больш асэнсавана падыходзіць да заняткаў. Падругое, калі яны ўсё ж пойдуць у спартыўную кар'еру, то ўжо ў 20 год ім могуць паспець надакучыць трэніроўкі.

Мастацкая гімнастыка — гэта вельмі часта боль і слёзы. Хто атрымлівае асалоду ад таго, што расцягвае сябе на двух крэслах, цэлы дзень праводзіць у зале, каб адтачыць элементы і спаборніцкія праграмы? Але сёння, калі я азіраюся на свае слёзы і крыўды, я хачу думаць не пра іх, а пра тое, якія вынікі гэта ўсё прынесла і якім я чалавекам стала. Проста так нічога ў жыцці не даецца.

**Кацярына Карпіцкая,**
**фота Сяргея Гудзіліна**

# Ларыса Геніюш: абсалютная гераіня

## Невядомыя факты

**Яе лёс быў ланцугом раздарожжаў і выбараў. Складана ўявіць, як ва ўмовах невыносна цяжкага для беларусаў XX стагоддзя чалавек змог пражыць такое годнае жыццё, нідзе не схібіўшы, не здрадзіўшы сабе. Хоць фартуна раз за разам падкідала Ларысе Геніюш магчымасці жыць прасцей, камфортней… Ларыса не слухала.**

Хоць яе і не гадавалі ў нейкім спецыяльным патрыятычным духу.

Ларыса расла недалёка Ваўкавыска, у фальварку Жлобаўцы. Цяпер такога месца на карце няма. Вялізны цывілізацыйны злом XX стагоддзя сцёр без следу тысячы родавых гнёздаў, а птушкі з іх разляцеліся па ўсім свеце.

Яна была са старога шляхецкага праваслаўнага роду Міклашэвічаў, які нібыта сышоў са старонак Караткевіча. У міжваеннай Польшчы Міклашэвічы былі ўжо і не сяляне, але нібыта і не паны. Фальварак той не быў фамільны, яго купіў дзед Ларысы, узяўшы пазыку ў расійскім банку. Як пазней іранічна пісала Геніюш, на жаль, паперы таго банка не згінулі ў Першую сусветную.

Крэдыт трэба было вяртаць, прыбыткі былі малыя, падаткі высокія, перакупшчыкі заніжалі цану на ўраджай, а бацька быў занадта горды, каб з імі сабачыцца... Старэйшая дачка з практычным розумам была першай бацькавай памочніцай у папяровых справах. «Усе справы з падаткамі, урадамі, даўгамі, крэдытамі ўскладаў тата на мае плечы», — успамінала Ларыса.

Міклашэвічы мелі работнікаў, але і самі працавалі як праклятыя. І ўсё ж у Жлобаўцах, у вялікай сям’і, дзе апроч яе былі яшчэ тры малодшыя браты і тры сястры, Ларысе было добра, як у раі. «...зямля да нас гаварыла. Яна разумела нас, акружала духам мінуласці ўсяго нашага народу й вялікай любоўю дрэваў, палёў». Ад гэтага адчування Беларусі пачалося яе патрыятычнае ўзрастанне.

Яна вучылася ў Ваўкавыскай польскай гімназіі, не была далучаная да моладзевых рухаў і суполак. Левыя, што пры падтрымцы СССР набіралі папулярнасці ў міжваеннай Польшчы, падаваліся ёй нецікавымі і шаблоннымі, дый у Бога яна верыла шчыра. Сучасная беларуская паэзія таксама не захапляла: «Змест народнай паэзіі, песні, абычаяў быў шмат глыбейшы, цікавейшы, часам несказана чароўны. Як жа вылавіць пэрлы з гэтага акіяна? Хто здолее гэта, хто зможа? Я ўбірала ў сябе ўсё гэтае багацце...»

### «Няма кавалера для панны Ларысы, толькі Пілсудскі!»

Саспець яе генію дапамагло знаёмства з будучым мужам. Тут нібы лёс Ларысу знайшоў. Яе прозвішча па мужу, Геніюш, лацінай — *genius*, і значыць геній. Хоць кавалераў да Янкі Геніюша была прорва. Сваталіся і знаёмыя, і незнаёмыя, і тыя, хто першы раз яе пабачыў, і выкрадаць яе спрабавалі, і страляліся... Паколькі сям’я была праваслаўная, часта закідалі вуду маладыя бацюшкі. Сёстры дражнілі Ларысу: купі часты грабеньчык, будзеш мужу бараду часаць.

Былі ў тым шэрагу і бунтары, і багатыя паспяховыя людзі, і добрыя суседскія хлопцы, але ўсё было не тое. «Няма кавалера для панны Ларысы, толькі Пілсудскі!» — жартавала мацерына сяброўка.

«Я была дзіўнай і часта не разумела сябе сама, ад усяго нядобрага мяне бараніла нейкая сіла... А тое «нядобрае» было, можа, найлепшым у вачох бацькоў маіх, маіх сваякоў: багатае замужжа, грошы й слугі. «Не, у мяне не будзе слуг, бо кожны мусяе сам сябе абслугоўваць», — секла я ў вочы спрыяючым людзям».

Не было ў тых жаніхоў толькі аднаго: беларускасці. А яе муж абавязкова павінен быў быць беларусам не толькі паводле паходжання, але і паводле ідэі.

«Выдатна, у вачох маіх, аддзяляліся нашыя сяляне ад тых паўінтэлігентаў, у асяроддзі якіх мне давялося жыць. Сапраўды разумных людзей я тады яшчэ не сустрэла. Трагічна адна я йшла нейк вобмацкам, інтуіцыяй да сваіх праўд, а якія яны — я добра ведала з ідэалаў Французскай рэвалюцыі, з Вясны народаў, з канстытуцыі Амерыкі».

Тут і з’явіўся Янка Геніюш з Зэльвы, студэнт медыцынскага факультэта Пражскага ўніверсітэта.

### Стройны, выгалены, элеганцкі

Першы раз у яе ўспамінах ён згадваецца ў сувязі з кніжкамі. «Адседзеўшы 8 гадоў, выйшаў з польскай вязніцы нейкі Юлек Кароза, ён вывучыў марксізм назубок і кожны дзень прысылае мне цэлыя сшыткі, запісаныя класавай барацьбой. Усё гэта слабей за рэчаісцасць і нейк няпраўдзіва, штучна й зусім не па-нашаму й далёка ад таго хараства, якое вабіць мяне ў нетрах народа нашага ў яго гісторыі, якую малады Геніюш мне прыслаў разам з іншымі кніжкамі».

Неўзабаве Янка з’явіўся і сам: «Стройны, худы, выгалены, элеганцкі Янка Геніюш, пражскі студэнт і амаль ужо доктар!»

Прыехаўшы ў госці ў Жлобаўцы, ён адразу пайшоў у наступ, зачараваўшы перш-наперш будучую цешчу, якая скоса глядзела на ранейшых Ларысіных жаніхоў. Ад Ларысы ж ён зусім страціў галаву: «Не мог спакойна прайсці ля мяне й лапаў усё, не толькі за рукі, аж я зазлавалася».

Цікава Ларыса ўспамінала, як правярала прыстойнасць будучага мужа.

«Вечарам запаліла лямпу й думаю: панясу яму — а быў ён у маім пакоі, — калі будзе нялетлівы, дык я яму такога нагавару, што адразу заверне аглоблі, я яму пакажу вось цяпер, менавіта калі мы адзін на адзін! Уваходжу з лямпай, як каралева, падняўшы высака галаў. Мой будучы друг ветліва за яе дзякуе, цалуе мяне ў руку, і абое спакойна жадаем сабе добрае ночы... Такое джэнтэльменства мяне канчаткова паканала, да таго цудоўная гутарка беларуская шырокая нейкая, нескупая натура гэтага беднага студэнта — усё раптам зрабілася мне несказана дарагім, і я падзякавала Богу ў душы за тое, што Ён усякімі дзіўнымі дарогамі прывёў яго з далёкіх Чэхаў у нашую хату. Неўзабаве згулялі вяселле».

У сур’ёзную ж хвіліну будучы муж «абяцаў разам, да канца нашых дзён, змагацца за Беларусь».

### «Беларусу неабавязкова быць лекарам»

Хутка і ў новым доме, у Янкавых бацькоў у Зэльве, зразумелі, што маюць справу з чалавекам цвёрдым і справядлівым.

Маладая сям’я сядзела без грошай, у Янкі былі пазыкі ў Празе, якія трэба было плаціць. Адзіным магчымым выйсцем падавалася — прадаць Ларысіну спадчыну, кавалак бацькавай зямлі. Але яна не магла так пакрыўдзіць сваіх бацькоў, яна лепш развялася б з мужам, чым зрабіла гэта. Янка «негадаваў», яго маці таксама. А стары свёкар абняў Ларысу і сказаў, што шчаслівы: калі яна так любіць бацькоў, дык і яго сына ніколі не пакрыўдзіць.

А потым збыў адну з дзвюх сваіх кароў і заплаціў сынавы пазыкі.

Янка мусіў здаць у Празе апошнія экзамены, каб атрымаць дыплом. І тут перашкода: не выпускаюць з краіны. Бо сям’я Геніюшаў байкатавала выбары ў польскі Сойм на знак пратэсту супраць палітыкі міжваенай Польшчы ў дачыненні да беларусаў.

Надзьмутая чыноўніца сказала Янку, што... «беларусу неабавязкова быць лекарам, ёсць у бацькі шэсць гектараў, і трэба араць іх...» З уласцівай ёй рэзкасцю Геніюш называла міжваенную польскую адміністрацыю «папярэднікамі Гітлера».

Цяжарная Ларыса ездзіла аж у Ваўкавыск, абівала парогі, але і там адмовілі «з увагі на дабро дзяржавы». Толькі праз знаёмага памешчыка, які быў знаёмы з міністрам, удалося дабіцца дазволу на выезд. Праз які год у Прагу прыехала і Ларыса — ужо не адна, з сынам Юркам.

### Юрка і іншая раса

«Мой маленькі абаронца» — называла яго Геніюш. Юркавы здольнасці, Юркавы поспехі і нават яго выраблянні былі для яе прадметам гонару. Расказвала, як ён, зусім малы, «не па-джэнтльменску» пабіў у пражскай краме, каля мяшка з арэхамі, дзвюх маленькіх суседак-немак. Іх маці тады падышла да Ларысы і сказала, што вось нарэшце ёсць нагода пазнаёміцца. У той нямецкай сям’і была віла з басейнам, Геніюшаў запрасілі. Паплаваўшы з новымі сяброўкамі, малы пад сакрэтам сказаў маці, што немцы сапраўды іншая раса, «бо Эвеліна і Інгрыда зусім маюць нешта інакшае, чымсьці ён». Купаліся дзеці голенькімі.

Лёс не судзіў Ларысе доўга быць з сынам. Калі чэшскія камуністы выдалі Геніюшаў у СССР, Юрка ў падлеткавым веку — у час, калі фармуецца асоба, — трапіў спярша да сваякоў у Польшчу, пасля ў прытулак. І сіроцкае жыццё яго зламала.

Ён здолеў вывучыцца на медыка, як бацька, спрабаваў пісаць, як маці. Але праз усю мацярынскую любоў Ларыса бачыла, што адбываецца з яе сынам.

Ларыса Геніюш паненкай...

«Мама, я піў гарэлку, я быў як нелюдзь», — прызнаецца ён ёй неяк, калі яго ўрэшце пачнуць пускаць у СССР з Польшчы. Юрка не дажыве да 50-ці, ненашмат перажыўшы маці...

## «На каленях вымольвала ў Бога словы»

Першы свой верш Ларыса Геніюш пабачыла надрукаваным, калі ёй было пад трыццаць. У такім веку многія сучасныя паэты, панавыдаваўшы падлеткавых раманаў і перасыціўшыся пісаннем, ужо скончаюць «літаратурную кар’еру». А Геніюш амаль трыццаць гадоў нібыта ўбірала ў сябе энергію зямлі, людзей, часу. Яна пісала трохі і раней — для сябе, мужу ў лістах, але «тыя вершы пагінулі».

Выклікам, які змусіў Ларысу пачаць паслядоўна працаваць з вершамі, была няпэўнасць. Няпэўнасць становішча, у якім апынуліся беларусы з пачаткам вайны.

У 1939 Гітлер і Сталін падзялілі Польшчу, беларускія землі адышлі да СССР. Бацьку Ларысы, як багатага гаспадара, арыштавалі і расстралялі, маці з сёстрамі выслалі ў Паўночны Казахстан — на выміранне. Жлобаўцы разрабавалі.

Не чакала яна нічога добрага і ад нацыстаў.

У адрозненне ад многіх дзеячаў, якія бачылі ў немцах «меншае зло» і ішлі на супрацу з імі, Ларыса Геніюш усведамляла, што апроч разрабавання і прыгнёту гітлераўцы нічога не прынясуць Беларусі.

Гэтай лініі несупрацоўніцтва трымаўся і мудры Васіль Захарка, дзядзька Васіль, як называла яго Ларыса, прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі, адзін з творцаў Акта 25 Сакавіка 1918 года, які дажываў тады ў Празе. Паміраючы ў 1943-м, ён перадасць Ларысе паўнамоцтвы генеральнага сакратара БНР і яе архівы. Тых архіваў будзе пасля на допыце ў Мінску дабівацца ад яе сам Цанава...

Нягледзячы на настойлівыя пераконванні некаторых дзеячаў і абяцанні зрабіць яе «першай беларускай паэткай», Ларыса так і не пагадзілася ў час вайны ехаць з Прагі ў Мінск і браць удзел у нямецкай прапагандзе.

«Адзіным друкаваным беларускім словам» у Празе тае пары была берлінская «Раніца», дзе «акрамя нямецкіх зводкаў былі і беларускія пытанні, вершы, карэспандэнцыя». Туды Ларыса і адаслала сваю паэзію.



...і ў дзень вяселля.

«Усё дарагое мне забралі, панішчылі, але ёсць тут, у нявол, браты мае, цёмныя, нават не ведаюць добра, хто яны, самыя сябе падцэньваюць, вось я хачу аказацца да іх, але так: сэрцам да сэрца. І вось пачалося. Я хутка выбілася на першую старонку газеты, мяне палюбілі. А я, я толькі думала пра нашых людзей. Часам на каленях вымольвала ў Бога такія словы й мыслі, якія б падтрымалі ў няволі братоў маіх, не дазволілі ім забыцца пра сем’і свае й сёлы. Каб рабілі іх упэўненымі ў сваіх чалавечых вартасцях, давала абразкі ім з нашай гісторыі. Многа вершаў маіх паляцела ў рэдактарскі кош, шмат не прапусціла цэнзура, але я іх усё пісала маім братам і часам аж плакала».

У цяжкіх умовах вайны яе словы падалі на ўдзячную глебу. Яна сустракала пасля сваіх чытачоў паўсюль: у акупаваным немцамі Мінску, на лагерных этапах Сібіры...

## «Имею честь терпеть за Беларусь…»

Так адказвала Ларыса на пытанні савецкага лагернага начальства.

Крыўда на мужа, які не дазволіў ім у сярэдзіне 1940-х вырвацца з Чэхаславаччыны на Захад, так і сочыцца між радкоў яе ўспамінаў. «Мой сацыяліст», скрушна называла яго Геніюш. Янка думаў, што пасля вайны Саветы перамяніліся і ім нічога не пагражае.

У 1945-м у Празе іх спрабавалі выкрасці проста з кватэры, каб вывезці ў СССР. Прыехалі грузавой машынай, разаслалі тэнты пад вокнамі (калі раптам надумаюць выскокваць), грукалі ў дзверы. Але ламаць не адважыліся: на абарону сабраліся суседзі. Пасля таго тры гады Геніюшы жылі спакойна. Яны пераехалі ў Вімперк, на захад краіны, дзе Янка знайшоў працу. Там іх па распараджэнні савецкіх спецслужбаў і арыштавала чэшская паліцыя.

У чым былі вінаватыя Геніюшы? У тым, што іх подпісы нібыта стаялі пад вітальным лістом Адольфу Гітлеру ад імя беларусаў Чэхаславаччыны. Ларыса ўспамінала той выпадак: сход і падпісанне ліста арганізоўваў доктар Ермачэнка, але подпісаў ніхто не ставіў, яны былі выведзеныя кімсьці пад капірку пазней. Той ліст дзівосным чынам трапіў у рукі НКВД.

Турэмная эпапея, апісаная Геніюш, — гэта «Архіпелаг ГУЛАГ» Салжаніцына ў скандэнсаваным выглядзе. Праз Прагу, Львоў, Мінск яна трапіла за Палярнае кола, у Комі АССР. Інта, Абезь... У лагерах, за калючым дротам, сярод тундры адзінай радасцю была камунікацыя. «Маці, глюкозы!» — прасілі маладзейшыя беларусы-зняволеныя. І Геніюш пісала ім вершы на маленечкіх паперках, якія рознымі спосабамі разыходзіліся па лагерах. Проста перапісвацца дазвалялася толькі на любоўныя тэмы, таму ўсе лісты даводзілася маскіраваць пад амурную перапіску. «Гаспадаркай» называлі Беларусь, «сынамі» — землякоў...

У яе забіралі сшыткі і алоўкі, ганялі на агульныя работы — біць кіркой мерзлую зямлю — саджалі ў штрафны ізалятар, яна ўсё вытрывала.

Не пісала просьбаў пра памілаванне і скаргаў, нават калі гэта мела сэнс, пасля смерці Сталіна. Але і без просьбаў яе і мужа вызвалілі ў 1956-м.

## «…душу маю паранілі беларусы»

У Чэхаславаччыну, грамадзянамі якой яны былі, ці ў Польшчу да сына Геніюшаў не выпусцілі. Яны вярнуліся ў Зэльву, у хату Янкавых бацькоў. Жлобаўцы да таго часу перасталі існаваць: будынкі вывезлі, гаспадарку расцягнулі. Толькі падмуркі ды старыя дрэвы нагадвалі пра колішні радасны дом. Два браты Ларысы загінулі на фронце, ваюючы з нацыстамі, адзін застаўся ў Вялікабрытаніі, маці памерла ў ссылцы ў Казахстане, малодшая сястра — у Польшчы.



Ларыса Геніюш з сынам Юркам. 1940 год. Юрка стане яе няшчасцем.

Савецкага грамадзянства ні Янка, ні Ларыса не прынялі. У пашпартах стаяў адпаведны штамп.

Уладкаваліся на працу ў мясцовую бальніцу, ён — доктарам-венеролагам, Ларыса рабіла сястрой-гаспадыняй.

Іх жыццё ў хрушчоўска-брэжнеўскім СССР было цяжкім маральна. Геніюшаў мэтаскіравана цкавалі, кожны іх крок фіксавалі даносчыкі. Ці не перабольшанне гэта падарванай лагерамі псіхікі? Ці не залішняя падазронасць? Новыя факты, якія адкрываюцца ў архівах, паказваюць, што не.

«...душу маю паранілі беларусы. Мне бачыцца дацэнт Воўк, які розна празывае мяне перад сотнямі беларускіх студэнтаў, Еўдакія Лось, як паліць... маю кніжку, зэльвенскае начальства, якое пасылае розных шпіёнаў да нас, а мы іх кормім абычаем бацькоў нашых.

Пасылае такіх, якія прабіраюцца ў хату без нас, трасуць драбніцы нашыя, мае словы. Настаўнікі зэльвенскія, якія займуць увесь аўтобус і не ўступяць мне месца, і я падаю, калі аўтобус трасе на выбоінах, а яны хахочуць...

Маіх землякоў, якія, прадаўшы ўвесь мой род, ганьбяць без довадаў бацькоў маіх, паганяць імя маё, толькі таму, што сяння новыя паны яго паганяць...»

Праз акенца сляпое
Шэры дожджык глядзіцца у хату,
У якой дагарае,
Бы ў небе асеннім зара,
Непатрэбная старасць
Адстаўнога паўстанца-салдата,
Невядомага генія,
Беларускага песняра…

Гэта верш «Паўлюк Багрым», складзены любімым паэтам самой Геніюш, Уладзімірам Караткевічам, у канцы 1950-х.

І ўсё ж замоўчваць творцу такога маштабу, як Ларыса Геніюш, сумленным людзям было цяжка. Дзякуючы Максіму Танку, тады старшыні Саюза пісьменнікаў БССР, ёй удалося выдаць кнігу дзіцячых вершаў. Пасля — яшчэ адну. Паэтку паціху запрашалі на сустрэчы ў школы, да яе пачалі прыязджаць пісьменнікі, мастакі, моладзь...

Гады ішлі. Усё часцей пачала мроіцца ёй чорная жанчына — вястунка смерці ў іх сям’і. Прадчуваючы, яна аддала свае ўспаміны гісторыку Міхасю Чарняўскаму, які перахаваў іх да часу, калі стала магчымай публікацыя. Дзякуючы гэтаму, мы маем унікальны гістарычны дакумент — яе кнігу «Споведзь». Яна, успамінаў Чарняўскі, была аддрукаваная на машынцы начыста без ніякіх правак, нібыта адным выдыхам.

Дый раман пра саму Ларысу Геніюш быў бы не горшым за «Каласы пад сярпом тваім». Да таго ж, у ім, нягледзячы на ўсе бездані трагізму, ёсць варыянт светлага фіналу. Бо зусім нямнога часу мінула ад даўжэзнай пахавальнай працэсіі за яе труной у Зэльве да першых шэсцяў за незалежнасць у канцы 1980-х. Нібыта адтуль, з Зэльвы, беларусам зноў адкрыўся шлях да ўласнай краіны.

**Сяргей Мікулевіч**

# Хмель, снітка, крапіва:
## даўншыфтары дзеляцца рэцэптамі страў з дзікіх раслін

Незвычайныя рэцэпты для сайта downshifter.by сабрала **Аўгіня Манцэвіч**.

Вясна ўжо трывала стаіць на нагах — на дрэвах з'явіліся пупышкі, а дзе-нідзе і зацвілі. А з зямлі пачала паказвацца доўгачаканая зялёная трава. Гарадскі жыхар ужо і забыў, што многія дзікаросы можна ўжываць у ежу. Але сапраўдны вясковец мусіць ведаць, якую расліну сарваць і што з яе прыгатаваць.

*DownShifter.by* вырашыў разабрацца, якія расліны можна есці і як іх прыгатаваць. Для гэтага мы сабралі некалькі рэцэптаў страваў з дзікаросаў ад даўншыфтараў нашай краіны.

Дзякуючы досведу нашых продкаў, сёння мы ведаем, што можам пэўным чынам прыгатаваць самыя розныя расліны. У лопуху можна з'есці літаральна ўсё — ад каранёў да насення. З каранёў дзьмухаўца і цыкорыя робяць напоі, падобныя на каву. Вельмі смачным атрымліваецца варэнне з дзьмухаўцоў, маладых яловых шышак, чорнай бузіны. Цікавы на смак суп з кісліцы. У ежу можна ўжываць адвараныя клубні лапчаткі гусінай і стрэлкаліста, мякіш аера. Выпякаюць з перамолатага карэння жоўтага і белага гарлачыка ды жалудоў. У інтэрнэце можна знайсці самыя розныя рэцэпты. А вось тыя, што сабралі мы.



Спалучэнні дзікіх траваў са звыклымі для нас прадуктамі часта даюць неспадзявана круты вынік.

**Насця Дабравольская з Казіміраўкі**

### Смажаны хмель

Адварваем маладыя хмель у салёнай вадзе, ваду зліваем. Адвараны хмель кідаем на патэльню з алеем ці з маслам і трошкі падсмажваем. Гатова!

### Суп з крапівой, зоркаўкай ды іншымі дзікаросамі

Калі вада ў рондалі закіпела, кінуць туды нарэзаную бульбу, цыбулю, нацёртую моркву. Можна дадаць свежую капусту і бурак. Крапіву парэзаць. Можна не абдаваць яе кіпнем ад пякучасці, а адразу дадаваць у суп, каб туды патрапіла як мага больш вітамінаў. Туды ж можна парэзаць шчаўе і зоркаўку (выдатную крыніцу жалеза) і лебяду (выдатную крыніцу бялку), пятрушку, кроп. У канцы можна дадаць вараныя яйкі ці панір. Запраўляць смятанай.

**Зміцер Янкоў з Чырвонага Кастрычніка**

### Крапіўны квас

У трохлітровы слоік засыпаць сталовую лыжку цукру. На дно выкласці слой маладога лісця крапівы таўшчынёю 5 см. Паставіць у прахалоднае месца на пару-тройку дзён. Калі стане мутны, як кісель, працадзіць. І можна піць.

### Смажаны хвошч

Збіраць хвошч трэба маладым, калі ён толькі пусціў свае атожылкі-песцікі, тады не будзе гарчыць. Аблупіць хвошч ад чорнага шалупіння і галовак-порхавак. Справа даволі марудная, але вартая таго. Затым смажыць на алеі, пасаліць па смаку. Атрымліваецца афігенна.



**Алеся Каржова, Малое Запруддзе**

### Канапкі з тушанай лебядой

Назбіраць шмат маладой лебяды. Тушыць разам з цыбуляй і морквай. У канцы дадаць крыху адыгейскага сыру кавалкамі і таматны соус. Намазваць на хлеб. Мусіць атрымацца хіт сезону.

### Салат са сніткай

Вясною снітка з'яўляецца адной з першых, таму, каб узбагаціць свой рацыён вітамінамі, можна дадаваць яе ў любыя стравы — супы, смажаніну, салаты. Салат можна прыгатаваць, напрыклад, такі. Назбіраць маладой сніткі, парэзаць, дадаць нашынкаванай капусты, памідораў і часнаку. Пасаліць па смаку. Есці запраўленым алеем ці смятанай.

**Аўгіня Манцэвіч, Лохаўшчына**

### Салат з дзьмухаўцоў

Самыя першыя лісты дзьмухаўцоў можна ўжываць без адмысловай апрацоўкі — яны не гарчаць. Проста прамыць, парэзаць, дадаць пер'е цыбулі, кроп, пятрушку. Па жаданні можна дадаць варанае яйка. Пасаліць. Калі збіраць дзьмухаўцы не ў самую ранюю вясну, іх трэба на 15–20 хвілін замачыць у халоднай падсоленай вадзе ад горычы. Затым салат гатуецца таксама. Запраўляць можна алеем ці смятанай. Такі салат, дарэчы, папулярны ў Францыі. Там яго запраўляюць толькі алеем.

### Суп са шчаўя

Суп са шчаўя можна прыгатаваць як халодным, так і гарачым. Каб прыгатаваць халаднік, трэба закіпяціць ваду, дадаць шчаўя, паварыць 3–5 хвілінаў, дадаць пер'е цыбулі, парэзанае варанае яйка. Пасаліць па смаку. Падаваць са смятанай.

Гарачы варыянт шчаўя гатуецца на булёне з бульбай і цыбулінай. Затым у булён дадаць шчаўе, парэзанае варанае яйка, кроп, пятрушку. Да гарачага супу таксама пасуе смятана.

**Юля Лісіца, Лоск**

### Блінцы з канюшынай

Любыя дзікаросы дзеля бяспекі лепш абдаваць кіпнем, каб знішчыць усе хваробы, якія пераносяцца з мачой дзікіх жывёлаў. Суквецці белай і ружовай канюшыны варта збіраць маладымі, не сапсаванымі насякомымі. Трэба каля 100–150 суквеццяў. Заліць іх гарачай вадой і даць настаяцца 3 хвіліны. Для цеста спатрэбіцца: 5 ст.л. пшанічнай мукі, 2 ст.л. жытняй мукі, 1 ст.л. спецый ды гародніны, напрыклад, асфетыда, парашок гарчыцы, чорны перац ды хмелі-сунэлі, крыху солі. Усё гэта змяшаць, дадаць лыжку алею, 150–200 мл халоднай вады. Перамяшаць да густой кансістэнцыі і пакінуць у прахалодным месцы на 5–10 хвілінаў. Затым зліць ваду з канюшыны, дадаць у цеста, асцярожна перамяшаць, каб захаваць цэлыя кветкі. Сфармаваць блінцы і смажыць на маленькім агні 5–7 хвілінаў з кожнага боку. У канцы можна ўпрыгожыць папярэдне вымачанымі грэцкімі арэхамі.

Увогуле, спалучэнні дзікіх траваў са звыклымі для нас прадуктамі часта даюць неспадзявана круты вынік. Так што можна эксперыментаваць з любымі падлівамі і стравамі.

**Таццяна Сіняўская, Падбярэззе**

### Смузі з крапівы і аксамітак

Для смузі спатрэбіцца крапіва, яблык, лімон. Усё перамяшаць у блэндары. Для аздаблення дадаць аксаміткі і мяту. Мусіць атрымацца пюрэ. Але калі дадаць вады — будзе як express кактэйль.

### Гарбузовыя суквецці ў цесце з лофантам

Лофант і гарбузовыя суквецці, калі яны яшчэ ў бутонах, трэба нарыхтоўваць у час сухога надвор'я. Затым прамыць і прасушыць. Для цеста спатрэбяцца 100 г мукі, адно яйка, сподачак мёду, жменька кунжутнага насення. Гатаванне кляра: яйка ўзбіць з мукой, дадаўшы 50–100 г вады, можна трохі пасаліць. Пакласці суквецці ў кляр, даць некалькі хвілін для насычэння. Выкласці на гарачую патэльню і абсмажыць літаральна некалькі хвілін. Абсыпаць кунжутам ды дробненькімі лофантавымі пялёсткамі. Дадаць мёду колькі каму даспадобы.

**!** У зборы дзікаросаў важна прытрымлівацца тых жа правілаў, што і пры зборы грыбоў: не ўпэўнены — не бяры. І хоць у нашых шыротах у ежу можна ўжываць амаль любую расліну, ёсць і вельмі небяспечныя экзэмпляры. Напрыклад, асабліва ўважліва трэба ставіцца да парасонавых — снітку лёгка пераблытаць з атрутнай цыкутай, кантакт з якой амаль стапрацэнтна прыводзіць да смерці. У Беларусі, на жаль, здараліся такія выпадкі. Лепш за ўсё збіраць дзікаросы на вядомых вам палянках, дзе вы ў іх упэўненыя. Акрамя таго, важна памятаць, што амаль у любой расліны ёсць супрацьпаказанні. Так што неабходна праверыць іх перад ужываннем.

Карыстайцеся дарамі прыроды з розумам. І смачна есці!

Снітка

# Невядомая спадчына: дом Іваноўскіх у Галавічполі

Пра дом пабудаваны па праекце архітэктара Лявона Вітан-Дубейкаўскага піша **Леанід Лаўрэш** з Ліды.



Фотаздымак А. Кольшка

Усе мясцовыя людзі называюць гэту цудоўную пабудову «домам Вадэйкаў». Аднак насамрэч дом пабудаваў старэйшы брат Вацлава Іваноўскага — Ежы.

Менавіта ён у 1930 г. атрымаў у спадчыну палову Галавічполя, а Вадэйкам у той час належала другая палова. Пасля 1930 года менавіта Ежы Іваноўскі на месцы згарэлага строга драўлянага пабудаваў гэты прыгожы дом.

А спраектаваў яго, аказваецца, наш знакаміты беларускі архітэктар Лявон Вітан-Дубейкаўскі.

Адначасова з пабудовай дома Ежы Іваноўскі пасадзіў новы сад на 10 га. Імаверна, з тых часоў недалёка ад дома захавалася і афіцына.

Вядома, што пры канцы 1920-х Дубейкаўскі нейкі час выкладаў у Лідзе, а потым, у першай палове 1930-х, ён настаўнічаў і працаваў ў Беларускім інстытуце гаспадаркі і культуры, аднаўляў кляштар у Друі, будаваў кляштар пад Варшаваю і мікрараён на Антокалі ў Вільні. У другой палове 1930-х гадоў з-за цяжкай хваробы архітэктар практычна не працаваў. Пра ягонае аўтарства дома ў Галавічполе, здаецца, мастацтвазнаўцы яшчэ не ведаюць.

Ежы Іваноўскі падчас Другой сусветнай вайны служыў у польскім войску на Захадзе і застаўся жыць у Англіі. У савецкія часы дом, спраектаваны архітэктарам Вітан-Дубейкаўскім, стаў школьным інтэрнатам, а сёння належыць парафіі касцёла ў Старых Васілішках. Дарэчы, Іваноўскія былі аднымі з фундатараў будаўніцтва гэтага прыгожага касцёла ў стылі неаготыкі.

Інфармацыю пра аўтарства Вітан-Дубейкаўскага можна праўдзіць у 6-м томе энцыклапедыі «Землеўласнікі Польшчы XX ст.» (Ziemianie polscy XX wieku. Słownik biograficzny, część 6. Warszawa 2002. S. 58—59), адкуль і я даведаўся пра сапраўдную гісторыю дома, які зацікавіў мяне шмат гадоў таму.

Магчыма, раней я памыляўся з вызначэннем стылю галавічпольскага дома. Можа, гэта ўсё ж не «закапанскі», а «беларускі» архітэктурны стыль, але вызначаць гэта трэба адмыслоўцам, да якіх я, вядома ж, не належу. У любым выпадку, турыстычная прывабнасць мястэчка пасля вызначэння аўтарства Вітан-Дубейкаўскага павінна павялічыцца, тым больш што Лябёдка Іваноўскіх зусім блізка.

І трэба узяць гэты дом пад дзяржаўную ахову як помнік архітэктуры.

кіно

# Прэм’ера новага сезона «Расповеду служанкі» на падыходзе. Расказваем, чаму варта паглядзець гэты серыял



25 красавіка адбылася сусветная прэм’ера «Расповеду служанкі». Абяцаюць, што неўзабаве стужка з’явіцца і ў інтэрнэце.

Амерыканская антыўтопія, створаная па аднайменным рамане канадскай пісьменніцы Маргарэт Этвуд, паказвае, як лёгка прагрэс можа быць скіраваны назад і як кожны з нас можа аказацца рабом, за якія б правы і погляды не змагаўся.

**Дзеянне: таталітарная дзяржава Рэспубліка Гілеяд**

Гілеяд утвараецца на тэрыторыі сучасных ЗША пасля таго, як да ўлады пасля перавароту прыходзіць таталітарная тэакратыя. На землях пачынае панаваць царкоўная патрыярхальная дыктатура, стваральнікі якой прытрымліваюцца сваёй трактоўкі Пісання ў старазапаветным ключы.

У Рэспубліцы ёсць свой сацыяльны ўклад, згодна з якім грамадства дзеліцца на некалькі катэгорый: гаспадары і слугі, якія на іх працуюць. Пры гэтым калі мужчыны, хай і не па сваім выбары, але ўсё адно маюць нейкія прафесіі кшталту ахоўніка ці кіроўцы, то абавязкі жанчын завязаныя выключна вакол адной місіі — нараджэнне нашчадкаў для Рэспублікі.

Справа ў тым, што па сюжэце апошнім штуршком да перавароту стала масавая бясплоднасць жанчын. Вынасіць і нарадзіць дзіця атрымліваецца толькі ў адной з сотні. На хвалі перажыванняў за будучыню краіны рэлігійныя фанатыкі абвінавачваюць у гэтым тых, хто вядзе «грэшнае», на іх погляд, жыццё: геяў, лесбіянак, жанчын, якія вадзяць сябе «распусна». Большасць гэтых грэшнікаў забіваюць адразу. Фертыльных жанчын, хай і лесбіянак, забіраюць на службу ў бясплодных сем’і, набліжаныя да ўлады, нараджаць дзяцей.

Усе навокал упэўніваюць служанак у тым, што іх роля ў Гілеядзе — ганаровая і зайздросная. Але па-чалавечы да іх ставяцца толькі тады, калі яны цяжарныя. Увогуле ж служанкі не маюць права выходзіць з дома (толькі на чарговы паказальны абрад пакарання ўсіх, хто правініўся, ды ў краму, і тое па раскладзе), яны абавязаныя насіць бясформенную робу цёмна-чырвонага колеру і весці сябе цішэй вады. У іх нават няма ўласных імён.

Галоўная гераіня Джун (Элізабет Мос) да жыцця ў Рэспубліцы мела мужа, дачку, сяброў, цікавую працу. У жыцці пасля перавароту яе завуць *Of Fred*. То бок тая, хто належыць Фрэду — Камандору, які абраў яе з жонкай для зачацця. Пры гэтым сам інтымны працэс прыніжальны: служанка кладзецца на ложак, каля яе галавы ўсаджваецца жонка Камандора. Мужчына мые рукі, здымае нагавіцы і прыступае да палавога акту са служанкай. Пры гэтым ён павінен глядзець у вочы сваёй сапраўднай жонцы.

Дарэчы, нягледзячы на тое, што жонкі Камандораў вядуць больш свабоднае жыццё, яны ўсё роўна не маюць права на тую ж працу, напрыклад. Іх абавязкі абмяжоўваюцца першапачатковым патрыярхальным прызначэннем жанчыны — ствараць утульнасць і быць маці.

І іронія ў тым, што такія правілы яны пісалі для сябе самі, разам з мужчынамі. Бо былі ўпэўненыя, што праз вяртанне да традыцыйнасці зробяць гэты свет больш шчаслівым. Але хоць у фільме жонкі ніколі не кажуць адкрыта пра свае пачуцці, па іх тварах, рэакцыях і эмоцыях бачна, як яны самі не радыя таму, у чым цяпер бяруць удзел. Як і не радыя маўкліва выконваць хатнія абавязкі, пакуль мужчыны займаюцца палітыкай.

**Галоўная гераіня як сімвал барацьбы за чалавечую незалежнасць**

Нягледзячы на тое, што многія назвалі серыял феміністычным — і ён сапраўды створаны жанчынамі пра жанчын, — усё ж ён пра агульначалавечыя праблемы.

Галоўная гераіня Офрэд магла б абрацць пакорлівае існаванне і службу на карысць створанай дзяржаўнай сістэме. Але яна не збіраецца мірыцца з новымі формамі рабства. Ёй недастаткова проста сядзець у каморцы, хадзіць па прадукты і быць «пастаўшчыцай» новых немаўлят. Не звар’яцець ёй якраз дапамагае думка пра магчымыя перамены, у якіх яна гатовая браць удзел пры першай жа магчымасці. Не зважаючы, што кожны тыдзень у Рэспубліцы кагосьці дэманстратыўна вешаюць, турмы перапоўненыя, а многія служанкі, якія яшчэ не страцілі розум, на мяжы суіцыду.

Гэты фільм пра свабоду ўнутры нас і звонку і пра тое, як лёгка яе могуць забраць, нават калі ты жыў годна.

**Чаго чакаць ад другога сезона?**

Цікава, што, калі кніжка Маргарэт Этвуд была ўпершыню апублікавана ў 1985 годзе, яе палічылі радыкальным феміністычным выказваннем, якое зусім не адпавядае рэальнасці і не мае каштоўнасці. Менавіта таму, відаць, першая экранізацыя па гэтай кнізе ў 1990 годзе амаль ні ў кага не адклалася ў памяці.

Калі год таму з’явіўся новы фільм, яго суправаджалі міні-скандалы: стужку звязвалі з рэакцыяй на абранне прэзідэнта Трампа. Канечне, новы прэзідэнт Амерыкі і яго дзеянні наўрад ці падобныя да раманнай ваеннай хунты з іх суперкансерватызмам. Аднак фільм усё адно аказаўся вельмі трапным: ён выдатна дэманструе, што ні кансерватызм, ні леварадыкалізм, ні, само сабой, дыктатура не прыводзяць ні да чаго добрага.

Другі сезон зняты ўжо не па рамане пісьменніцы. Гледачоў пазнаёмяць з гісторыяй Рэспублікі Гілеяд, раскажуць, як і чаму яна ўтварылася. Творчая каманда абяцае, што гэтая частка будзе яшчэ больш змрочнай. З іншага боку, у гэтым абвінавачвалі і першы сезон.

Аднак сама пісьменніца Маргарэт Этвуд сцвярджае, што ў яе кнізе няма ніводнай зверскай практыкі гвалту з жанчын, якая б раней не выкарыстоўвалася людзьмі. І лепш нагадаць сабе, да чаго можа скаціцца свет, калі мы аддамо яго ў рукі фанатыкам любога кшталту. Менавіта таму прагляд гэтага серыяла каштоўны, пра шматлікія ўзнагароды і добрыя водгукі кінакрытыкаў згадваць тут не будзем.

**Мая Лінь**

**Аляксандр Апон.** Камедыя.

# Дармаеды

**Дзейныя асобы:**
Бубель Аляксей Барысавіч — дэпутат
Раіса Пятроўна — яго жонка
Кніга Данута Андрэеўна — ідэалагічная работніца
Фаіна Рыгораўна — загадчыца бюро па працаўладкаванні
Ягор Іванавіч — пракурор
Сяргей Сяргеевіч — суддзя
Жлукта — дырэктар водаканала
Рымша — лядачы запалоханы дзядзька
Жамойда — шматдзетная маці-адзіночка
Бярнацкі — яшчэ бадзёры стары
Мікалай — кіроўца
Верачка — бээрэсэмаўка
Голас Сілівончыка
Голас Куцько

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

*Кватэра Бубеля. Гасцёўня. Адныя дзверы ў сталовую, другія — у спальню, трэція — у прыбіральні і лазенку.*

**Бубель** *(са спальні)*: Рая! Рая! *(Цішыня.)* Ра-ая!
**Раіса Пятроўна** *(са сталовай)*: Чаго табе?
**Бубель** *(са спальні)*: Вады.
**Раіса Пятроўна** *(са сталовай)*: Што?
**Бубель** *(са спальні)*: Вады, кажу, прынясі.
**Раіса Пятроўна** *(са сталовай)*: Я табе не служанка.
**Бубель** *(са спальні)*: Ну калі ласка!
**Раіса Пятроўна:** А не пайшоў бы ты, Бубель.
**Бубель** *(са спальні)*: Нядобрая.

*Раіса Пятроўна выходзіць са сталовай. Яна ў выхадной сукенцы і туфлях на высокіх абцасах. На часопісным століку, які стаіць каля канапы, ляжыць яе сумачка. Дастаўшы з сумачкі пачак цыгарэт і запальнічку, яна сядае на канапу.*

**Раіса Пятроўна:** А ты маеш рацыю: каб не баялася, што прыйдзецца адказваць, прыдушыла б, як гадзіну! *(Закурвае.)*
**Бубель** *(са спальні)*: Ага, вось нават як ты да мяне ставішся. Ну то ідзі, на, душы, чорт з табой.
**Раіса Пятроўна:** Чорт не са мной, а з табой. І хопіць бакі адлежваць, уставай давай.
**Бубель** *(са спальні)*: А якая гадзіна?
**Раіса Пятроўна:** Дзявятая.
**Бубель:** Як дзявятая? Мне а дзясятай у выканкам на камісію.
**Раіса Пятроўна:** Аксціся, Бубель, якая камісія, сёння нядзеля.
**Бубель** *(са спальні)*: І што, што нядзеля? Для нас нядзеляў няма, мы без нядзеляў пашам, як гэтыя.... як іх?
**Раіса Пятроўна:** Ну-ну, як хто?
**Бубель:** Рабы на галерах — вось хто. Дармаедаў будзем вычышчаць. А дзе мой гадзіннік?
**Раіса Пятроўна:** Чаму ты ў мяне пытаешся? Дзе паклаў, там і вазьмі.
**Бубель** *(са спальні)*: Дзе паклаў, дзе паклаў! Во, на тумбачку, памятаю, клаў, як раздзяваўся.
**Раіса Пятроўна:** Вой, ён яшчэ нешта памятае! Не смяшы. Ты ж у зюзю быў п'яны.

*Захінаючыся ў халат, са спальні выходзіць Бубель.*

**Бубель** *(спыніўшыся пасярод гасцёўні і паклаўшы далонь на патыліцу)*: Ну-у, бляха, галава! А ў роце! Рая, га, Рая! Як жа я буду дармаедаў вычышчаць такі хворы?
**Раіса Пятроўна:** Нічога, цябе там спярша падлечаць.
**Бубель:** Што ты, з глузду з'ехала? Гэта ж табе не нешта-нейкае — сышліся тыпу балабоны лясы ад няма чаго патачыць, а мерапрыемства лёсавызначальнага значэння, дзеля паступальнага руху нашага грамадства наперад, да светлых, гэтак кажучы, далячынь, якія, дарэчы, ужо не за гарамі і *(трасе пальцам)*....
**Раіса Пятроўна:** Супакойся, ты не на сходзе.
**Бубель:** Выбачай, захапіўся.
**Раіса Пятроўна:** Нічога. Дарэчы, а хто там з табой у камісіі: нябось пракурор з суддзёй?
**Бубель:** Так, і яны.
**Раіса Пятроўна:** Яшчэ б, каб без іх нешта абышлося. Вы ж горшыя за кляшчоў, пакуль учора ўсё, да астатку, не высмакталі, не супакоіліся.
**Бубель** *(зазірае ў бар)*: Ё-маё, а дзе армянскі каньяк, той, што мне ў Ерэване прэзентавалі як дэпутату сумеснага пасяджэння СНД?
**Раіса Пятроўна:** Там, дзе і грузінскі, што ты з Тбілісі прывёз.
**Бубель:** Чакай, чакай, а віскі куды падзеліся? Няўжо мы і літровую бутэльку віскі пакацілі? *(Хапаецца абедзвюма рукамі за галаву.)* А-я-яй! Не, кідаць трэба гэтыя п'янкі. Слухай, а ў нас піва ў лядоўні выпадкам няма?
**Раіса Пятроўна:** Няма.
**Бубель:** А пакецік алькаэльцару дзе-небудзь не валяўся?
**Раіса Пятроўна:** Не ведаю, мне на вочы не трапляў.
**Бубель:** Дык мо пузджак глогу знойдзецца?
**Раіса Пятроўна:** Не.
**Бубель:** Няўжо мы і глог учора высмакталі? *(Выходзіць у сталовую.)*
**Раіса Пятроўна** *(напаўголаса)*: Каб не так, глог я піла.

*Са сталовай выходзіць Бубель са шклянкай у руцэ, з якой адпівае маленькімі глыткамі ваду і крывіцца, быццам гэта адвар палыну.*

**Бубель:** А ты куды сабралася?
**Раіса Пятроўна:** У басейн.
**Бубель:** Вось у гэтай сукенцы і шпільках?
**Раіса Пятроўна:** Я там раздзенуся.
**Бубель:** Зусім?
**Раіса Пятроўна:** Зусім, голая буду плаваць.
**Бубель:** А, ведаю я, з кім ты плаваць палезеш — з дырэктарам рынку.
**Раіса Пятроўна:** Калі і з ім, табе што за справа?
**Бубель:** Я твой муж, у рэшце рэшт, і не дазволю... *(Грукае шклянкай аб столік.)*
**Раіса Пятроўна:** Бубель, не ганяй пыл.
**Бубель:** Я сказаў! *(Тупае нагой.)*
**Раіса Пятроўна:** Што? Я табе тупну, тупальшчык тут мне знайшоўся. Ты мне спачатку пра каханку сваю раскажы, а потым тупай.
**Бубель:** Пра якую каханку?
**Раіса Пятроўна:** Кнігу. Ці будзеш казаць, ты да яе ездзіш, каб, зачыніўшыся ў кабінеце, справаздачы па ідэйна-выхаваўчай рабоце пісаць? *(Падымаецца, забірае сумачку і выходзіць за кулісу налева.)*

*Недзе за кулісай ляпаюць дзверы. Бубель, схапіўшы абедзвюма рукамі, зрывае са сцяны рогі і з размаху лупіць імі аб падлогу.*

**Бубель:** Сука! Сука! Сука! *(Лупіць, лупіць, лупіць.)*

*Чуваць цілінькание тэлефона. Бубель слупянее, каб вызначыць яго месцазнаходжанне, і, адкінуўшы рогі ўбок, кладзецца на жывот, засоўвае пад канапу руку, адкуль, пашнырыўшы, дастае тэлефон.*

**Бубель:** Фу, бляха-муха! *(Сядае на канапу і прыкладае тэлефон да вуха.)* Галё! Ты, Мікалай?.. Едзеш ужо. Слухай сюды... Заскоч у магазін і вазьмі... Не, не, слухай сюды: вазьмі цыбік каньяку. Так, цыбік. І адразу да мяне. Ага, на адным коле давай дуй. Усё.

*Бубель кладзе тэлефон на столік і бяжыць у прыбіральню і лазенку, адкуль спачатку чуваць віраванне вады ва ўнітазе, потым шум крана, і ўсё гэта ўперамешку з пагрозлівым мармытаннем: «Бачылі яе. Каханка завяла. Я табе пакажу каханка! Не-е, гэтага не дарую. Пабачыш, на што я здольны». Праз якую хвіліну, выскачыўшы ў гасцёўню, Бубель знікае ў спальні, пры гэтым мармытанне з пагрозамі не заканчваецца: «Ды няхай яшчэ каб ціха, міжсобку, а то выйдзе вонкі. Дык што? З мяне, з дэпутата, смяяцца будуць, пальцам паказваць?» Чуваць дзвярны званок.*
*Бубель выходзіць са спальні, на хаду апранаючы пінжак, і знікае за левай кулісай.*

**Бубель** *(за кулісай)*: Мікалай!
**Мікалай** *(за кулісай)*: Добрай раніцы, Аляксей Барысавіч.
**Бубель** *(за кулісай)*: Якая яна там добрая. Але ўсё роўна, заходзь.

*Уваходзяць Бубель і Мікалай.*

**Бубель:** Прынёс?
**Мікалай:** А як жа! *(Дастае з кішэні пляшачку.)*
**Бубель:** Ну дык давай, давай хутчэй! *(Вырывае з рук Мікалая пляшачку і, скруціўшы корак, п'е, задраўшы галаву, як бусел, глытаючы жабу, пасля чаго адразу ж пачынае ікаць.)* Ік... ік... ік...
**Мікалай:** Цукерку? *(Падае цукерку.)*
**Бубель:** А, хай ужо...ік... і яе. *(Зрывае абгортку і кладзе цукерку ў рот.)* Усё, паляцелі ў выканкам.
**Мікалай:** Дармаедам дыхту давацьмем?
**Бубель:** Ага, з пясочкам раздзяўбаеў прадзярэм!

*Мікалай і Бубель выходзяць.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

*Памяшканне ў выканкаме. Злева, каля ўваходных дзвярэй, крэсла. Справа — доўгі стол, які заварочваецца літарай «Г» углыб сцэны, і далей акно з кактусам у гаршку на падаконніку. У куце за сталом сейф і чырвона-зялёны сцяг. На сцяне партрэт прэзідэнта.*

*Кніга, пракурор, начальнік водаканала Жлукта, загадчыца бюро, Верачка і суддзя. Апошні спіць седзячы, апусціўшы на грудзі галаву.*

**Кніга:** А можа, ён захварэў?
**Пракурор:** Не, я толькі што званіў — едзе.
**Загадчыца бюро:** Ну колькі можна ехаць, ён праз Маскву едзе, ці кудой? А мне яшчэ ў бюро — вакансіі на наступны тыдзень пісаць.
**Жлукта:** Э, што вакансіі? Вакансіі — гэта *(варушыць у паветры пальцамі)* каштоўнасць, як грыцца, не матэрыяльная. А ў мяне, напрыклад, трубы проста на вуліцы ляжаць; учора не паспелі ўкласці, а сёння нядзеля, нейкае там свята, Грыгорыя-пустынніка ці чорт іх там папоў што за яно разбярэш, дык рабочыя наадрэз адмовіліся выходзіць.
**Пракурор:** Нічога, паляжаць твае трубы, есці, нябось, не просяць.
**Жлукта:** Ха, паляжаць! А калі нехта вока на іх пакладзе? Ты ж, Ягор Іванавіч, першы мяне да сябе на допыт пацягнеш.
**Пракурор:** Вядома, пацягну, такая работа.
**Кніга:** Што ж, калі не з'явіцца праз дзве хвіліны *(глядзіць на гадзіннік на руцэ)*, будзем пачынаць без яго.

*Уваходзіць Бубель.*

**Пракурор:** А вось і ён!
**Загадчыца бюро:** Нарэшце!

*Усе вітаюцца з Бубелем, затым пракурор адводзіць яго ўбок.*

**Пракурор:** Як ты?
**Бубель** *(скрывіўшыся)*: Не надта. А ты?
**Пракурор:** Таксама магло б быць лепш. І ведаеш што табе скажу: каб не бутэлька віскі, дык так яно, напэўна, і было б, а так...
**Бубель:** Ну, з віскі гэта мы дарма, гэта, бадай, перабралі. Але што цяпер шкадаваць: што зроблена, тое зроблена, назад не вернеш.
**Пракурор:** Гэта праўда, трэба змірыцца і жыць неяк далей.
**Бубель:** І я такой думкі. Слухай, Ягор Іванавіч *(далей гаворыць прыцішыўшы голас)*, а дзе мая была, як мы да мяне пасля рэстарана ўбіліся, не ведаеш?
**Пракурор** *(таксама напаўголаса)*: Ты пра каго: пра гэту *(ківае галавой на Кнігу)* ці жонку?
**Бубель:** Пра жонку — што мне да гэтай.
**Пракурор:** Ды спачатку як быццам з намі сядзела, каву піла, а куды потым падзелася *(разводзіць у бакі рукі)* — далібог не ведаю.
**Кніга** *(пастукаўшы асадкай па стальніцы)*: Усё, будзем пачынаць. Аляксей Барысавіч, Ягор Іванавіч, займіце свае месцы. А вы, Фаіна Рыгораўна, штурхніце, калі ласка, суседа, хай ужо прачынаецца.
**Загадчыца бюро** *(штурхнуўшы суддзю)*: Сяргей Сяргеевіч!
**Суддзя** *(схамянуўшыся)*: Га? Што? *(Варочае галавой.)*
**Загадчыца бюро:** Пачынаем.
**Суддзя:** Ужо! *(Заплюшчвае вочы і, апусціўшы на грудзі галаву, спіць далей.)*
**Кніга** *(паказвае на мігах загадчыцы бюро, каб не чапала судзю)*: Такім чынам, сёння ў нас на парадку дня разгляд пяці дармаедскіх — калі называць рэчы сваімі імёнамі, і мы далей, адкінуўшы беспадстаўную сціпласць, так іх і будзем называць, — спраў. А менавіта *(глядзіць у аркуш, які ляжыць перад ёю на стале)*: нейкага Рымшы, шэсцьдзясят пятага года нараджэння, барачага, Жамойды *(падымае са значэннем угару палец)* — маці трох непаўналетніх дзяцей, Бярнацкага Франака, год як з арміі, Сілівончыка, гэты на рэчавым рынку чымсьці там гандляваў, і, нарэшце, нейкай Куцько.
**Пракурор:** Як? Куцько? Чакайце, чакайце, дайце ўспомніць. Нейкая Куцько ў нас па справе аб сутэнёрстве праходзіла ў якасці... Зрэшты, няважна.
**Кніга:** Маючы трыццаць год зроду, нідзе ні дня не працавала.
**Загадчыца бюро:** А-я-яй!
**Бубуль:** Ну чаму не працавала? Гэта вы, Данута Андрэеўна, паклёп на чалавека ўзводзіце. Яшчэ як працавала!
**Пракурор:** Ха-ха-ха... Сапраўды: па пяць-шэсць кліентаў за вечар. Далібог праўда, у матэрыялах справы было.
**Кніга:** Дык з каго пачнём?
**Пракурор:** А ўсё роўна, давайце па спісе. Хто там першы?
**Кніга** *(зазірнуўшы ў аркуш)*: Верачка, запрасі Рымшу.
**Верачка** *(прыадчыніўшы дзверы)*: Рымша ёсць? Заходзьце.

*Уваходзіць Рымша.*

**Кніга:** Рымша?
**Рымша:** Я.
**Кніга:** Сядайце. *(Рымша сядае.)* Расказвайце, Рымша.
**Рымша:** Што расказваць?
**Пракурор:** Як ты да такога жыцця дакаціўся, вось што.
**Рымша:** Да якога такога?
**Пракурор:** А вось да такога, што нідзе не працуеш.
**Рымша:** Дык жа *(разводзіць рукамі)* працы нямашака.
**Кніга:** Ну, гэта, мякка кажучы, няпраўда. Вось я ўчора прачытала ў газеце...
**Бубель** *(перапыняючы)*: Што, Данута Андрэеўна, газета? Якая газета? Прычым тут газета? І без аніякай газеты вядома, што гэта, калі казаць так, як ёсць насамрэч, — хлусня.
**Загадчыца бюро:** Правільна, хлусня, і яшчэ якая — проста правакацыя. Ды ў нашым бюро на сённяшні дзень 106 вакансій. Вось *(шамаціць паперамі)*, калі ласка: бібліятэкар, дызайнер інтэр'ера, загадчык сектара. Ну, далей тут дактары пайшлі: неўролаг, тэрапеўт... два.
**Пракурор:** Што два?
**Загадчыца бюро:** Тэрапеўты два.
**Пракурор:** Ясна.
**Загадчыца бюро:** Хірург і гэтак далей. Ну, а калі гэтага мала, дык вось *(шамаціць паперамі)*... зараз, дзе тута яно? А! Так: «Тэрмінова патрабуецца вэб-распрацоўшчык і перакладчык з кітай-

скай мовы». Га, што вы на гэта, Рымша, скажаце? Маўчыце? Няма чым крыць? Не, я не разумею, як можна гэтак нахабна, не па-людску, проста ў вочы хлусіць. Нямашака яму, бачыце, рукі да чаго прыкласці, гарапашнік нам тут знайшоўся. А яшчэ сталы чалавек, з выгляду рабочы. Усё, не магу! Я з раніцы да вечара ў бюро, як мурашка.

**Кніга:** Фаіна Рыгораўна, мы пра вашу працу ведаем.

**Загадчыца бюро:** Не, вы не ўсё ведаеце. Я і ноччу там. У мяне ўжо хворае сэрца. А ціск? Я ж на пігулках сяджу. Дзе мой валідол? *(Шукае па кішэнях валідол.)*

**Кніга:** Дайце ёй валідолу, у каго ёсць?

**Паліна:** Вось *(падае пушку загадчыцы бюро)*, вазьміце.

**Загадчыца бюро:** Дзякую *(дастае з пушкі пігулку і бярэ яе пад язык)*.

**Кніга:** Ну, як вам, Фаіна Рыгораўна, адпусціла?

**Загадчыца бюро:** А-а... *(Закаціла вочы.)*

**Кніга:** Ну нічога, даражэнькая, пасядзіце, пройдзе. А вы, Рымша, палюбуйцеся на сваю работу, вось да чаго вы чалавека давялі.

**Рымша:** Я?

**Бубель:** Бачыце, у яго яшчэ стае нахабнасці аспрэчваць відавочнае. А хто ж па-твойму, як не ты? Не, трэба прымаць меры, і я не пабаюся сказаць, ажно да крымінальнай адказнасці, бо, калі папусцімся, паслабім лейцы, не дамо рады падтрымліваць парадак. Ягор Іванавіч, якая мера пакарання ў нашым заканадаўстве прадугледжана за паклёп?

**Пракурор:** Розная. Калі за паклёп на шараговага грамадзяніна, дык амаль нічога — штраф да трыццаці базавых велічынь альбо адміністратыўны арышт на пятнаццаць сутак. А вось калі паклёп у адносінах да прадстаўніка ўлады, дык, наколькі я зараз магу прыпомніць...

**Суддзя** *(праз сон, не падымаючы галавы)***:** Артыкул 369, да трох гадоў турмы.

**Бубель:** Што ж, у такім выпадку *(пацірае далоні, быццам выйграў у латарэю)*... прапаноўваю...

**Пракурор:** Я гатоў падтрымаць!

**Суддзя** *(мармыча)***:** Злачынства прызнаецца здзейсненым з прамым намерам, калі асоба, якая яго здзейсніла, прызнавала грамадскую небяспечнасць свайго дзеяння альбо бяздзеяння, прадбачыла іх грамадска небяспечныя наступствы, не жадала, але свядома дапускала наступствы гэтых вынікаў альбо ставілася да іх абыякава.

**Кніга:** Сяргей Сяргеевіч, хвілінку, гэта вельмі цікава, што вы распавядаеце, але мо як-небудзь потым, калі будзе час, паслухаем. Фаіна Рыгораўна, штурхніце Сяргея Сяргеевіча.

**Загадчыца бюро:** Сяргей Сяргеевіч!

**Суддзя** *(схамянуўшыся)*: Га? Што?

**Загадчыца бюро:** Не, нічога.

**Суддзя:** Як нічога? Такога не можа быць, каб нічога. Ад васьмі да пятнаццаці гадоў з канфіскацыяй як рухомай, так і нерухомай маёмасці, а не нічога. *(Каротка пазяхае і, апусціўшы галаву, спіць далей.)*

**Кніга:** Ну *(разводзіць рукамі)*, самі бачыце. Аднак вернемся да нашых бараноў і, нягледзячы ні на што, хаця, можа, яны гэта і не заслугоўваюць, але ўжо хай, правім да іх літасць. А менавіта: дамо Рымшу яшчэ адзін, толькі ўжо апошні шанец выправіцца. Рымша, да таго як страціў працу, дзе і на якой пасадзе вы працавалі?

**Рымша:** У ПМКа цесляром.

**Кніга:** Што за ПМКа?

**Жлукта:** Перасоўная механізаваная калона.

**Рымша:** Трыццаць год на адным месцы. Вось, у працоўнай кніжцы *(дастае з кішэні працоўную кніжку)* — адныя падзякі.

**Бубель:** Што нам твае падзякі? Калі мяркуеш выехаць на колішніх заслугах, дык моцна памыляешся.

**Кніга:** Ну чаму, Алег Барысавіч, мы колішнія заслугі шануем.

**Рымша:** І ганаровая грамата ёсць. *(Дастае з-за пазухі грамату.)*

**Бубель:** Навошта ты гэтую кардонку выцягнуў. Ты лепш раскажы, чаму ты, трыццаць год прапрацаваўшы, кінуў родную калону, на што ты разлічваў?

**Рымша:** Звольнілі.

**Бубель:** Усё зразумела, ты парушыў працоўную дысцыпліну.

**Пракурор:** Мабыць, выпіў на працоўным месцы. Адказвай: з кім ужываў, што менавіта, у якой колькасці, чым закусваў?

**Кніга:** Ягор Іванавіч, спыніцеся, вы не ў пракуратуры на допыце. А вам, Рымша, скажу ў вочы: хопіць віхляць перад камісіяй. За што вас звольнілі?

**Рымша:** Дык не мяне аднаго, усіх.

**Кніга:** Як усіх? Вы там што, усе панапіваліся і вас накрылі?

**Жлукта:** Не, ніхто там нікога не накрываў. Развалілася гэта ПМКа. Ні падрадаў, ні грошай — нічога.

**Пракурор:** А колькі гэтае ПМКа працаўнікоў налічвала?

**Жлукта:** Не ведаю дакладна, але, мяркую, не шмат. Апошнім часам мо з паўсотні заставалася, у асноўным старыя кадры, пенсіянеры амаль спрэс.

**Загадчыца бюро** *(са страхам)***:** І што, усе праз нашую камісію пойдуць?

**Кніга:** Хто ў найбліжэйшы час не працаўладкуецца, дык бадай.

**Жлукта:** А куды ж яны працаўладкуюцца, калі гэтых самых месцаў працы днём з агнём не знойдзеш?

**Загадчыца бюро:** Як не знойдзеш? Я ж вам толькі што называла *(шамаціць паперамі)*. Вось: бібліятэкар...

**Жлукта:** А сталяроў там у вас нямашака?

**Загадчыца бюро:** Не, сталяроў не, але хай, у рэшце рэшт, перавучваюцца. У нас курсы розныя ёсць *(шамаціць паперамі)*. Так, дзе яно тута ў мяне... Ага, знайшла: «Цырульнікаў, тэрмін навучання — пяць месяцаў, дызайнераў ландшафту...»

**Бубель:** А курсаў па падрыхтоўцы тэрапеўтаў няма?

**Загадчыца бюро:** Не, такіх няма. Але калі на цвярозую галаву разабрацца, дык чаму і не ўвесці, бо скажыце шчыра: ну навошта шэсць гадоў вучыцца, каб потым сядзець і пігулкі выпісваць, калі хопіць і шасці месяцаў?

**Пракурор:** Так, так, гэта вельмі цікавая прапанова. Толькі, баюся, Рымшу гэта не датычыць. А вось у водаканале мог бы і прыдацца. Рымша, пойдзеш у водаканал?

**Рымша:** Пайду.

**Жлукта:** Не, як сабе хочаце, а я ўзяць нікога не магу, мой водаканал не гумавы.

**Бубель:** Ну-ну, не трэба гэтак катэгарычна. Па-першае, водаканал не твой, а дзяржаўны. А па-другое, дзеля мэтанакіраванага выкарыстання працоўных рэсурсаў і разам з тым аптымізацыі выдаткаў, да прыкладу, ямы пад трубы можна не экскаватарам, а лапатамі капаць.

**Жлукта:** Ды мы і так ямы ўручную капаем, на экскаватары саляркі няма.

**Пракурор:** А на аўтакран, нябось, ёсць.

**Жлукта:** Гэта іншая справа. Без аўтакрана трубу ў яму не пакладзеш, адна труба — дзесяць метраў.

**Бубель:** Гм, цікава. Ну а як сто гадоў таму трубы ў ямы клалі, калі яшчэ аўтакранаў не было?

**Жлукта:** Дык тады і труб не было.

**Бубель:** Як не было труб, а як жа людзі жылі?

**Кніга:** Жылі, і не горш, чым мы жылі. Не сядзелі па хатах перад тэлевізарамі, як пацукі па норах, а сустракаліся, музыцыравалі, песні спявалі. Памятаеце? *(Спявае.)*

Вось хтосьці з горачкі спусціўся,<br>Няйначай міленькі ідзе.<br>На ём у мядалях гімнасцёрка,<br>Яна з глуздоў мяне звядзе.

Ці во *(спявае)*.

Ну што табе сніцца, крэйсер «Аўрора»,<br>У час калі ранак устае над Нявой?

**Пракурор** *(пляскае ў далоні)***:** Чароўна, Данута Андрэеўна, чароўна!

**Кніга:** Дзякую, Ягор Іванавіч.

**Бубель:** А ў мяне заўвага.

**Пракурор:** Па рэпертуары альбо выкананні?

**Бубель:** Не, пра рэпертуар і выкананне нічога благога не скажу, а вось тое, каб нашыя людзі сустракаліся і песні спявалі, я катэгарычна супраць. Уявіце: спачатку песню заспяваюць, потым прыгледзяцца адзін да аднаго, слова за слова размаўляць пачнуць і ў рэшце рэшт думаць. А гэтага дапусціць мы ні ў якім разе не павінны. Хай лепш сядзяць перад тэлевізарамі. А мы ўжо ведаем, як і што падсунуць.

**Кніга:** Алег Барысавіч, прызнаю: дала пудла; сапраўды, не трэба клікаць ліха. Так, цяпер з Рымшам нешта вырашацьмем. Мо вартаўніком яго куды сунуць? Фаіна Рыгораўна, што ў нас накont вартаўнікоў, знойдзецца Рымшу месца?

**Загадчыца бюро:** Не, вартаўнікамі ў нас хлопцы пасля службы ў міліцыі сядзяць. Яны ж у сорак год ужо пенсіянеры, куды ім дзявацца. Дый, папраўдзе, вартаваць асабліва няма чаго — усё альбо само развалілася, альбо параскрадалі. Вой, выбачайце Ягор Іванавіч, нешта я не тое... загаварылася.

**Пракурор:** Нічога, я ў курсе.

**Кніга:** Фаіна Рыгораўна, разбудзіце суддзю, хай вынесе прысуд.

**Загадчыца бюро:** Сяргей Сяргеевіч!

**Суддзя** *(схамянуўшыся)***:** Га? Што?

**Кніга:** Вам слова.

**Суддзя:** Два гады працоўнага лагеру.

**Рымша:** Як два гады? За што?

**Пракурор:** Усё, Рымша, ідзі, прысуд канчатковы і абскарджванню не падлягае.

**Рымша:** Куды ісці?

**Пракурор:** Сухары сушы.

*Рымша, панурыўшы галаву, выходзіць.*

**Жлукта:** І я пайду. *(Устае.)*

**Кніга:** Куды?

**Жлукта:** Трубы ці ляжаць, праверу, каб не прыйшлося сухары сушыць. *(Выходзіць.)*

**Кніга** *(выглядвае ў акно)***:** Да бара шыбуе.

**Бубель:** Ну-у, жук!

**Кніга:** Добра. Крыху забавіліся — і годзе. Сядайма. Верачка, запрасі Жамойду.

**Верачка** *(прыадчыніўшы дзверы)***:** Жамойда, заходзьце.

*Уваходзіць Жамойда.*

**Кніга:** Вы Жамойда?

**Жамойда:** Я *(азіраецца і сядае на крэсла ля дзвярэй)*. Што вам ад мяне трэба?

**Кніга:** Нам? Ад вас?

**Жамойда:** Ну вядома, я ж вас да сябе не выклікала.

**Кніга:** А вы, даражэнькая мая....

**Жамойда:** Я вам не даражэнькая.

**Кніга:** Добра, хай так. Дык вось...

**Жамойда** *(перапыняючы)***:** Дык вось: я і хачу нарэшце даведацца, што вам ад мяне трэба? Навошта вы мне тузаеце? Чаго тэлефануеце?

**Пракурор:** А ты радуйся, што тэлефануем, а то можам і позву даслаць альбо, як спатрэбіцца, і пад'ехаць. І тады ўжо!

**Жамойда:** Што тады ўжо? Вы мне пагражаеце?

**Кніга:** Не, пакуль толькі папярэджваем як дармаедку.

**Жамойда:** Гэта я дармаедка?

**Кніга:** А хто ж яшчэ!

**Жамойда:** Маці траіх непаўналетніх дзяцей?

**Загадчыца бюро:** А вы нам сваімі дзецьмі ў нос не тыкайце, вас ніхто не прымушаў іх нараджаць.

**Жамойда:** Мяне і не трэба было прымушаць, я сама хацела іх нарадзіць. І хто вы такая, каб мяне за гэта папікаць?

**Загадчыца бюро:** Я загадчыца бюро па працаўладкаванні — вось хто такая.

**Жамойда:** А, ведаю, расказвалі пра гэтую шарашкіну кантору.

**Загадчыца бюро:** Чулі? Яна абразіла дзяржаўную ўстанову. Прашу неадкладна прыняць меры. Мы, як мурашкі, з раніцы да вечара...

**Кніга:** Фаіна Рыгораўна, супакойцеся, мы ведаем, як вы ўсе там стараецеся.

**Загадчыца бюро:** Начэй не спім.

**Кніга:** Так, так, не спіце.

**Загадчыца бюро:** Вой, сэрца. *(Хапаецца за сэрца.)* Валідол, дзе мой валідол?

**Кніга:** Верачка, дай Фаіне Рыгораўне валідолу. А вам, Жамойда, раю прыкусіць свой язычок; майце на ўвазе, усё, што вы тут гаворыце, запісваецца.

**Суддзя** *(раптам прачнуўшыся)***:** Што запісваецца? Навошта? Каб мне аніякіх запісаў! Я катэгарычна забараняю!

**Кніга:** Нічога, Сяргей Сяргеевіч, не запісваецца, гэта я так сказала.

**Пракурор:** Выключна з мэтай, каб запалохаць падследную.

**Суддзя:** Запалохаць? Калі толькі дзеля гэтага *(пазяхае)*.

**Пракурор:** Так, нічога асаблівага, звычайная справа.

**Суддзя:** Ну, гэта я, бадай, магу дазволіць *(апускае галаву на грудзі і спіць далей)*.

**Бубель:** А мяне цікавіць вось які факт: дзе ваш, Жамойда, чалавек падзеўся?

**Жамойда:** Памёр.

**Бубель:** Як памёр?

**Жамойда:** Звычайна, як людзі паміраюць — захварэў і памёр.

**Бубель:** А шкада, а то мы яго ў бараноў рог скруцілі б! *(Круціць перад сабой, быццам выціскае бялізну, рукамі.)*

**Жамойда:** Але за што?

**Пракурор:** Гэ, за што! Знайшлі б.

**Кніга:** Ягор Іванавіч, выбачайце, але гэта да нашай справы не адносіцца.

**Бубель:** Чаму, Данута Андрэеўна, не адносіцца? Мала таго, што гэты самы яе чалавек *(паказвае пальцам на Жамойду)* зрабіў траіх дзяцей, што само па сабе, можа, і не блага, дык ухіліўся ад адказнасці, калі захварэў і ў рэшце рэшт, як кажуць, перасяліўся ў іншы *(пераводзіць палец угору)*, лепшы, свет, па іхнім выхаванні і матэрыяльным забеспячэнні, пераклаўшы гэты клопат на нашыя плечы.

**Жамойда:** Ого, яно бачна, як вы клапоціцеся пра маіх дзяцей.

**Кніга:** А хіба не? Яны ж на дзяржаўную дапамогу жывуць.

**Жамойда:** А вы, значыцца, і ёсць тая самая дзяржава?

**Кніга:** Так, дзяржава — гэта мы! І з вамі, Жамойда, цырымоніцца не збіраемся. Паедзеце ў калгас «Зарэчны», на комплекс, свіней даглядаць.

**Жамойда:** Яшчэ чаго!

**Кніга:** Аўтобус адпраўляецца з вакзала *(глядзіць у нататнік)* а шостай раніцы.

**Жамойда:** Нізавошта не паеду.

**Кніга:** Вечарам прыбывае а сёмай.

**Жамойда:** Хай хоць апоўначы!

**Кніга:** А не паедзеце — скасуем дапамогу на дзяцей.

**Жамойда:** Якім чынам? Гэта ж дапамога на выпадак страты кармільца, яна мне па законе належыць.

**Кніга** *(з усмешкай)***:** Ай, даражэнькая, што той закон! Во *(ківае галавой на Бубеля)*, Алег Барысавіч які заўгодна закон напіша.

**Жамойда:** А канстытуцыя?

**Загадчыца бюро:** Хочаце верце, хочаце не, а я так і падумала: зараз на канстытуцыю пачне спасылацца.

**Пракурор:** Бо гэта іхняя любімая цацка: як што, дык адразу канстытуцыю з кішэні выцягваюць — і плясь ёю. Як быццам маці ім родная канстытуцыя, альбо бацька.

**Суддзя** *(падняўшы галаву)***:** Канстытуцыя — гэта святое! *(Пазяхае.)* А-ва-ва...

**Бубель:** Мы пра гэта, Сяргей Сяргеевіч, памятаем, але таксама не забываемся, што ў канстытуцыі першым параграфам стаіць.

**Суддзя:** А што там першым параграфам? Вой *(пазяхае)*... я забыўся.

**Бубель:** Пра абавязак кожнага грамадзяніна працаваць, а не лынды біць.

**Суддзя:** Гэта само сабой. Выбачайце, я тут прыкархнуў крышку. Б-р-р, нешта халадком па плячах пацягнула. Ды і ногі не зашкодзіла б размяць *(устае)*. Аб'яўляю перапынак.

**Кніга:** Не, Сяргей Сяргеевіч, вы, калі ласка, самі перапыняйцеся, а мы ўжо скончым, раз пачалі, а то заначуем тута. Вось, вас Верачка праводзіць. Верачка, заапякуйся Сяргеем Сяргеевічам.

**Верачка:** Хадземце, Сяргей Сяргеевіч.

*Суддзя і Верачка выходзяць.*

**Кніга:** І вы, Жамойда, ідзіце, мы з вамі скончылі.

**Жамойда:** Не, я нікуды не пайду.

**Кніга:** Як не пойдзеце?

**Жамойда:** Не пайду — і ўсё.

**Бубель:** Можа, яна хоча, каб яе нарад міліцыі вывеў?

**Жамойда:** Не, я толькі хачу, каб вы мяне выслухалі. Бо нешта вы не людзі?

**Загадчыца бюро:** Гэта як разумець, як знявагу?

**Жамойда:** Я не магу ездзіць у калгас, у мяне ж трое хлопчыкаў. Малодшы ў першы клас пайшоў, старэйшы ў сёмым. Хто іх дагледзіць? Хто раніцай разбудзіць, пакорміць, збярэ і выправіць у школу? А сустрэне вечарам хто?

**Загадчыца бюро:** Нічога, дадуць рады самі, не яны адныя такія.

Працяг на старонцы 22.

# Дармаеды

Працяг са старонкі 21.

**Бубель:** Затое вырастуць сапраўднымі мужыкамі.
**Жамойда:** Ды вы смеяцеся з мяне! *(Плача.)*
**Кніга:** Нічога такога. А вось вы, даражэнькая мая, калі мяркуеце сваімі слязамі нас расчуліць, дык моцна памыляецеся.
**Загадчыца бюро:** Яшчэ каб вы не паводзілі сябе ад пачатку задзірліва, дык мы б, магчыма, пайшлі вам насустрач, прапанавалі б што-нішто іншае.
**Пракурор:** Напрыклад, вэбдызайнеркай пайсці.
**Бубель:** Альбо перакладчыцай з кітайскай мовы.

*Пракурор і Бубуль смяюцца, а Кніга і загадчыца бюро, не хаваючыся, шчыра ад душы ўсміхаюцца — жарт удаўся на дзіва.*

**Жамойда** *(праз слёзы)*: Здзекуецеся, га? Здзекуецеся?! Ну давайце, давайце, зараз вы можаце, ваша сіла. Толькі яшчэ невядома, як яно далей павернецца, і каб вам не прыйшлося заплакаць.
**Загадчыца бюро:** Го! Яна ж нам пагражае!
**Кніга:** Што? Усё, прэч адсюль. Не то насамрэч міліцыянтаў выклічу. Атрымаеш па першае чысло.
**Пракурор:** Дзесяць сутак, сама меней.
**Кніга:** І не выратуе, што маціадзіночка.
**Пракурор:** Не, гэта ў нас не змякчаючая акалічнасць, а наадварот: яшчэ глядзі, каб дзяцей у інтэрнат не пазабіралі.

*Жамойда падхопліваецца і выбягае. У пакой зазірае Бярнацкі.*

**Кніга:** А вам што?
**Бярнацкі:** Я Бярнацкі.
**Кніга:** І што.
**Бярнацкі:** Дык выклікалі ж, панначка мая.
**Кніга:** Хіба вас? Мы хлопца выклікалі, год як з арміі.
**Бярнацкі:** Я яго дзед.
**Кніга:** А дзе ён сам? Чаму не з'явіўся? Калі хворы, пакладзіце даведку ад доктара.
**Бярнацкі:** Не, ён не хворы — яго няма. У Польшчы, на заробкі паехаў.
**Кніга:** А, вось што. Ну, у такім выпадку, калі вернецца, хай адразу ж, не марудзячы, да нас завітае.
**Бярнацкі:** Не, панначка мая, ён назаўсёды паехаў. Ужо і шлюб узяў там, і кватэру купіў.
**Бубель:** Во спрытнюга! А чаму вы прыйшлі, а не бацькі? У яго што, бацькоў няма?
**Бярнацкі:** А таксама ў Польшчы. І бацькі, і кумы, і швагры. Усе тама, усе.
**Пракурор:** Т-а-ак. Значыцца, радзіма іх гадавала, песціла, карміла, паіла, вучыла, нарэшце, а яны ў Польшчу паўцякалі.
**Бярнацкі:** А тут ужо, панок мой, нічога не парадзіш: рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе лепей.
**Загадчыца бюро:** Ды хіба ў Польшчы лепей? Адкуль вы гэта ўзялі? Ды там такая эксплуатацыя чалавека чалавекам, такая эксплуатацыя *(хапаецца за галаву)*... Жах!
**Кніга:** Дык кажаце, усе, акрамя вас, паўцякалі. Ну а вы засталіся.
**Бярнацкі:** Застаўся, панначка мая, бо куды ўжо мне тая Польшча? Восьмы дзясятак размяняў.
**Бубель:** Ого, вам столькі не дасі. Выглядаеце бы ўнук — хоць шлюб бяры. Можа, падзеліцеся сакрэтам?
**Бярнацкі:** Ды няма аніякага сакрэту: па-першае, не піць гарэлкі.
**Бубель:** Зусім?
**Бярнацкі:** Ні ў рот.
**Пракурор** *(скрывіўшыся)*: Не, не пойдзе.
**Бярнацкі:** Ну, не пойдзе дык не пойдзе. Іншага я не ведаю. То ўсё, шчасліва заставацца.
**Кніга:** Не, пачакайце. Прысядзьце. *(Бярнацкі сядае.)* Дык кажаце, усе вашыя з'ехалі, усе ў Польшчы. *(Бярнацкі ківае.)* Што ж, у такім выпадку прыйдзецца вам узяць удзел у фінансаванні дзяржаўных выдаткаў.
**Бярнацкі:** У якім, панначка мая, фінансаванні?
**Кніга:** А вось у якім: за святло будзеце плаціць па трайным тарыфе.
**Бярнацкі:** Як? Чаму? За што?
**Кніга:** Нічога не ведаем.
**Бубель:** А не падабаецца — на свечкі пераходзьце.
**Пракурор:** Альбо лучыны.
**Бубель:** Якія вам таксама не дарам абыдуцца.
**Пракурор:** Ха-ха-ха. Дасціпна, Алег Барысавіч.
**Кніга:** Так, цяпер газ. Газам, нябось, карыстаецеся?
**Бярнацкі:** Балоны купляю.
**Кніга:** І яны для вас падаражаюць. Як і вада.
**Бярнацкі:** Вада? Якая вада? У мяне калодзеж на падворку.
**Загадчыца бюро:** І што, думаеце, калі ў вас калодзеж, дык за ваду плаціць не трэба?
**Бярнацкі:** Не, бо калодзеж мой.
**Кніга:** Калодзеж, можа, і ваш, а вось вада — наша. Хаця... Алег Барысавіч, а мы падаткі за калодзежы бяром? Калі не, дык неабходна, не марудзячы ні дня, уводзіць.
**Бубуль:** Так, так. На найбліжэйшай сесіі ўнясу заканадаўчую ініцыятыву.
**Пракурор:** Цяміш, дзед, куды ідзе?
**Бярнацкі:** Цямлю.
**Пракурор:** І што менавіта цяміш?
**Бярнацкі:** А тое, што і мне ў Польшчу падавацца прыйдзецца, хаця мерыўся дома датрываць, каб на могілках каля жонкі на вечны спачын легчы. А не тут было! *(Выходзіць.)*
**Кніга:** Не, бачыце, які ўсё ж такі няўдзячны, подлы наш народ.
**Загадчыца бюро:** І не кажыце, Данута Андрэеўна. Мы дзеля яго, з раніцы да вечара, як мурашкі, і нават у святую нядзельку. А яны? Ні каліва падзякі.
**Пракурор:** Усё, хопіць. Данута Андрэеўна, давай, зварочвай гэтыя пасядзелкі.
**Кніга:** Як, Ягор Іванавіч, зварочваць, калі на нас яшчэ дзве справы вісяць — Сілівончыка і Куцько.
**Пракурор:** Што датычыць Сілівончыка, дык на яго конт прэзідэнт *(паказвае пальцам на партрэт)* даў нам ясныя і не двухсэнсоўныя ўказанні — усіх вашывых блох да ногця.
**Бубель:** Правільна, з дырэктарам рынка ўлічана.
**Пракурор:** Ну а Куцько з сабой забярэм і на месцы разглядзім.
**Кніга:** Куды з сабою?
**Пракурор:** Куды? Трэба падумаць.
**Бубель:** А што тут думаць? Да мяне паехалі. Праўда, у мяне ў бары быццам Мамай прайшоўся. *(Глядзіць на пракурора.)*
**Кніга:** Гэта не бяда. Тут днямі наш выканкамаўскі фонд падтрымкі мацярок-адзіночак папоўніўся. *(Устае і адчыняе сейф.)*
**Бубуль:** Як дарэчы.
**Кніга:** Фашысты крыху падкінулі. *(Засоўвае ў сейф руку.)*
**Пракурор:** Якія фашысты?
**Кніга:** Нямецкія *(пакорпаўшыся, выцягвае руку і зачыняе сейф)*.
**Пракурор:** Вось гэта малайцы, нічога не скажаш! Самі парупіліся?
**Кніга:** Каб не так! Прыйшлося нагадаць пра злачынствы дзядоў.
**Бубель:** Дык едзем.
**Загадчыца бюро:** А Сяргей Сяргеевіч?

*Уваходзіць Сяргей Сяргеевіч і Верачка.*

**Бубель:** Вось і Сяргей Сяргеевіч, лёгкі на ўспамін. Сяргей Сяргеевіч, зараз едзем да мяне.
**Сяргей Сяргеевіч:** Даўно трэба было рушыць, а то сядзім тут, як сычы.
**Верачка:** А я?
**Сяргей Сяргеевіч:** І ты, кветачка мая, а як жа.

*Усе выходзяць.*

**Голас Кнігі:** Так, Сілівончык, цяпер ідзіце, а прыйдзеце ў аўторак, ці не, лепш у сераду, апоўдні.
**Голас Сілівончыка:** Ну колькі можна хадзіць! Што ж гэта такое?
**Голас пракурора:** Колькі трэба, столькі і будзеш.
**Голас Куцько:** А я?
**Голас пракурора:** А ты, Куцько, з намі паедзеш.
**Голас Куцько:** Куды?
**Голас пракурора:** На пятнаццаць сутак адвязу здам.
**Голас Куцько:** За што, грамадзянін начальнік?
**Голас пракурора:** Хэ, за што? Сама ведаеш, нябось, не маленькая.
**Голас Куцько:** Дык я адраблю.
**Голас пракурора:** Гэта іншая справа. Хадзем.

*Чуваць крокі, невыразна галасы і смех, якія паступова аддаляюцца, пакуль не наступае цішыня.*

КАНЕЦ.

Індывідуальны прадпрымальнік
Самкова Аліна Сазонаўна
220088, Рэспубліка Беларусь
г. Мінск, вул. Антонаўская, 10, пам. 67.
тэл./ факс (017) 310-32-37
+37529 670-06-60, 8033 600-65-48
e-mail:alinas50@mail.ru

Индивидуальный предприниматель
Самкова Алина Сазоновна
220088, Республика Беларусь
г. Минск, ул. Антоновская, 10, пом.67,
тел. / факс (017) 310-32-37
+37529 670-06-60;+8033 600-65-48
e-mail:alinas50@mail.ru

«26» апреля 2018 г. № 1/1

**АУДИТОРСКОЕ ЗАКЛЮЧЕНИЕ**
**по бухгалтерской отчетности**

общества с ограниченной ответственностью «Страховой брокер «Центр страхования» за период с 01 января по 31 декабря 2017 г.

Директору общества с ограниченной ответственностью «Страховой брокер «Центр страхования» Бохану Денису Павлович

**АУДИТОРСКОЕ МНЕНИЕ**

Мы провели аудит годовой бухгалтерской отчетности Общества с ограниченной ответственностью «Страховой брокер центр страхования, Республика Беларусь, 220109, Республика Беларусь, г. Минск, ул. Павловского, дом 52, помещение 5.
Юридический адрес соответствует фактическому месторасположению.
Сведения о государственной регистрации:
Общество с ограниченной ответственностью «Страховой брокер «Центр страхования» зарегистрировано Министерством Финансов 13 июня 2014 года, регистрационный номер 13-2-25/218, в Едином государственном регистре юридических лиц и индивидуальных предпринимателей за № 806000551;
состоящей из бухгалтерского баланса по состоянию на 31 декабря 2017 года, отчета о прибылях и убытках, отчета об изменении собственного капитала, отчета о движении денежных средств за год, закончившийся на указанную дату, примечаний к бухгалтерской отчетности, предусмотренных законодательством Республики Беларусь.
По нашему мнению, за исключением влияния на бухгалтерскую отчетность обстоятельств, изложенных в разделе «Основания для выражения аудиторского мнения с оговоркой», прилагаемая бухгалтерская отчетность достоверно во всех существенных аспектах отражает финансовое положение Общества с ограниченной ответственностью «Страховой брокер «Центр страхования» по состоянию на 31 декабря 2017 года, финансовые результаты ее деятельности и изменение ее финансового положения, в том числе движение денежных средств за год, закончившийся на указанную дату, в соответствии с законодательством Республики Беларусь.

**ОСНОВАНИЕ ДЛЯ ВЫРАЖЕНИЯ АУДИТОРСКОГО МНЕНИЯ**

Мы провели аудит в соответствии с требованиями Закона Республики Беларусь от 12 июля 2013 года «Об аудиторской деятельности» и национальных правил аудиторской деятельности. Наши обязанности в соответствии с этими требованиями описаны далее в разделе «Обязанности аудиторской организации по проведению аудита бухгалтерской отчетности» настоящего заключения. Нами соблюдались принцип независимости по отношению к аудируемому лицу согласно требованиям законодательства и нормы профессиональной этики. Мы полагаем, что полученные нами аудиторские доказательства являются достаточными и надлежащими, чтобы служить основанием для выражения аудиторского мнения.

**ОСНОВАНИЯ ДЛЯ ВЫРАЖЕНИЯ АУДИТОРСКОГО МНЕНИЯ С ОГОВОРКОЙ**

Дата проведения инвентаризации не совпала с датой проведения аудита, аудитор в аудируемом периоде не принимала участие в проведении инвентаризации по состоянию на 31 декабря 2017 года, в связи с чем, допускается возможность наличия определенных искажений в бухгалтерском учете и отчетности ООО «Страховой брокер «Центр страхования».

**ПРОЧИЕ ВОПРОСЫ**

Аудит бухгалтерской отчетности Общества с ограниченной ответственностью «Страховой брокер «Центр страхования» по состоянию на 31 декабря 2017 года за год, закончившийся 31 декабря 2016 года, проводился и соответствующие показатели за предшествующий отчетный период были проверены. Это не освобождает нас от выполнения надлежащих аудиторских процедур в отношении начальных данных.

**ДОПОЛНИТЕЛЬНАЯ ИНФОРМАЦИЯ О НАЛИЧИИ ИСТОЧНИКОВ СОБСТВЕННЫХ СРЕДСТВ (НЕРАСПРЕДЕЛЕННАЯ ПРИБЫЛЬ).**

Нераспределенная прибыль прошлых лет по состоянию на отчетную дату 31 декабря 2017 года составляет 38 000,00 (Тридцать восемь тысяч белорусских рублей нуль копеек) белорусских рублей, которая отражена по строке 460 (приложение № 1) «Бухгалтерский баланс», а также (приложение № 3) «Отчета об изменении собственного капитала» по строке 200 графы 8, за предыдущие отчетные периоды 2015, 2016, 2017 годы, из которых 10 000,00 (Десять тысяч белорусских рублей нуль копеек) белорусских рублей могут быть направлены на увеличение Уставного фонда Общества с ограниченной ответственностью «Страховой брокер «Центр страхования».
Обязанности аудируемого лица по подготовке бухгалтерской отчетности
Руководство аудируемого лица несет ответственность за подготовку и достоверное представление бухгалтерской отчетности в соответствии с законодательством Республики Беларусь и организацию системы внутреннего контроля аудируемого лица, необходимой для подготовки бухгалтерской отчетности, не содержащей существенных искажений, допущенных вследствие ошибок и (или) недобросовестных действий.
При подготовке бухгалтерской отчетности руководство аудируемого лица несет ответственность за оценку способности аудируемого лица продолжать свою деятельность непрерывно и уместности применения принципа непрерывности деятельности, а также за надлежащее раскрытие в бухгалтерской отчетности в соответствующих случаях сведений, относящихся к непрерывности деятельности, за исключением случаев, когда руководство намеревается ликвидировать аудируемое лицо, прекратить его деятельность или когда у него отсутствует какая-либо иная реальная альтернатива, кроме ликвидации или прекращения деятельности.
Лица, наделенные руководящими полномочиями, несут ответственность за осуществление надзора за процессом подготовки бухгалтерской отчетности аудируемого лица.

**ОБЯЗАННОСТИ АУДИТОРСКОЙ ОРГАНИЗАЦИИ ПО ПРОВЕДЕНИЮ АУДИТА БУХГАЛТЕРСКОЙ ОТЧЕТНОСТИ**

Наша цель состоит в получении разумной уверенности в том, что бухгалтерская отчетность аудируемого лица не содержит существенных искажений вследствие ошибок и (или) недобросовестных действий, и в составлении аудиторского заключения, включающего выраженное в установленной форме аудиторское мнение. Разумная уверенность представляет собой высокую степень уверенности, но не является гарантией того, что аудит, проведенный в соответствии с национальными правилами аудиторской деятельности, позволяет выявить все имеющиеся существенные искажения. Искажения могут возникать в результате ошибок и (или) недобросовестных действий и считаются существенными, если можно обоснованно предположить, что в отдельности или в совокупности они могут повлиять на экономические решения пользователей бухгалтерской отчетности, принимаемые на ее основе.
В рамках аудита, проводимого в соответствии с национальными правилами аудиторской деятельности, аудиторская организация применяет профессиональное суждение и сохраняет профессиональный скептицизм на протяжении всего аудита. Кроме того, мы выполняем следующее:
- выявляем и оцениваем риски существенного искажения бухгалтерской отчетности вследствие ошибок и (или) недобросовестных действий; разрабатываем и выполняем аудиторские процедуры в соответствии с оцененными рисками; получаем аудиторские доказательства, являющиеся достаточными и надлежащими, чтобы служить основанием для выражения аудиторского мнения. Риск необнаружения существенных искажений бухгалтерской отчетности в результате недобросовестных действий выше риска необнаружения искажений в результате ошибок, так как недобросовестные действия, как правило, подразумевают наличие специально разработанных мер, направленных на их сокрытие;
- получаем понимание системы внутреннего контроля аудируемого лица, имеющей значение для аудита, с целью планирования аудиторских процедур, соответствующих обстоятельствам аудита, но не с целью выражения аудиторского мнения относительно эффективности функционирования этой системы;
- оцениваем надлежащий характер применяемой аудируемым лицом учетной политики, а также обоснованности учетных оценок и соответствующего раскрытия информации в бухгалтерской отчетности;
- оцениваем правильность применения руководством аудируемого лица допущения о непрерывности деятельности и на основании полученных аудиторских доказательств делаем вывод о том, имеется ли существенная неопределенность в связи с событиями или условиями, в результате которых могут возникнуть значительные сомнения в способности аудируемого лица продолжать свою деятельность непрерывно. Если мы приходим к выводу о наличии такой существенной неопределенности, мы должны привлечь внимание в аудиторском заключении к соответствующему раскрытию данной информации в бухгалтерской отчетности. В случае если такое раскрытие информации отсутствует или является ненадлежащим, нам следует модифицировать аудиторское мнение. Наши выводы основываются на аудиторских доказательствах, полученных до даты подписания аудиторского заключения, однако будущие события или условия могут привести к тому, что аудируемое лицо утратит способность продолжать свою деятельность непрерывно;
- оцениваем общее представление бухгалтерской отчетности, ее структуру и содержание, включая раскрытие информации, а также того, обеспечивает ли бухгалтерская отчетность достоверное представление о лежащих в ее основе операциях и событиях.
Мы осуществляем информационное взаимодействие с лицами, наделенными руководящими полномочиями, доводя до их сведения, помимо прочего, информацию о запланированных объеме и сроках аудита, а также о значимых вопросах, возникших в ходе аудита, в том числе о значительных недостатках системы внутреннего контроля.
Мы предоставляем лицам, наделенным руководящими полномочиями, заявление о том, что нами были выполнены все требования в отношении соблюдения принципа независимости и до сведения этих лиц была доведена информация обо всех взаимоотношениях и прочих вопросах, которые можно обоснованно считать угрозами нарушения принципа независимости, и, если необходимо, обо всех предпринятых мерах предосторожности.

Индивидуальный предприниматель
Аудитор А.С.Самкова
Квалификационный аттестат аудитора № 0001023 выдан на основании приказа Министерства финансов Республики Беларусь от 26.08.2003..

Индивидуальный предприниматель Самкова Алина Сазоновна, Республика Беларусь, 220088, г. Минск, ул. Антоновская д.10, пом.67 Тел. (8 017) 310-32-37, зарегистрировано решением Минского городского исполнительного комитета № 900 от 31 марта 2000 года за № 325. Внесено в Единый государственный регистр юридических лиц и индивидуальных предпринимателей Республики Беларусь за №101352638.

Дата подписания аудиторского заключения
«26 » апреля 2018 года

Приложение 1
к Национальному стандарту
бухгалтерского учета и
отчетности "Индивидуальная
бухгалтерская отчетность"



На магіле Паўла Шарамета адкрылі помнік. Ён выглядае нібы расколаты куб з чорнага граніту. На фота: маці журналіста.


Беларуская спявачка, удзельніца міжнароднага конкурсу «Еўрабачанне» Алена Ляпохіна афіцыйна змяніла сваё імя і прозвішча на сцэнічны псеўданім — Алёна Ланская.

«Да некаторых самых важных падзей свайго жыцця ты ідзеш вельмі доўга! І нарэшце, калі яны адбываюцца, ты адчуваеш бязмежнае шчасце!» — адзначыла яна ў *Instagram*.


**Мексіканскі Playboy прызнаў самай сэксуальнай 26-гадовую Караліну Рамірэс. Гэтая калумбійская мадэль трапіла на вокладку часопіса.**



**Такая дружная вясна, як гэтая, бывае рэдка. Цёплае надвор'е захаваецца і цягам наступнага тыдня. Гэтыя дні ідэальныя для квецені. Сёлета можна чакаць выдатнага ўраджаю садавіны і ягад.**


Новая зорка інстаграма: расіянка з тварам Барбі і целам Халка

21-гадовая расіянка Юлія Вінс мае амаль 800 тысяч падпісчыкаў у інстаграме. Сакрэт папулярнасці — у незвычайнай знешнасці дзяўчыны. Яна мае магутнае накачанае цела, якое рэзка кантрастуе з тварам дзяўчынкі-падлетка.

Юлія займаецца паўэрліфтынгам, у жыме лежачы падымае больш за 100 кілаграмаў, мае званне майстра спорту міжнароднага класа.



## Анекдоты і жарты

— Чаму вы сталі доктарам?

— У мяне асаблівага выбару не было, я ж скончыў медыцынскі ўніверсітэт!

* * *

Чаму беларусы любяць даляры? Бо на іх адлюстраваны розныя прэзідэнты.

* * *

Раскамнагляд прыняў рашэнне заблакаваць рай, бо апостал Пётр адмовіўся перадаць ім ключы.

* * *

— Доктар, вы мяне пазналі? Гэта я прадала вам дыплом аб заканчэнні медуніверсітэта.

* * *

У Еўропе цяпер тры мужыкі — і гэта Тэрэза Мэй, Ангела Меркель і Даля Грыбаўскайце.

* * *

Я ўжо пяць гадоў хаджу да адной і той самай цырульніцы. А стрыгуся — у другой.

* * *

Я трымаю гаспадарку: дзве каровы, свінні, авечкі, гусі-качкі... яшчэ там, па дробязі... Падкажыце, калі ласка, як мне наладзіць адносіны з суседзямі знізу?

* * *

Расіян не запалохаць вайной з Амерыкай: у іх і без таго паў-Расіі выглядае так, нібы яе кожны дзень абстрэльваюць крылатыя ракеты.

## «НН» 112 гадоў з вамі

**Меж Японью і Кітаем можа пачацца вайна.** Кітайцы робяць японцам «байкот»: не купляюць японскіх тавараў, не пасылаюць сваіх тавараў на японскіх караблёх, не трымаюць грошай японскіх. Ад гэтага Японіі дрэнна прыходзіцца, бо фабрыкі, каторыя найболш тавараў сваіх слалі ў Кітай, цяпер не ведаюць, што з імі рабіць. І Кітай, і Японья не кідаюць гатавацца да вайны, прывазіць аружжа.

**«НН». 9 мая 1908**

**Лорд Бэл: «Пытанне аб кантракце з беларускім прэзідэнтам можа быць вырашана ў найбліжэйшыя тыдні».** Піяр-менеджар, кіраўнік рады дырэктараў кампаніі «Чайм Кам'юнікейшнз» лорд Цімаці Бел пацвердзіў інфармацыю аб тым, што накіраваў у Мінск праграму дзеянняў, аднак адмовіўся каментаваць як саму праграму, гэтак і магчымы кантракт з беларускім бокам. Нагадаем, што 13 сакавіка Цімаці Бел сустракаўся з Аляксандрам Лукашэнкам. Згодна з афіцыйнымі паведамленнямі, гэта быў «прыватны дзелавы візіт». Пасля сустрэчы лорд Бел паведаміў журналістам, што яго кампанія працуе ў многіх краінах свету «над выбудовай іміджу».

**«НН». 2 мая 2008**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»: З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

в. а. галоўнага рэдактара Ягор Аляксандравіч Марціновіч
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Зміцер Панкавец, Настасся Роўда, Андрэй Скурко
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220004, Мінск, а/с 62
Tel/fax: (017) 316-48-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 12 палос фарматам А2, 6 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у Аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» код BLBBBY2X.

Наклад 3001. Газета выдаецца 12 разоў на год.

Нумар падпісаны ў друк 18.30 01.05.2018.

Замова 1660.

Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 18005